## Голас чысты і шчыры

Слова гэтае пішу па праву сяброўства, якім паяднаны я з Уладзімірам Ягоўдзікам ужо каля сямі гадоў. Наша знаёмства завязалася, калі Валодзя канчаў філфак, меўся пісаць дыпломную, а я прызначаўся яму ў кіраўнікі. Студэнт спадабаўся сталасцю разваг пра жыццё і літаратуру, нейкай адчайнай упэўненасцю ў сваёй праваце, якая, між тым, спалучалася са шчырасцю і паэтычнасцю ў поглядзе на свет. У гэтым, як і ў самой манеры трымацца, было нешта новае ў параўнанні з тымі дыпломнікамі, якія рахмана глядзяць на свайго кіраўніка, прадчуваўся, карацей кажучы, чалавек са сваім характарам. І сваім, як выявілася крыху пазней, няпростым і нялёгкім жыццёвым лёсам.

Валодзя рана застаўся без бацькоў, рана падаўся ў людзі. З роднымі Кастровічамі, што на Слонімшчыне, яго звязвалі канікулы, падчас якіх ён прыязджаў з інтэрната да свайго дзеда. У тым жыцці было ўсяго, але добрага, мабыць, нашмат больш, чым благога. Ды і шчырая маладая душа, напэўна, з большай ахвотай і чуйнасцю настройвалася на дабрыню і спагадлівасць, на светлае і праўдзівае, чым на такое, што можа цяжкім каменем легчы на сэрца. Зрэшты, пра тое, як яно і што было на пачатку жыццёвай дарогі, Валодзя, спадзяюся, яшчэ напіша. Цяпер жа магу сказаць, што выпрабаванні, якія выпалі на яго долю, не заглушылі ў

ім парасткаў надзеі і светлай веры ў трывалыя асновы чалавечага быцця. Пацверджаннем гэтаму і яго творчасць.

Пра тое, што апрача вершаў, якія ўжо друкаваліся, ён піша і прозу, я дачуўся ў тое наша першае знаёмства. Зацікавіўся, папрасіў даць спачытаць. Апавяданне «Стрэл дуплетам» спадабалася сюжэтнай стройнасцю, стылёвай зладжанасцю, добраю мовай, выразна акрэсленымі характарамі, верагоднасцю жыццёвай сітуацыі, актыўнай аўтарскай пазіцыяй — якраз тым, што давала права бачыць у аўтару чалавека з задаткамі творчай асобы. Неўзабаве «Стрэл дуплетам» быў надрукаваны ў «Літаратуры і мастацтве». Дарэчы будзе сказаць, што тыднёвік прыхільна паставіўся да маладога аўтара — пасля першага з яго старонак стартавалі да чытача другое, трэцяе, чацвёртае апавяданні...

Тым часам на творы Ягоўдзіка з'явіліся прыхільныя адгалоскі ў друку. Мне ж радасна было ўдвайне, што ў нашу літаратуру ідзе яшчэ адзін цікавы і перспектыўны празаік.

Яго першай кнізе ўласцівы праўдзівасць, шчырасць і пошукавасць адначасова. Ёсць тут лепшыя і горшыя апавяданні, але няма анемічных, напісаных абыякавай рукою, няма твораў-спарышоў, створаных па аднаму і таму ж узору, пазбаўленых непаўторнасці ў змесце, настроі, форме. А справа ў тым, што аўтар не майструе свае творы, а вырошчвае іх у сваёй душы і толькі потым, як задума выспеліцца, пераносіць на паперу, перапісвае, адшліфоўвае, імкнучыся пры гэтым захаваць першасны настрой-покліч, які своеасаблівай музыкай асвятляе напісанае. У ранніх апавяданнях гэтай музыкі менш, у пазнейшых — больш.

Акідаючы вокам зробленае маладым аўтарам, бачыш у яго творчасці два прамежкі. У першы празаік імкнуўся рэзка ўмяшацца ў жыццё і па меры магчымасці перайначыць яго, узняць вострыя маральна-этычныя праблемы, сутыкнуць характары ў адкрытым канфлікце, пакапацца ў псіхалогіі. Найбольш характэрныя апавяданні гэтага перыяду — «Стрэл дуплетам», «Дзень няўдачы», «Пасылка з дому».

Аднак паступова ў маладога пісьменніка пачынае абуджацца цяга да гармоніі, да пошуку цэласнасці ў сабе і ў свеце, у дачыненнях з роднай зямлёй, яе гісторыяй і прыродай, звычаямі і духоўнымі каштоўнасцямі. Калі гаварыць пра традыцыі і настаўнікаў, то Ягоўдзіку найбольш імпануе вопыт Янкі Брыля, пра творчасць якога ён ужо выказаўся ў друку словамі шчырай любові і захаплення.

У чым жа бачыцца ўнутраная роднасць створанага прызнаным майстрам і маладым празаікам? Перш за ўсё ў пранікнёным лірызме, душэўнай самааддачы, у імкненні да духоўнай напоўненасці слова, да ўнутранай свабоды і нязмушанай натуральнай гаворкі ад свайго «я» пра сапраўды важнае і значнае, чаму калі не сам ты быў сведкам, то твой народ, людзі, якія жывуць побач ці з якімі ты некалі сутыкнуўся. Такія асаблівасці найбольш выразна выявіліся ў аповесці «І паклікала я...».

Твор гэты просты і складаны адначасова. Просты сваёй гарманічнай зладжанасцю жыцця са стылем і словам, душэўнай прасветленасцю, шчырай любасцю да зямлі і людзей, пра якіх пішаш, за якіх радуешся, перажываеш, пакутуеш. І ў той жа час складаны і драматычны, як складанай і драматычнай была гісторыя

нашага народа, крывава-трагічным нядаўняе ваеннае мінулае...

У гэтай далучанасці да жыцця ў яго шматлікіх праявах, у маладой шчодрасці душы, спалучаных з нястомнай працавітасцю і самааддачай, бачыцца мне плённаю на здабыткі дарога ў літаратуру Уладзіміра Ягоўдзіка. Хочацца спадзявацца, што яго чысты і шчыры голас толькі набірае сілу і з часам усё больш упэўнена і натхнёна будзе гучаць у зладжаным хоры беларускай літаратуры.

*ЯУГЕН ЛЕЦКА*

# «І паклікала я...»

Аповесць

*У вянок МАМЕ*

I . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

II И зехавшися много лихого хрестьяном учинили, не по-хрестьянскии а ни по-человеческии мучили люди, а ни межи поганских воинах таких мук не было.

Мучили люди немилостиво, имаючи и запираючи у-в ызбах и зажигали избы з людми, а иншие люди под стену головами клали, ланцухи великими поднимаючи хоромы, и з заду люди жгли, а иных жонок и мужиков и деток малых на коле тыкали, а иных мук не мочи выписати...

III . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

IV ...сонца стаяла ўжо высока, проста над галавою, а я толькі-толькі выбраўся да ракі. Такой бяды! — суцяшаў я сябе.— Наперадзе бясконцы летні дзень, калі захацець, так можна выкупацца, што аж дрыжыкі забяруць. Як у дзяцінстве. У тыя далёкія гады Прырэчча, хоць і пачыналася няблізка, за сем кіламетраў ад вёскі, было нашай улюбёнай мясцінай. Сюды я бегаў разам з сябрукамі купацца, збіраць казлякі і гарэхі, усялякія ягады; сюды ў гарачую сенакосную пару тросся на возе побач з дзедам Піліпам, трымаючы абедзвюма... 

А незабыўныя цёплыя вечары, цесны ўтульны буданчык на грудку пад маладым разлапістым дубком, а зыркае ненажэрнае вогнішча ўначы, скупая дзедава ўсмешка, страшныя расказы пра гадзюкаў і вужоў, якіх касцы выпорвалі тут ледзь не на кожным новым пракосе!..

Даўно паламаліся тыя малыя граблі, што змайстраваў свайму дарагому памочніку дзед, няма ўжо і самога дзеда, а я, сталася так, з таго часу больш не наведваўся ў Прырэчча, хоць зрэдку, на дзень-другі і заяўляўся ў родную вёску. Усё не выпадала. Усё не было калі. Нарэшце сёння от выбраўся...

Адразу за вёскаю скончыўся асфальт, і дарога далей пасунулася пясчаная, сыпучая, перамолатая Коламі трактароў і аўтамашын. Мо з кіламетр я цягнуўся то адною, то другою ледзьве пазначанаю каляінаю, а тады надумаў разуцца. Прысеў на абочыне, каля вы-

сокай, амаль у чалавечы рост, сцяны жыта, расквечанай рамонкамі і валошкамі, выбавіў з мокрых кедаў ногі. Падхапіўся ісці далей — і давай скакаць з аднае нагі на другую. Пасля кінуўся бегчы, бо памалу ісці было немагчыма. Гарачы, што прысак, пясок агнём пёк у падэшвы. Бегчы было цяжка. Ногі вязлі, твар, бы крапівою, абпальваў сухі калючы ветрык. А над галавою, быццам сама хлапчуковая радасць твая, цурчэў і цурчэў жаўручок.

Затым быў стромкі ўзгорак і на самым ягоным грэбені — бярэзіна. Старая, з чорным, быццам гарэлым, камлём, тоўстымі, адтапыранымі ў адзін бок галінамі. Па гэтых галінах, як па драбіне, калісьці я ўзлятаў разам з сябрукамі на самую вяршаліну і глядзеў, ці далёка яшчэ рака. Ракі з-за цёмна-сіняй хмары лесу, ведама, відно не было, але кожны з нас адчайна бажыўся: бачу! А можа, і папраўдзе бачылі? Тады ж, у дзяцінстве, бярэзіна даставала да самага неба, а кожны з нас быў дужы і вялікі, як сапраўдны асілак.

Пасля бярэзіны дарога неўпрыкмет павужэла і рашуча пачала забіраць улева, да лесу. Тут ужо ісці бызало лягчэй. Пясок паступова змялеў і на абочыне заззмяілася вузенькая веласіпедная сцежка. Гладкая, што асфальт. І гэтакая ж цвёрдая. Пяты з непрывычкі ўміг забалелі.

Я ішоў ужо другую гадзіну і зусім не чуў стомы. Белае сонца па-ранейшаму стаяла проста над галавою, няшчадна паліла ўсё навокал, а мне было добра. Я ўсё бачыў, усё прыкмячаў вакол сябе, нават маленькую грушку-дзічку ў рове каля дарогі згледзеў. Чыясьці добрая гаспадарлівая рука прывязала грушку да ўбітага ў зямлю кійка. І ад гэтага на душы яшчэ больш павесялела, і я зноўку пабег, адчуваючы сябе вольнаю птушкаю.

Лес, калі дарога нырнула ў ягоныя густыя нетры, сустрэў халадком, цішынёю. Нават той, што быў, ня-

смелы ветрык кудысьці прапаў, не адважваўся парушыць спакой гонкіх соснаў, багатых ялінаў. Са шкадаваннем прысеў і зноўку нацягнуў на ногі кеды.

Мясціна проста на вачах глушэла. Векавыя дрэвы падступалі да самай сцяжынкі, пад нагамі пачалі трапляцца тоўстыя брыдкія карнявішчы, падобныя да гадзюкаў. Тут глядзі ды глядзі, а то нядоўга даць нырца ў хваёвую шыкату.

Гэтай мясціны я не памятаў, але быў спакойны, упэўнены: не такое ўжо і вялікае Прырэчча, каб у ім заблудзіць. Акрамя таго — гэта ж м а ё, р о д н а е Прырэчча, якое калісьці я ведаў, як пяць сваіх пальцаў, якое гэтулькі разоў сніў, пакуль вярнуўся сюды. Яно клікала мяне, маё Прырэчча, і я прыйшоў; зноўку бягу тымі самымі сцежкамі, што вывелі мяне ў вялікі, неабдымны свет. Ты гэткае дзіўнае, як і было, Прырэчча, твае яліны і хвойкі па-ранейшаму трымаюць на сваіх зялёных плячах маё неба. Чаму ж так доўга я брыў да цябе? Чаго шукаў у другой, чужой старане?..

Між тым сцяжынка пачала падымацца на ўзгорак, і наўкола адразу папрасторнела. Яліны і хвойкі трымаліся тут паасобку, заглушылі пад сабою і каля сябе ўсялякае дробнае кустоўе; затое папаратніку тут была раскоша, і ён рос цэлымі астравамі. Прайшоў яшчэ крыху і на нешырокай утравелай прагаліне, шчодра залітай залаціста-сонечным святлом, нечакана прыкмеціў яркую кроплю-крывінку, праз імгненне — яшчэ адну. Пільней прыгледзеўся — суніцы! Як тут не спыніцца?!

Прагаліна ўшыркі была метраў з дваццаць, колькі ж мела даўжыні — сказаць цяжка, бо хутка паварочвала, хавалася за сцяною лесу. А ягадаў на ёй — як хто рассыпаў! І адна за адну буйней, жаданей. Укінеш у рот, не паспееш заплюшчыць вочы, як ужо растае. Спачатку я скакаў пасярэдзіне гэтай шчодрай

мясцінкі, затым, шкадуючы, што не захапіў з сабою аніякага посуду, прысеў на кукішкі з краю — не хацелася таптаць ягадніку. І не паспеў азірнуцца, як апынуўся на паваротку, каля маладой прысадзістай хвойкі, што ўзбегла на невялічкае ўзвышша. Суніцаў тут было не асабліва багата, але трапляліся буйныя, сакаўныя. Прыйшлося затрымацца, пакружыць на месцы. Нарэшце, рады, як дзіця, адарваў пагляд ад зямлі і спатыкнуўся, дзівячыся: стаю каля ўваленага, зарослага высокім папаратнікам, чорнага ўвахода ў нейкае схоўішча, відаць, у зямлянку.

Гэта здарылася так нечакана, што колькі хвілін я стаяў нерухома.

Наўкола нічога не змянілася, усё было, як і дагэтуль. Плавілася ўвышыні сонца, панавала звычайная лясная цішыня, чырванелі пад нагамі суніцы. І ўсё-такі я адчуваў: штосьці няўлоўна перайначылася, нарадзіла ў маёй душы неспакой. Захацелася пайсці адсюль. І чым хутчэй, тым лепш. Але я стрымаў сябе. Спакойна агледзеў зямлянку зверху, асцярожна пачаў спускацца.

Перад самым уваходам на нейкае імгненне спыніўся: «Чаго туды лезці?..» Затым нагнуўся як мага ніжэй, каб не ўперыцца галавою ў тоўсты абымшэлы кругляк, ступіў з шырока расплюшчанымі вачыма ў чорную цемень.

Спачатку нічога не было відаць, адно востра адчуваў тварам непрыемную гнілую сырасць. Паспрабаваў хоць крыху падняць вышэй галаву. На плечы, за тэніску, сыпануў пясок. Пакрысе вочы прывыклі да змроку, разгледзеўся збольшага вакол сябе.

Звычайная, з часоў апошняй вайны, партызанская зямлянка. У адным кутку з-пад усялякага смецця вытыркалі чорныя патрушчаныя цагліны, у другім — горбілася вялікая куча пяску: праламаліся жэрдкі, і аб'ехала амаль палова сцяны.

Выходзіў наверх і ледзьве не ўпаў — зачапіўся за нешта нагою. Вярнуўся, выграб з зямлі чорную, пабітую ржою, салдацкую каску. Цэлую, без ніводнай трэшчынкі. Хацеў абабіць яе ад пяску, стукнуў нямоцна пучкамі пальцаў...

Каска праламалася.

∨ Лес расступіўся раптоўна і як бы выпхнуў мяне на лугавое раздолле. У твар адразу дыхнуў лёгкі ветрык — нізавы, салодкі, ажно закружылася галава. Трава стаяла высокая, у пояс. Усюды расцёкся блакітны званец, як заўсёды ў лагчынах і лагчынках купчэлі парпуровыя зязюльчыны слёзы. Багата было і іншых кветак — жоўтых, малінавых, белых. Яны раслі цэлымі астравамі і ўперамешку і не шкодзілі адны адным. Сонца хапала ўсім. Цяжка бомкалі залацістыя чмялі, хадзілі туды-сюды працавітыя пчолкі, пырхалі стракатыя матылі.

Колькі хвілін я стаяў на месцы, не ведаючы, у які бок падацца шукаць сцяжынку да ракі. Куды ні паглядзіш — некранутая лугавая цаліна. Ажно радасць бярэ. Тады як хто піхнуў мяне ў спіну — пайшоў напрасткі. Ведаў, што кепска раблю: як будзе пасля касцам, калі кожны пачне цягацца, дзе яму ўздумаецца? Але спыніцца ўжо не мог, па праўдзе кажучы, не хацеў. Так добра, так лёгка ішлося!

Калісьці тут ці непадалёку адсюль шчыраваў з касою-літоўкаю мой дзед. Касіў ён няспешна, нават марудна, за што я вельмі злаваў на яго. Усе мужчыны вунь да ракі ўжо даходзяць, а ён адзін пасярэдзіне дзялкі таўчэцца. І праўда: не косіць, а целяпаецца за касою. Затое як ганарыўся я, калі чуў: пасля Піліпа хоць босы танцуй — луг што бубен застаецца. І калі хто з аднагодкаў пачынаў выхваляцца сваім дужым

бацькам, я не прамінаў упікнуць: мой дзед пасля твайго бацькі яшчэ пракос будзе гнаць. Гэткія словы я таксама не раз чуў ад старэйшых. І паўтараў іх, хоць ужо тады сваім дзіцячым розумам да канца не даваў таму веры. Аднак сябрукі пакорна маўчалі, не асмельваліся пярэчыць таму, што было вядома кожнаму ў вёсцы.

Яшчэ здалёку па невысокім рэдкім хмызнячку здагадаўся: на маёй дарозе трапіцца азярына. Можна было ўзяць крыху ўлева ці ўправа і абмінуць яе, але я наўмысна праставаў наперад. Дзед мой вельмі не любіў азярынаў. А хто іх, скажыце, любіць? Сена на іх не накосіш. І ўсё-такі мне, як і кожнаму з нашай басаногай гвардыі, дужа хацелася, каб чортава вока трапілася менавіта на нашай дзялцы. Тады яшчэ цікавей ішло сенаванне. Было дзе пагойсаць, не зважаючы на тое, што можна ўваліцца ў чорную з зялёнай раскай ваду, нарэшце, было дзе закінуць, не адыходзячыся з дзялкі, самаробную шчупакоўку. Гэта адно. А другое і, напэўна, галоўнае, было вось у чым: калі ў цябе была свая азярына, ты быў удзельнікам сапраўднай вайны. Тыя з тваіх жа сябрукоў, у каго не было свае азярыны, толькі і круціліся непадалёку ў кустоўі, чакалі моманту, каб пазрываць усе твае бела-ружовыя дзівосныя кветкі.

Памятаецца, адным летам мне асабліва пашанцавала: у азярыне, што стаяла якраз на нашай дзялцы, плавала найбольш, як у астатніх ямінах, кветак. Я амаль нікуды не адыходзіўся — усё пільнаваў сваё багацце. Ды хіба выседзіш цэлы дзень на адным месцы? Трэба сена паварушыць, згрэбсці ў валкі, трэба ж і боўтнуцца ў раку. Ды не адзін раз. Сама меней разы тры ці чатыры. Добра, што ёсць у мяне надзейны сябар — Паўлюкоў Коля, які аблюбаваў маю азярыну і цёгае з яе ўсялякую драбязу. Ён хоць ростам не ўдаўся, самы малы сярод нас, ягоных аднагодкаў, ды ні перад

кім не папусціцца. Нават перад старэйшымі хлопцамі. Бо хто не ведае, як умее Коля кусацца! Так грызяне за вуха, што тры дні енчыць будзеш. І кулакамі мялі яго за гэткую хваробу, і нагамі нават аднойчы старэйшыя хлопцы таўклі — усё роўна кусаецца.

Аднаго разу, пад вечар, я папрасіў Колю паглядзець мае лілеі, а сам пабег да ракі. Думаў, не забаўлюся, вярнуся праз якую гадзіну. А тут хлопцы надзьмулі камеру ад вялізнага кола трактара «Беларусь». Навіна! Што мы ні выраблялі з тою камераю. І плавалі на ёй адразу ўсёю кампаніяй, і давалі нырца з яе. Любата! Гэта дык мы вельмі ўпадабалі: не трэба ж вылазіць на бераг.

Вяртаўся я да дзедавага будана, калі зайшло сонца. Над ракою, над лугам слаўся рэдкі туманец. Дзесьці з лазовага куста заходзіўся пакрыўджаны драч. Панавала добрая дзённая віднота — над лесам устала купальская вялікая поўня. Ужо мінаў азярыну, як раптам надумаўся паглядзець на кветкі. Асцярожна, прадзіраючыся праз кусты, падступіўся да самай вады і жахнуўся. На прыгожай знерухомелай люстрагладзі не было аніводнай лілеі. Толькі пасярэдзіне, як вялікая дзівосная кветка, стаяла поўня.

— Ну, шкадлівы кот!..— задыхнуўся я ад роспачы і злосці на Колю.— Даўно табе не лічылі зубоў!..

Я гатовы быў зараз жа бегчы да будана, дзе спаў мой ужо былы сябрук, і надаваць яму кухталёў. Яго, яго гэта работа! Аднак было далёка за поўнач, на лузе дагаралі апошнія вогнішчы, і я пацёгся спаць.

Ледзь толькі сонца выкупалася ў рацэ і ружовае, маладое весела пакацілася над лугам, я быў на нагах. Прадзёр збольшага вочы і, не адкладваючы, рашуча падаўся да Паўлюковых.

Каля будана сустрэў самога гаспадара — невысокага, кругленькага, як качан капусты, дзядзьку Паўлюка. Ён ладзіў у граблях паламаныя зубы.

— Добры дзень, дзядзько!..

— Здароў-здароў...

— Коля ваш ёсцека?

— А дзе ж яму быць? — паглядзеў на мяне са здзіўленнем мужчына.— Спіць, як мышаня, у сене. Вы ж да работы не надта ахвочыя...

Я шуснуў у будан і давай будзіць кулакамі свайго былога сябрука. Ён круціўся, як уюн, кідаўся то ў адзін, то ў другі бок — аніяк не мог адарваць ад сена галавы. Тады я перастаў штурхаць яго, сказаў паціху, падымаючыся на ногі:

— А за лілеі — усё роўна юшку спушчу...

— За якія лілеі? — раптам падхапіўся Коля.— Я доўга вартаваў, ажно пакуль не села сонца і мяне не паклікаў тата.

— Та-а-та!..— перакрывіў я яго і ўрэзаў па лабаціне пстрычку.— Смаркач ты зялёны! Вушатнік!..

Звычайна гэткай абразы Коля нікому не спускаў, а цяпер нават у сваім будане сядзеў ціхенька, схіліўшы набок галаву. «Ну, ведама, ягоная работа!» — падумаў я і, перш чым пакінуць будан, сказаў:

— Толькі адыдзіся куды!..

Рабіць не было чаго, і я пацёгся да ракі. На паўдарозе ўздумаў, што не захапіў з сабою вуды. З неахвотаю павярнуў назад, да свае дзялкі. У бок азярыны не глядзеў, знарок ішоў далекавата ад берага. І ўсё-такі не вытрываў: спыніўся і азірнуўся.

На цёмна-дымнай вадзе, сярод усялякага брыдкага багавіння, як светлая ціхая радасць, яснелі мае кветкі. Усе да адной.

Я доўга стаяў, не асмельваючыся нават зміргнуць вачыма, аж пакуль ранішнюю дрыготкую цішыню не ўспароў знаёмы мне пераможны крык:

— Ага!.. Знайшоў свае лілеі!

Да мяне, як на крылах, у белай расхрыстанай кашулі ляцеў напрасткі Паўлюкоў Коля.

На ўсякі выпадак трэба хавацца, а то ён адразу ўспомніць, хто яго дарэмна пакрыўдзіў.

Азярына, на якую я выйшаў цяпер, была падобна да той, нядаўна ўспомненай. Памерамі невялікая, ушыркі — лёгка перакінеш спінінгам. У плыткай зялёнай вадзе і каля нізкага берага — дробная асака і трыснёг, крыху вышэй — маладая дружная лаза. На вадзе — ані кветачкі. Ні белай, ні жоўтай. Толькі дробненькая раска, ды тырчыць укінутае з берага ламачча.

І ўсё-такі не давала спакою, тачыла ў галаве думка: чаму, дзеля чаго так падрабязна раптам прыгадалася гэтае далёкае дзіцячае яшчэ адкрыццё, што лілеі нанач хаваюцца пад ваду? Ці мала ў дзяцінстве было другіх, куды больш цікавых і значных адкрыццяў? Усіх — не пералічыць, бо з іх тады складалася жыццё.

І нечакана думка, ад якой ажно пахаладзела ўсярэдзіне: «А калі гэта паўторыцца зноў, заўтра ці праз год?! Ці ўратуе ўжо нас зямлянка?..»

Пайшоў, не шкадуючы новых кедаў, па гразкім зарослым беразе. У вачах замест дзівосных казачных кветак — усё тая ж праржавелая каска. Пад нагамі агідна хлюпала, чмякала, пырскала гразь, але я праставаў наперад — трэба было як мага хутчэй выходзіць да ракі.

VI

А рака, як і жыццё, плыла сабе... Як і дваццаць год назад, як і шмат стагоддзяў таму назад, плаўна, няспешна мкнула і мкнула, не ведаючы спачыну, дужая вада. Часам пакідала старое рэчышча, шукала новых берагоў, але не спынялася, не перасыхала. Ніколі, ні на імгненне.

Я выйшаў якраз на паваротак і стаяў на высокім

падмытым беразе. Чуў сябе не зусім добра, але ўсё-такі стаяў, глядзеў, як унізе, захлынаючыся жаўтавата-шэрым шумавіннем, прагна цягне ў сябе ўсялякае ламачча і вырванае з каранямі слабое зелле чорны страшны вір. Трэ было шукаць больш зручнага месца, і я падаўся ўверх па цячэнні.

Далёка адыходзіцца ад паваротні не было патрэбы. Далей пайшоў аднолькава невысокі, утравелы бераг, а там рака зноўку крута забірала ўбок. Процілеглы бераг быў намнога ніжэйшы, чым гэты. Вочы радаваў чысценькі роўны пясочак, пэўна, гарачы, вылежны. Зрэшты, нядоўга і пераплыць туды.

Спыніўся я ў рэдкім цяньку дзвюх невысокіх драбналістых асінак, што нібыта сёстры раслі адна бліз адной. Усеўся на траву, прыціснуўся спінаю да дрэўцаў, палез у кішэню па цыгарэты. Намацаў пальцамі жылку, намотаную на паперчыну, кругленькі, куплены ў вясковай краме, паплавок. Усміхнуўся сам сабе: зноўку звычка з дзіцячых год. Вудзільна выражу з ляшчыны, конікаў налаўлю на беразе і — лавіся рыбка маленькая, лавіся рыба вялікая!.. Але гэта будзе пасля, дзесьці бліжэй пад вечар. Бо якая цяпер рыбалка? Сонца бы трохі і пасунулася з месца, пахілілася на захад, ды пражыць — будзь здароў! Ажно пот на лобе высыпаў.

А каб не белая палатняная кепачка з вялікім пластмасавым брылём сіняга колеру, так напякло б у галаву, што й свет стаў бы нямілы. А яшчэ гэтая гарачая задуха. Нават тут, каля самай вады. Азірнуўся вакол сябе, паглядзеў далей — над лесам вісіць жаўтаватае трапяткое мройліва, якое бывае звычайна перад навальніцамі. На высокім жа абыякава бялёсым небе — ні хмурынкі, ні нават пярынкі ад аблачынкі. Мо і праўда назбіраецца на дождж, а то трэці тыдзень, як ніводнай кроплі не ўпала, зямля аж счарсцвела ад засухі.

Нарэшце здагадаўся разуцца, расшнураваць і паставіць на сонцы, каб сохлі, кеды. Сцягнуў з сябе таксама тэніску, старыя лапленыя-пералапленыя джынсы, на якія баба Волька, татава маці, не можа спакойна глядзець, усё просіць не надзяваць гэтыя лахманы. Потым, паволі дасмоктваючы «арбіціну», узіраўся на дужую хуткую плынь вады, на роўненькі працілеглы пясчаны бераг. Добра было і як бы трохі вусцішна. Нават не ведаю адчаго. Мо ад таго, што ўпершыню за апошнія гады застаўся адзін, без вясёлай кампаніі, сам-насам з думкамі сваімі — няпэўнымі і дзіцячымі. А яшчэ з самага прыезду сюды чуў сябе нібыта трошкі аглушаным, ці што, ажно, здаецца, стаў недачуваць. Як усё роўна вата сядзіць у вушах. Нават спрабаваў мезеным пальцам дастаць тую вату, ды дзе там!.. І аніяк не мог даўмецца: што, што ўсё-такі здарылася?

Напэўна, трэба было ехаць разам з усімі ў тую дыялекталагічную практыку і не швэндацца аднаму, як якому дурню, з магнітафонам па вёсцы. Бачыш ты: усе баяцца, саромеюцца гаварыць у магнітафон. А кожнаму сустрэчнаму абавязкова расталкуй: што запісваю, як запісваю, навошта запісваю. Думалася: змарную адну касету, і ўсё — хопіць. Залік будзе.

Але аднаго разу, лежачы ў гумне на капіцы пыльнага леташняга сена, уключыў паціху магнітафон, што муляў пад бокам. Спаць не хацелася, толькі што вярнуўся з клуба, дзе выседзеў дзве серыі. Надумаўся паслухаць новыя запісы замежных груп, што ўзяў у гэткага ж, як і сам, студэнта-суседа. Націснуў на кнопку... А тут — знаёмы, сухі, як сякераю ў сукаватае дрэва, кашаль і разважлівы, з цяжкім прыдыхам, голас бабы Волькі:

«Акружылі наша сяло фашысты. Дасвеццем, яшчэ сонейка не выкацілася з-за лесу. І давай будынкі ўсе трэсці, партызанаў шукаць. Пераць малых і старых:

гавары ім, дзе бандыты. Забыліся, сабакі, што і ёсць яны — тыя бандыты-крывапіўцы.

А ў маёй сястры два хлопцы былі. У школку ўжо хадзілі. У чацвёрты ці пяты клас. Спалохаліся яны — недзе ў хляве вінтоўку хавалі — і пусціліся ўцякаць. Як усчалі тыя іроды страляніну, глядзець было жах. А бачылі, не сляпыя былі, што ніякія гэта не партызаны, дзеці малыя!..

Восенню гэта было, на другі год вайны. Так і засталіся тыя два хлапчаняці ў полі...»

Далей я запісу не слухаў, выключыў магнітафон. Балюча сціснула, не дыхнуць, горла. Падхапіўся хутчэй і выскачыў з гумна пад маўклівае, шчодра вызаранае неба.

Да раніцы, аж пакуль не пачалі выганяць на пашу кароў, не мог заснуць; усё хадзіў, быццам кагось шукаючы, па вёсцы.

Назаўтра я да палудня не паказваўся бабе Вольцы на вочы, затым заявіўся і сказаў, што запіс не зусім удаўся і яго трэба перапісаць. Гэты — у мяне не прымуць.

— Мо і з вучобы пагоняць? — спалохана спытала жанчына.— З-за мяне, старое, пагоняць...

— Пагнаць-то не пагоняць,— усміхнуўся я,— але стыпендыі — могуць і не даць.

— Тады давай яшчэ што раскажу,— баба Волька рашуча прысела да стала.— Як гэта, дзетка, табе без пенсіі ў тым горадзе?

Я залажыў у магнітафон новую чыстую касету і націснуў на кнопку запісу.

Каля берага, на жоўтым празрыстым мелкаводдзі, паблісквала цьмяным срэбрам дробная рыба. Над ракою, нібыта спаборнічаючы паміж сабою, імкліва ляталі, рабілі ўсялякія нечаканыя складаныя павароты

маленькія чорныя берагавушкі, якіх дасюль штосьці не было відаць. Дзесьці далёка ў густых зарэчных вербалозах адгукнулася і падавілася зязюля. Нават не паспеў выкінуць капейчыны, што зацерлася ў кішэні джынсаў. А выкінуў бы — усё перайначылася б. Як у дзяцінстве, калі рака была нам толькі радасцю і мы купаліся ў гэтай радасці. І берагі не здаваліся цеснымі. Проста купаліся, не думалі пра іх, не заўважалі.

### VII ...Аднак я, здаецца, засядзеўся.

Падняўся хуценька, адчуваючы ва ўсім целе ўсё тую ж неадольную мляўкасць, ступіў на самы краёчак берага. Раптам захацелася разбегчыся і даць нырца. Ды так, каб ажно пырскі вясёлкаю! Але тут жа падумалася пра ўсялякія падводныя карані, карчы, каменне... Трымаючыся абедзвюма рукамі за траву, мякка з'ехаў з берага, апынуўся па калені ў вадзе. Дно было пясчанае, тупкае, хоць танцуй. Тугая напорыстая вада толькі спачатку, на нейкае імгненне, здалася халодную, вострую — і памякчэла, стала лашчыцца. Тады я прысеў, падняў над сабою рукамі дождж пырскаў і кінуўся плыць.

У адзін момант, нават не задыхаўшыся, дастаў сярэдзіны, спыніўся. Дна, аднак, не паспеў намацаць. Рака быццам трэску падхапіла мяне — панесла, панесла... І прыемна: сапраўды адпачываеш і аніякіх намаганняў. Успомнілася: так у дзяцінстве плаваў мой аднакласнік Толік Грышкевіч, які накульгваў на адну нагу. Ляжа на спіну, раскіне рукі — і паплыў. Потым кульгае назад сцяжынкаю. Нарэшце дадыбае, сядзе, звесіць з берага ногі і глядзіць, як мы гуляем, даганяем адзін другога. Тут ужо не толькі па цячэнню, але і супраць прыходзіцца махаць. Ды яшчэ як!

Доўга сядзіць гэтак Толік, пасля зноўку выграбаецца на сярэдзіну ракі, лажыцца на спіну, раскідае рукі — і паплыў... І перад маімі вачыма паўстаў учарнелы гаротны твар Толікавай маці цёткі Ліды: «Сантэхнікам нейкім рабіў ён на той фабрыцы... Дык яны да яго падкаціліся, сунулі, дурню, пару рублёў і давай праз тую каналізацыю, ці як яе, маткі шарсцяныя цягаць і збываць. Ім па шэсць уляпілі, а яму — тры далі...»

А рака тым часам несла мяне да знаёмай крутой паваpоткі, над якім я нядаўна стаяў на высокім абрывістым беразе. Па-ранейшаму я ляжаў на спіне, хмурачыся ад калючага белага сонца. Узяла цікавасць: ці праскочу вось гэтак, без намаганняў, чорны вір?

Цячэнне раптам напружылася, рэзка павяло кудысьці ўбок. Ну, я, вядома, да падмытага берага! У момант перавярнуўся на грудзі, пусціўся сажанкамі. Зносіла страшэнна. Здавалася, не плыву, а проста цераблюся на адным месцы. Паступова плынь аслабла, і я без цяжкасці, хоць і стомлены, даплыў да берага. Праўда, прыгожую, шырокую касу, што бялела якраз на паваротку, усё-такі мінуў і прыйшлося да яе вяртацца пешшу.

Упаў на гарачы, бы прасеяны, пясок, засыпаўся ўвесь, акрамя галавы, доўга-доўга ляжаў нерухома, углядаўся ў тонкае, выліналае неба. Добра. Вылежна. І сумна. Трэба ж было мне ў самым пачатку дарогі набрысці на тую ўваленую старую зямлянку, спатыкнуцца аб пражавелую каску... Дык некалі ў дзяцінстве мы, галапузая малеча, з нашай плыткай Бярозкі, што прытаілася адразу за вёскаю ў чэзлым алешніку, не тое, што каскі — жмені патронаў, цэлыя кулямётныя стужкі выцягвалі. Асабліва ў тым месцы, дзе да вайны, кажуць, быў перакінуты стары драўляны мост. А тут каска, звычайная пражавелая каска. Раней з такіх у нашай вёсцы на кожным надворку куры цеста

дзяўблі. Куды яе болей, дзіравую? Бо нават мы, гуляючы ў вайну, не квапіліся на гэткае дабро.

«Грашым у чуллівасці, чалавеча...— падумаў я сам сабе.— І наогул: ці варта столькі думаць пра халоднае бяздушнае жалеза? Ладна, каб гэта была якая частка ад плуга ці сякера далёкіх прашчураў... Тады другі інтэрас».

Зямля нібыта паціху пагойдваецца, плыве пада мною і я таксама, здаецца, плыву. Як тады, у дзяцінстве, на высока накладзеным возе. Прыпаў да мяккага пахучага сянца, учапіўся, каб не зваліцца, абедзвюма рукамі за тоўсты слізкі рубель і ляжу — сцішаны, ласкавы такі. А воз усё гойдаецца, гойдаецца... І так страшна, што возьме ды перакуліцца.

— Пайшоў, пайшоў, Вожык! — голасна кажа да каня дзед і тузае да сябе ляйчыны.— Бач як выгуляўся за тры дні, ажно бакі вунь ільсняцца...

Я адным вокам бачу над сабою высокую дзедаву спіну з вострымі лапаткамі пад старэнькай, зусім вылінялай на сонцы кашуляй, бачу ягоную чырвоную, парэзаную глыбокімі старэчымі маршчынамі шыю, кароткія, адтапыраныя, бы іголкі, сівыя валасы на патыліцы. Потым пераводжу пагляд, пачынаю сачыць за цікаваю, падобнаю да нейкага знаёмага звярка (зайца, ці што), лёгкаю аблачынкаю, што неадступна плыве каля нас. Зусім блізка. Можна, калі захацець, дастаць рукою. От, глядзіце!

Дзе-еду! А дзе мой дзядуля? О, ён ужо вядзе пракос. Адзін. Болей на лузе — ні душы. Ну, пэўна ж, як заўсёды, апошні дабівае да ракі. Белая кашуля на спіне ажно цёмная ад поту. Мо занесці папіць яму? Вунь як смажыць сонца.

Хапаю бітончык з вадою і зрываюся з месца. Любата бегчы па пакошы. Што вецер ляціш. Нечакана спатыкаюся аб чорную, напалову зрэзаную касою, купі-

ну, і бітончык мой ляціць долу. Нічога, яшчэ засталася кропля вады. Дзядулю хопіць. Зноўку бягу.

А тым часам мой добры стары чалавек усё далей ад мяне, далей... Высокі, у белай кашулі навыпуск, з касою-літоўкаю ў дужых, вялікіх руках. Навокала, як ахапіць паглядам, такі вясёлы сонечны луг. І ён адзін сярод яго. Так далёка-далёка ад мяне...

— Дзе-еду-у!

Няўжо я сапраўды заснуў? Колькі мінут ляжу з заплюшчанымі вачыма. Як аднекуль здалёку-здалёку да слыху вяртаюцца першыя гукі: плёскат, жывое цурчэнне вады, дружны лугавы звон. Нарэшце паднімаю галаву і першае што бачу: над ракою круцяць сапраўдныя мёртвыя петлі берагавушкі, якія жывуць у норах у высокім, нашым, беразе. Штосьці іх устрывожыла — так і рэжуць крылом ваду. Разбураю сваю цёплую пясчаную схованьь, саджуся. І тады заўважаю: сонца як белая размытая пляма. Наваколле стаілася. А ў тым баку, адкуль ідзе рака, небасхіл абдымае чорная маўклівая цемень.

Зараз жа падхопліваюся на ногі і апынаюся вышэй таго месца, дзе на процілеглым беразе ляжыць вопратка. Не раздумваючы, кідаюся ў ваду. Кіпень, а не вада. Зварыцца можна.

Апрануўся, як салдат, у адзін міг. Затое мо з дзесяць хвілін круціўся, як усё роўна прывязаны, на месцы, не ведаючы, куды падацца. Да лесу, не так ужо і далёка, чамусьці не хацелася. І тут, каля ракі, можна заціснуцца пад які куст ці дрэва. А цемень проста на вачах расце, навальваецца. І каб хоць секанула маланка ці азваўся гром! Палез у кішэню па цыгарэты.

Замест пачкі з цыгарэтамі ў дрыжачыя пальцы

трапілася пісьмо ад сябра-аднакурсніка, якое атрымаў учора ўвечары. Разгарнуў ліст (таксама знайшоў час!), прабегся вачыма па-напісаным

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«цяпер шкадую, што не паслухаў цябе, не наабяцаў поўны мех нашай шаноўнай дыялекталагічцы. Закінулі нас у такое балота, што можна завыць ад нудоты. Нават тэліка няма дзе паглядзець. І гэта тады, калі ўсе нармальныя людзі жывуць чэмпіянатам свету па футболу. З ранку і да самага вечара цягаемся з дапатопным пудовым магам па пустых вёсках (касьба, браце, касьба!), шукаем і мучым сваімі допытамі глухаватых старыканаў ды бабулек з мінулага стагоддзя. А яны, як згаварыліся, адно і тое балбочуць: то пра кароўку, то пра пенсію, то пра вайну... Каб не пані дыялекталагічка, што, як авадзень, усё круціцца і круціцца каля нашага мужчынскага квартэта, мы б даўно плюнулі на гэты пусты занятак і ■ ахвотаю праляжалі ўсю практыку дзе-небудзь каля рэчкі.

Прамень святла ў нашае цёмнае царства звычайна трапляе ўвечары. Жэніку нейкім цудам непрыкметна ад народніцы-Еўдакіі ўдаецца пісаць на адной дарожцы казанні мясцовых святых і герояў, а на другой — музычныя праграмы ў абедзенны перапынак.

Пасля вячэры, калі наш пастух ідзе ў люлю, мы бяром маг — і ў другі канец вёскі, у брыгадны чырвоны куток. Ведаеш, танцулькі выходзяць дай божа. У перапынках паміж шэйкамі заместа Хазанава ўрубаем мясцовых, запісаных удзень, хазанавых. Рогат стаіць!

А як адпачываецца вашай ягамосці? Хвалішся, што запісаў ажно тры касеты... Глядзі, не перастарайся. Залік і за адну касету вырвеш, а экзамен — усё роўна прыйдзецца здаваць».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
і шпурнуў, як непатрэбную паперку, у раку. Непрыветная, пацямнелая вада падхапіла тую паперчыну, і хутка яна знікла з вачэй каля знаёмага падмытага берага.

Адвярнуўся ў другі бок, ліхаманкава думаў: што рабіць, куды бегчы? Пасля зусім неспадзеўкі, як выратавальнае кола, думка: тут жа дзесь блізка Камароў паром! А паромшчыку без будана ці хаткі — аніяк не абысціся. Добра памятаю: пры Камары быў. Толькі куды падацца: уверх ці ўніз па рацэ? Тады, у дзяцінстве, дзед Піліп, калі надумваўся выскачыць на высокую, як у нас звалі яе, Паромную дарогу, дык, здаецца, браўся проці цячэння. Але ці не занесла мяне вышэй той мясціны, дзе мы рабілі сена?

Раздумваць болей не было часу, і я пабег уздоўж берага. Проці цячэння, насустрач навальніцы. Наваколле раптоўна перайначылася. Рэзкі нізавы вецер як усё роўна зрываўся з ланцуга, біў, штурхаў у грудзі, не даваў бегчы. Трава на лузе ціснулася да зямлі, аб наш, высокі бераг білася вакарыны.

Ды ўсё гэта я бачыў нейкімі староннімі спакойнымі вачыма, нібыта не я, а хтосьці другі бег па самым краёчку берага насустрач навальніцы...

## VIII

Хоць ён ужо быў чалавек немаладога веку, ніхто да яго ў вёсцы не гаварыў на «вы». От падыходзіць да мужчын, якія, пасеўшы на лаўцы каля магазіна, дружна дымяць «Беламорам» ці «Прымаю».

— А... Здароў, здароў, Камар!..— і кожны з усмешкаю ціске ягоную вузкую, як лодачка, даланю з доўгімі, як цяпер гавораць, музычнымі пальцамі.— Пры-

сядзь, пакуры з намі. Мо што раскажаш цікавае. Ты ж чалавек у нас бывалы, шмат чаго ведаеш...

Толькі намерыцца прыляпіцца дзе-небудзь з краёчку, хоць месца і пасярэдзіне лаўкі знайшлося, як падскокваем мы, малеча, якая заўсёды круціцца каля мужчын, і ледзь не праз аднаго:

— Здалёў, Камар!..

— Ах вы, пух верабʼіны! — тупне нагою каторы з мужчын і пашукае вачыма дубца.— Раўню сабе знайшлі!..— сыпанем, ажно пяты бліскаюць. А Камар, пасміхваючыся ў свае кароценькія сівыя вусы, адмахнецца рукою ды скажа да таго, хто напалохаў нас:

— Чаго ты, братка!.. Мы ж таварышуем.

Таварыш наш сабою быў відны, вялікі. Другім словам тут бадай што і не скажаш. І надта ж худы. Як жэрдка. Камар, дый годзе. Тварык меў даўгаваты, усохлы, з-пад сівых броваў, што тапырацца стрэшкамі, паглядаюць на свет блакітна-шэрыя, заўсёды ўсмешлівыя, маладыя вочы. Чалавек ён быў, гаварылі, нетутэйшы, аднекуль з самога Палесся. Яшчэ з часоў партызанкі застаўся ў нашай вёсцы. Жыў, як і належыць бабылю, з краю сяла, каля могілкаў. Удзень корпаўся каля хаткі альбо ў сваім вялікім, але запушчаным, змарнелым садзе, што нават не быў як след адгароджаны ад могілкаў, уночы — хадзіў на варту ў калгасны кароўнік. Як другія гаспадары, асаблівага клопату Камар з садам не меў: радзіла ў ім заўсёды слаба, мы таксама не вельмі латашылі тыя позні кіслыя яблыкі. Хіба што за цэлы вечар нікуды не ўвабʼемся ў што лепшае. А так — каму ахвота цягнуцца ажно ў канец вёскі ды яшчэ пад могілкі?

Жыў сабе чалавек паціху. Прыгледзішся — і папраўдзе крыху дзівакаваты. Усё з намі, з малечаю, што так і раіцца каля яго. І тут аднаго разу, здаецца, напрадвесні, па хатах пайшла чутка: Камар просіцца ў конюхі. Якраз і вакансія была, ніхто не спяшаўся за-

няць гэтую важную, на той час, пасаду. Брыгадзір пачакаў-пачакаў лепшай кандыдатуры ды згадзіўся: сам жа ў конюхі не пойдзеш.

Месяц прайшоў, другі мінуў, і ўсе ўбачылі, што начальства не памылілася. Камар як прыкіпеў да стайні, ажно, здаецца, начаваў у ёй. Дагэтуль марудлівы, нязграбны, ён раптам перамяніўся. Пажвавеў, разагнуў сваю худую згорбленую спіну і ўсё подбегам, подбегам. Хто й пасмейваўся напачатку, абгаворваў — прыкусіў язык. Так усё ладам пайшло ў стайні, усюды чулася клапатлівая гаспадарова рука. Вазы — пад павеццю, адзін каля аднаго, як усё роўна па шнурочку стаяць. І ўсе адрамантаваныя, падноўленыя. Ні завішчыць табе, ні заходзіць васьмёркаю кола. Запрагай і хоць у самую сталіцу. Хамуты таксама ўсе перагледжаны, падшыты, лейцы — новенькія. Старшыня калгаса, пабачыўшы гэткія перамены, расчуліўся на нейкую сотню ці дзве.

А галоўнае — коні дагледжаныя, не галодныя, хоць ім, вядома, увесну тых прысмакаў — мукі, бульбы ці буракоў, што каровам падвозяць, рэдка калі перападала. Тут ужо мы стараліся, Камаровы памочнікі, якія толькі і круціліся цяпер каля стайні.

У кожнага з нас быў свой любімчык: ці Вожык, ці Пчолка, ці Губаты, ці яшчэ пад якім імем. Яму і скарыначка хлеба з цукрам, што сам, ідучы, не дагрыз, і некалькі сырых бульбін, прынесеных ў кішэні з дому, а то і блінец, схоплены непрыкметна ад матулі ледзь не з самай патэльні. Паложыш на даланю гасцінец, шапнеш, заміраючы сэрцам: «Вожык!..» Конь радасна застрыжэ вушамі, заржэ паціху — ды ад жолаба з постаю, адна салома, сечкаю. Падыдзе да цябе, казытна ткнецца ніжняй вусатай губою ў даланю, як цукерку, нячутна хапяне тую бульбіну і хрумстае смачна, матляе галавою: «Дзякуй табе, дзякуй!»

А дзесьці ў канцы вясны, бліжэй да лета, надыйшло

самае цікавае: Камар пачаў ганяць коні на начлег. І не на выган за вёску, як ягоны папярэднік, а куды задумае: то ў Паламішча, то ў Гальбітова, то ажно ў само Прырэчча. А гэта — няблізка. Сама меней кіламетры тры-чатыры. Ды ўсё цёмным густым хвойнічкам, гразкімі балотцамі.

Спачатку мы з галёканнем, свістам, кожны на сваім кані, выганялі табун за ваколіцу, пасля мо з кілаiметр ляцелі навыперадкі (ну, Вожык, не падвядзі!) і са шкадобаю ў сэрцы спешваліся, вярталіся тумановымі прыцемкамі дамоў. Каб жа заўтра не ў школу ды не матчыны гарачыя бярозавыя дубцы!

Нарэшце прыйшло чаканае лета, і ўжо аніхто не мог утрымаць нас ад спакусы вырвацца разам з Камаром на начлег.

Мы доўга ляцелі за лавінаю табуна. Гарачы пыл забіваў вочы, асядаў на перасмяглых губах, храбусцеў на зубах. А мы ўсё імчалі, імчалі... Невядома куды, у які бок. У ноч.

Нечакана коні прыцішылі бег, спыніліся, збіліся ў кучу. Мы таксама з'ехаліся ў адно месца, пачакалі конна Камара. Ён нячутна падтрусіў на сваёй нізенькай Мышцы, абазваўся глухім заклапочаным голасам:

— Прыбылі, хлопцы!.. Далей топкае балота, праз якое сам чорт не пералезе.

Мы хутка спуталі коней, нацягалі на край лесу да вялізнага Камаровага будана галля і ламачча. Камар сунуў усярэдзіну кучы пучок сухога, ужо сёлетняга ўкосу сена, чыркнуў запалкай. Праз хвіліну ў чорнае неба шуганула высокае полымя, адкінула ад будана густую начную цемень.

— А цяпер — гайда да крынічкі! — закамандаваў Камар.— Абмыемся трохі, а то аж цяжка дыхаць...— і першы падаўся ад вогнішча.

Мы, не раздумваючы, пайшлі следам. Сунемся ўсляпую, а купіны так і скачуць, як усё роўна жывыя, пад

ногі, ну, проста не даюць ісці. Камар жа наперадзе — не затупае, не спатыкнецца, як па шашы шпацыруе. Мы тады моўчкі ў ланцужок за ім. І ўжо не адставалі, не абдымалі болей тых праклятых купінаў.

— У-у!.. Суччыны каты...— паварочваецца да нас, керхае добрым смехам стары.— Даўмелі нарэшце! А то хацелі насамі ўсё балота мне перарыць...

Мы адказваем дружным рогатам, ажно ў лесе адгукнулася звонкае рэха.

Каля самай крынічкі адразу змаўкаем.

Укленчваеш на дашчаты хісткі насціл, з тахканнем у сэрцы доўга хілішся тварам да вады, у якой мільгаціць адненькая зорка.

Потым аніяк не можаш разагнуцца, прагна, жадліва цягнеш і цягнеш праз зубы сцюдзёную, ажно зводзіць сківіцу, смачную-смачную ваду. Так і не здаволіўшыся, устаеш. І радасна адчуваеш: як добра, як вольна, на ўсе грудзі дыхаецца! Дзе падзеліся тая мляўкасць і стомленасць, горкі пыл, што пяршыў у горле? Так і хочацца засмяяцца, загалёкаць, пракрычаць нешта.

Доўга вяртаемся да сіратлівага ачахлага цяпельца. Цяпер ужо мы наперадзе, Камар за намі. Пакуль мы прычашчаліся крынічнаю вадою, коні рассыпаліся па лугавіне. Яны раптоўна вынікаюць з цемені вялікімі прывіднымі ценямі, таму хада наша такая марудная, няўпэўненая.

Перш чым рассесціся каля цяпельца, падкідваем у аслабелы агонь назапашанага сушняку. Чырвонае языкастае полымя з трэскам ускідваецца высока ўгору. У неба да зораў роем уздымаюцца іскры. Шукаем таўсцейшага палення, кладзем яго зверху на сушняк, ціснемся бліжэй да Камара. Ён доўга маўчыць, глядзіць, як весела скача, як радуецца агонь, потым пачынае паціху гаварыць...

— Вось тут, у Прырэччы, ён стаяў... Мясціна ў той

час была глухая, пушчанская, з топкімі багнамі, дрыгвістымі балотамі. Рэдка хто нават з тутэйшага люду ведаў усе яе звярыныя сцежкі і скрады, не гаворачы ўжо пра прышлых. Леснікі — і тыя чулі сябе тут няўтульна, не соўваліся без патрэбы ўглыб Прырэчча. А Валовіч ведаў гэты дзікі востраў як пяць сваіх пальцаў. Ён нарадзіўся бліз Прырэчча, тут была ягоная бацькаўшчына — вялікі багаты на зямлю маёнтак, які дастаўся яму ў спадчыну. З дзіцячых год дружбакуючы з леснікамі і простым людам, бавячыся палянванем, ён як ніхто ведаў Прырэчча, нат знайшоў пераходы праз багну. І тады, падросшы, набраўшыся сілаў, раздаў усю сваю зямлю бядноце, а сам пайшоў у лясныя нетры.

Што асіны, трасліся паны і падпанкі, усе прыганятыя. Чырвоныя пеўні не злазілі з іхніх раскошных палацаў. За крыўды, нанесеныя мужыку, Валовіч караў смерцю.

Як ні пяліся багацеі, а даць рады мужыцкаму заступніку аніяк не маглі. Зграі жандар збіліся з ног, рушукаючы і даганяючы яго. Здаецца, мяцежнік у руках. Цэлы атрад ідзе за ім следам. Ужо нават страляць можна па ім, што ўчапіўся за конскую грыву, як за жыццё.

«Па кані — плі!..» — раве раз'юшаны паручнік.

Бязладная стральба. І жудасны, ажно кроў халадзее ў жылах, крык. Паручнік на скаку правальваецца разам з канём у багністую прорву, праз якую толькі што, быццам на крылах, пераляцеў на сваім белым чорце мяцежнік.

Атрад збіваецца ў кучу, коні прысядаюць на заднія ногі, храпуць як звяры. А з маўклівага чортавага вока ідуць і ідуць малыя і вялікія бурбалкі. Карнікі паварочваюць назад, сілаю цягнуць коней праз хісткія дрыгвістыя балотцы, якіх, здаецца, як імчалі сюды, не было. Раптам пад нагамі як быццам патупчэла.

Атрад ірвануўся з надзеяй наперад — і наткнуўся на новую прорву...

У адчаі карнікі кідаюцца з шаблямі на драбналессе, спрабуюць гаціць прорву. Ды ўсе іхнія намаганні марныя. Тым часам і вечарэе. З векавога змрочнага лесу выпаўзае, клубіцца густы туман. Не тое, што сцежкі — рукі не відаць. Нерассядланыя коні, пазвоньваючы збруяй, скубуць дробненькую, чэзлую асачку, а іхнія гаспадары, галодныя і мокрыя, прывіднымі ценямі сядзяць на кукішках вакол цяпельца, чакаюць раніцы.

Яны яе сустрэнуць. І заўтра, і паслязаўтра, мо і праз месяц. Ды толькі тут, на гэтым гнілым востраве, пасярод непраходнай багны, з якой ім — ніколі не выбрацца...

Анічога не маглі парабіць царскія служкі з Валовічам. І тады задумалі яны сплясці чорную здраду. Папаўзлі па Прырэчных вёсках, якім мяцежнік дараваў зямлю і свабоду ад прыгону, пачалі сватаць сабе паслугачоў. Каму рублём падсалоджвалі, а каго і бізуном падахвочвалі. Ды ніхто не спакусіўся тымі залатымі, нават самыя апошнія п'яніцы, што не прасыхаючы моклі ў карчме. А з бізуном — мужыцкая спіна спакон вякоў сябравала... Ніводзін з былых Валовічавых прыгонных не згадзіўся быць праважатым жандарам у нетры Прырэчча. Так і не змаглі разнюхаць паганцы, чые рукі пякуць для героя хлеб.

Аднаго разу, вяртаючыся пасля няўдалай засады, карнікі спыніліся ў чорнай беднай карчме. Дагэтуль заўсёды міналі яе: у недалёкім мястэчку былі лепшыя. Узрадаваны гаспадар уюном круціўся каля нечаканых гасцей — капейчынай пахне! А калі тыя пачалі вывальвацца на вуліцу, кінуўшы на стол пару медзякоў, прыліп карчмар да жандарскага начальніка:

«Золатам, кужуць, плаціць будзеце?..»

«Ага, золатам...»

«А каня, каня, калі зловіце, каму аддасцё?»

«Таму, каму й золата... Мо разнюхаў што?»

«Мне б задатачак... І паперу, што конь — таксама мой будзе».

«Золата — хоць цяпер. І паперу напішу. Расказвай жа хутчэй!..»

Карчмар ажно падрос ад радасці, калі золата і паперчына апынуліся ў яго за пазухаю. Ён прыпаў, як усё роўна ў пацалунку, да вуха жандарскага начальніка і прагугніў, пырскаючы слінаю:

«Учора сваімі вушамі падслухаў... Найменшы, мо шасцігадовы, смаркач нашага каваля хваліўся сябрукам: а я памагаў тату Валовічавага каня падкоўваць! Яны ж у яго пытаюцца: і часта той конь падковы губляе? А ён ім: кожную ноч — казаў тата!..»

Жандар абедзвюма рукамі таўкануў ад сябе карчмара, ледзь той не грымнуўся вобземель, і, выціраючы рукавом вуха, гыркнуў да салдат:

«Чаго стаіце, ёлупні! Усыпце гэтаму дурню. Усё вуха запляваў мне!..»

Доўга сачылі жандары за маленькаю, урослаю ў зямлю кузняю. І ўсё-такі дачакаліся свайго. Аднае раніцы, на самым золку, Валовіч завітаў да каваля. Толькі саскочыў з каня, адышоўся да калодзежа, каб папіць вады, як са сваіх шчылін павыпаўзалі карнікі. Адзін атрад з вяроўкамі ў руках павіс на кані, другі, рассыпаўшыся ў ланцуг, акружыў самога няўлоўнага мяцежніка.

Валовіч прыціснуўся спінаю да старой векавой ліпіны, што ўздымалася каля калодзежа, і трапнымі стрэламі паклаў на зямлю двух самых нахабных царскіх паслугачоў. Затым паклікаў свайго сябра. Прысмірнелы, ужо спутаны конь раптам уздыбіўся, расцерусіў усіх сваіх ахоўнікаў і падляцеў да гаспадара. У адно імгненне Валовіч ускінуўся на сядло...

Дзесяткі стрэлаў разарвалі ранішнюю цішыню.

А конь усё-такі вырваўся з жалезнай жандарскай пасткі і яшчэ доўга-доўга з трывожным прызыўным іржаннем белым прывідам капыціў Прырэчча, наводзячы страх на паноў і падпанкаў і асабліва на карчмароў...

Вогнішча амаль дагарэла. Над галавою лютуе паганае камар'ё, а мы чамусьці не спяшаемся хавацца ў будан. Сядзім, прыціснуўшыся адзін да аднаго, маўчым. Раптам з таго боку, дзе ляжыць топкае балота, чуецца ціхае кароткае ржанне. Усхопліваемся ўсе як адзін, доўга ўзіраемся ў цемень. А Камар, як сядзеў, так і не павярнуў нават галавы. На яго ным чырвоным ад полымя твары, здаецца, блукала ўсмешка.

Потым лезем у будан, ціха, без усялякіх гульняў, зашываемся ў сена.

Агонь раптам зырчэе, задзірліва скача ўгору, і я, стаіўшыся сярод сваіх сябрукоў, што як ляглі, так і адразу, здаецца, паснулі, выразна, да самай апошняй маршчынкі бачу хударлявы знерухомелы Камароў твар. Мне добра, утульна, цёпла. Усміхаюся сам сабе і заплюшчваю вочы.

...— Дзын-дзын! Дзын-дзын...— дзіўнае, як усё роўна аднекуль з-пад зямлі, трывожнае дзынканне.— Дзын-дзын, дзын-дзын...

Ліхаманкава азіраюся вакол сябе: што гэта? Нічагутка не відаць. Усё наваколле скрадвае густы касматы туман. Куды ісці — невядома. Дзын-дзын... Дзындзын... Дзесьці блізка, зусім побач. Кідаюся ўсляпую на гук і са страхам адчуваю: зямля пад нагамі хістаецца, як бы некуды ўцякае. Няўжо багна?! Падымаю вочы. Наперадзе, быццам клічуць за сабою, няспешна ідуць чорныя нерассядланыя коні. Дзын-дзын... Дзын-дзын... Чые яны? Чаму без коннікаў? А ці не ўсё роўна?.. Абы не тут, абы не аднаму!

Зрываюся з месца і — правальваюся па калені ў цёплую цягучую гразь. Коні таксама спыняюцца, топчуцца на месцы. І праўда: куды спяшацца? Можна і перадыхнуць. Нічога, што гразюка па самыя грудзі. Нават лепш, цяплей стала...

І тут — знаёмае трывожнае ржанне. Неахвотна паварочваю галаву. Проста нада мною, рассейваючы, як сонца, туман, уздыбіўся белы Валовічаў конь! Потым далёкае: дзын-дзын, дзын-дзын... Чорныя цені паспешліва хаваюцца ў шматкі туману, але я ўсё-такі бачу, як наперадзе іх, угнуўшыся, брыдуць жандары, якія гналіся за Валовічам.

Прывязанаю птушкаю б'юся, ірвуся з багны і — прачынаюся.

— Хіба гэта памочнікі!..— вясёлы Камароў голас.— Не дабудзіцца!.. От бэйбусы...

Мо тыдні два ці тры ездзілі мы на начлег з Камаром. На першым часе матулі нашы бегалі сварыцца да старога, лупцавалі сваіх неслухаў, а ўрэшце здаліся, глядзелі адно, каб мы павячэралі ды апрануліся цяплей.

У той вялізны, зрублены з запасам, шыкоўны будан нас набівалася як селядцоў у бочку. Аж часам не ставала месца самому гаспадару. Тады ён масціўся каля цяпельца, якраз насупраць уваxода ў будан, адгароджваючы нас ад нязвыклай начной цемені, і начаваў пад адкрытым небам.

Наслухаўшыся звечара новых дзіўных гісторый, мы засыналі хутка. Засыналі, каб праз многа-многа год пасля гэтых незабыўных вечароў, калі шмат якія з Камаровых расказаў забудуцца, а астатнія — пярой-дуць у казкі, аднойчы прачнуцца яшчэ раз над старонкаю кнігі ці над дакументам...

«2 жніўня 1833 года тысячы жыхароў Гродна са-

браліся каля парахавога склада за Скідальскай заставай. Роўнымі шэрагамі выстраіліся атрады царскіх салдат. «Усе былі ўсхваляваны да такой ступені, што, нягледзячы на велізарнае зборышча людзей, панавала ўсеагульнае маўчанне»,— паведамляў пазней у сваім рапарце на імя міністра Чарнышова князь Далгарукаў. І вось на ўзвышэнне ўзышоў афіцэр і зычным голасам пачаў чытаць рашэнне суда. Яно канчалася словамі: «...дваранін Міхал Валовіч, ураджэнец маёнтка Парэчча Слонімскага павета, прыгаворваецца да пакарання праз павешанне». Тут жа прыгавор быў прыведзены ў выкананне. Цела павешанага Далгарукаў загадаў пахаваць патаемна і ў невядомым месцы, каб не дапусціць маніфестацый».

І далей — знаёмыя назвы вёсак, родныя, дарагія прозвішчы. І слёзы на вачах...

Ну, а потым — здарыўся той самы незабыўны дзень, пра які яшчэ і цяпер, калі ўспамінаюць у нашай вёсцы,— хапаюцца за жываты.

Здаецца, то быў аўторак, першы пасля сёмухі. Як звычайна, выпаліўшы ў печы, управіўшыся на бягу па гаспадарцы, жанкі і мужчыны спяшаліся да стайні. Пара надышла гарачая, сенакосная, таму гэтымі днямі на нарадах было асабліва цесна, людна. Усе рассаджваліся на вазы, гаманілі, чакалі брыгадзіра.

Калі ўсе самыя важныя навіны былі перагавораны, хтосьці з мужчын глянуў праз акенца без шкла на выган, занепакоена сказаў:

— А ці не заспаў, хлопцы, наш Камар? Ніводнага ж каня не відаць...

— Не павінен...— запярэчылі яму.— Стайня, вунь, адамкнёна.

— Канечне, у стайню загнаў! — упэўнена азваліся

другія.— Малайчына, Камар! Дапетрыў. А то прыся ажно да алешніку. А там, пакуль зловіш каня таго, папабегай з лейцамі па куп'і...

— Пайду ўсё-такі пагляджу, чаго ён не вылазіць да людзей,— сказаў той, хто пачаў гэтую гаворку, і злез з воза.

Праз колькі хвілін чалавек той ледзь не вынес спінаю вялізныя дзверы і давай злякана махаць рукою, зваць да стайні людзей.

Мы, малеча, як заўсёды, даляцелі першыя.

У цеснай капцёрцы за самаробным дашчатым сталом, на якім дрыжэў маленькі агарак свечкі, пад хамутамі, развешанымі на сцяне, як абразы, драмаў, седзячы, Камар. Акурат падаспелі і дарослыя.

— Гэй, таварыш перадавік! — крыкнуў з парога нехта малады і гарласты.— Дзе коні падзеў?

Камар сцепануўся як ад сну, прыўзняў са стала галаву, усміхнуўся слаба:

— Дзе ж ім яшчэ быць? На волі коні.

— Як гэта на волі? — здзівіліся ўсе, хто прыбег.— Цябе запрагаць будзем, ці што?

— Ды хіба вы не бачыце, што ён учора дзюбнуў! — раптам засмяяўся хтосьці першы, і ўсе адразу зарагаталі.

— І праўда дзюбнуў!.. Ну й Камар!

— Ага, паглядзіце, адаспацца во ніяк не можа! Пэўна, і бабу нейкую прысніў...

— Учора — і кроплі ў рот не ўзяў,— счакаў, пакуль усе сціхлі, сказаў, задаволена пасміхваючыся ў свае кароткія вусы, Камар.— А сёння — абавязкова дзюбну. Як-ніяк, а свята маё настала. Так сказаць — дзень конюха.

— Які гэта яшчэ такі дзень конюха?

— А вось такі! — Камар крыху для важнасці памаўчаў і дадаў паціху: — Раней ён называўся ў народзе вялік-конскі дзень.

— І як жа мы выпусцілі гэткае міжнароднае свята? — пачухаў патыліцу хтосьці з мужчын.

Зноўку грымнуў рогат. Якраз прытарахцеў на матацыкле брыгадзір. Прадзёрся неяк паміж мужчын у капцёрку, спытаў цвёрдым начальніцкім голасам:

— У чым справа, таварыш Камар? Куды вы падзелі калгасных коней?

— Аддыхаюць коні, Мікітавіч!..— падняўся з лавы, зацерабіў у руках шапку Камар.— Свята сённяка іхняе... Вялік-конскі дзень...

— Што, што? Не ведаю, не чуў такіх святаў! — нават не ўсміхнуўся брыгадзір.— От што, даражэнькі, сядай на ровар і круці хутчэй у лес. Пасля разбярэмся. І свечцы тут не месца, а то яшчэ на цяжкую пасля ўчарашняга галаву пажару наробіш,— толькі нахіліўся, каб задзьмуць маленькі слабы язычок, як Камаровыя далоні засланілі агеньчык.

— Даўней у гэты дзень кожнаму каню свечку ставілі. Як у падзяку за ягоную цяжкую працу. А я ўсяго адну на цэлы табун запаліў...

— Ты што, сапраўды ўжо таго? — вылупіў вочы, пакруціў пальцам каля скроні брыгадзір.— Сенакос на двары, а ён мне выбрыкі робіць. Ды ты ведаеш, што за такія жартачкі на тры гады ўпячы могуць?!

— Мужчыны, як пайсці касіць, аддыхалі ў нядзелю? — трымаючы ў руцэ свечку, строга спытаўся ў брыгадзіра Камар. І сам жа адказаў: — Аддыхалі... І ты нядзельнічаў... Ды што гаварыць! Машына вунь і тая дзень у дзень не ходзіць, часам на рамонце стаіць. А гэта ж коні! Жывыя стварэнні. Хіба дарэмна, ты думаеш, нашы дзяды і прадзеды гэткае свята прыдумалі?

— Ніхто твайго свята не ведае... Ты сам яго з п'янае галавы прыдумаў.

— Не, недарэмна...— гаварыў далей, не слухаю-

чы брыгадзіра, Камар.— Бо людзьмі перш за ўсё сябе чулі, пра душу сваю думалі.

— Здзяцінеў чалавек,— пацінуў плячыма брыгадзір,— зусім здзяцінеў...— і хутчэй пабег да матацыкла.

Табун у той дзень так і не прыгналі да стайні. Не знайшлі. Мы, малеча, здагадваліся, дзе могуць хадзіць коні, але маўчалі, бо ўсе да аднаго радаваліся за Камара.

Праз дні два ці тры ў стайні гаспадарыў ужо другі конюх...

IX Я нават не заўважыў, як перастаў бегчы. Ішоў няспешна паўз ракі, што раптам забірала то ў адзін, то ў другі бок, не нагінаючыся, вышчыкваў з буйнага разнатраўя вузкія язычкі травінак, браў у рот. Сцяжынка даўно згубілася, і я праставаў вольна, дзе мне хацелася. Ізноўку варухнулася думка: бэрсаю траву. Азірнуўся — і знаку не ўбачыў ад свае нядаўняе хады. За спінаю, як і ўсюды, сцяною стаяла трава. Вецер гэтак жа, як і наскочыў, раптоўна аціх. Над Прырэччам уздыбілася, клубілася на адным месцы папялова-шэрая хмара. І каб хоць росчырк маланкі ці азваўся гром! І ні душы навокала. Стала яшчэ больш вусцішна, аж адчуў у нагах мляўкасць, слабасць. Ірвануў на хаду чупрыну высокай асачкі, што трапілася якраз на дарозе, адчуў: востра казытнула другі, пасля вялікага, палец. На ім, зялёным ад травянога соку, тоненька сачылася кроў...

На наступны год пасля няўдалага канюхоўства Камара нечакана піхнулі ў паромшчыкі. Якраз на той бок ракі скасавалі нейкую слабенькую гаспадарку, і нашаму калгасу перапалі багатыя заліўныя лугі,

а ў прывесак да іх — вялізны лапік пясчанай няўдобіцы каля лесу, на якім, акрамя камення — нічога, мусіць, і не збіралі. Без парома было не абысціся. Яшчэ з вясны яго падцягнулі па снезе да ракі, а як толькі адшумеў крыгаход — пасадзілі на ваду.

Ды вось бяда: ніхто не згаджаецца кіраваць новым флотам, нікому неахвотна сядзець аднаму, як таму ваўку, за восем кіламетраў ад вёскі. Дарма, што ляжачыя грошы, гаспадарку — не кінеш. І тады, як і летась, у самы апошні момант успомнілі пра Камара, які цяпер зрэдку хадзіў у брыгаду. Сам старшыня калгаса прыехаў да яго на сваім новенькім «козліку». Неяк згаварыліся наконт сталавання і жалавання, акрамя таго — Камар падпісаў нейкую афіцыйную паперу, што аніякіх вялік-паромных дзён не будзе. І на месца прызначэння. Там мясцовыя цеслі паспелі ўжо збудаваць не будан, а сапраўдны дамок.

Для нас насталі звычайныя будзённыя дні. Камара мы бачылі рэдка. А сігануць да яго — не заўсёды набіраліся адвагі. Дарога хоць і добрая, нядаўна падсыпаная жвірам, ды ўсё-такі няблізкая, асабліва для такіх падарожнікаў, як мы. Хіба што часам пашанцуе вырвацца з дзедам ці з кім яшчэ з мужчын на возе. Але тое здараецца вельмі рэдка, мо адзін раз у месяц, калі не радзей.

У Прырэчча нас цяпер клікаў паром, Камароў паром, як называлі яго ў наваколлі. Якая гэта была вялікая радасць узбегчы на пругкі дашчаты насціл, сэрцам адчуць напяты струною тоўсты трос і заціхнуць, затаіць дыханне пасярод дужай рачной плыні. А потым, калі той, працілеглы бераг, ужо блізка, побач — раптоўна страпянешся, засмяешся і давай скакаць кругом воза ці машыны, падлазіць пад парэнчы, пырскацца з сябрукамі.

— Ну, гіцлі!..— насупоніць бровы Камар і пагрозіць пальцам.— Папрасіцеся яшчэ ў мяне!

А ты ўжо разам з усімі ціснешся бліжэй да мужчын, думаеш, гадаеш пра тое, як гэта першаму скочыць на бераг. На той, не наш бераг. Нарэшце паром цяжка прываліцца бокам да тоўстых берагавых паляў, і не паспее Камар нат як след выраўняць яго, прывязаць — разбягаешся — паляцеў нагамі ўперад!

Падымаешся хуценька. Трэш кулаком вочы, сплёўваеш пясок, якога — мо цэлая жменя ў роце. Аднак адчуваеш сябе героем: першы сышоў на бераг. Ные, баліць нага, на якую не зусім удала гопнуўся. Ды пра гэта нікому — ні слова. Адно крывішся праз смех, чакаючы з выглядам пераможцы, пакуль на зямлю асцярожна ступаюць усе астатнія.

Вяртаешся дамоў позна ўвечары. У кухні, на старэнькім самаробным шкапчыку, як заўсёды на вячэру, стаіць алюміневы паўлітровы кубак пахучага сырадою, накрыты тоўстаю лустаю чорнага хлеба. Адшчыкнеш крыху ад тае лусты, потым як прыпадзеш да кубка, не адрываючыся, адным дыхам, апарожніш яго да дна. І, спаласнуўшы на хаду пад пільным матчыным паглядам брудныя, парэпаныя ногі, бягом да свайго ложка. Толькі прытулішся шчакою, абдымеш падушку — нібыта некуды праваливаешся і доўга-доўга ляціш, не маючы сілы расплюшчыць вачэй...

Нечакана — паром. Адразу пазнаю: Камароў паром. Пасярэдзіне, як тыя Мазаевы зайцы, спалохана ціснуцца адзін да аднаго мае сябрукі. Што з імі? Чаго яны баяцца? Падскокваю пеўнем, спрабую раскатурхаць аднаго, рассмяшыць другога. Дарэмна! Ніводзін не ўсміхнуўся, не азваўся. Уперыліся кожны ў свой бок шырока расплюшчанымі, як бы нечым здзіўленымі вачыма і не варухнуцца, не тое што паглядзяць на

цябе. Адыходжу, пакрыўджаны і злосны, гляджу, ці далёка яшчэ нам плыць, і пруцянею ад страху...

Берагоў няма. Троса таксама. Дзіравы, што сіта, паром стогне, рыпіць, гайдае нас над зямлёю. Рака — што павуцінка, Прырэчча — чорна-зялёная пляма. А недалёка каля яго, рассыпанымі пацеркамі, родная вёска. Прагна шукаю і не магу знайсці свае хаты. Дзе яна, дзе згубілася мая пацерачка, няўжо я не ўбачу, не знайду яе?!

Нясцерпная рэзь у вачах.

Зміргнуць — не адважваюся: раптам прагляджу.

А паром падымаецца ўсё вышай і вышай. Як далёка, як добра відаць! Зямля пад табою што на далоні. Мы ж па-ранейшаму, усе, як адзін, узіраемся туды, дзе лёгкаю смугою роднае Прырэчча. Толькі яно адно шчэ відаць.

Затым на пароме невядома адкуль з'яўляецца Камар. Малады, дужы, з белым вяслом на плячы. Стаіць за тонкімі парэнчамі, на самым краёчку насцілу, усміхаецца да нас, штосьці гаворыць. І мы як усё роўна абуджаемся ад сну, здзіўлена лыпаем адзін на аднаго, нават мацаем рукамі.

Камар жа тым часам зняў ■ пляча сваё белае весло, знаёма, шырока расставіў ногі — вяслуе безупынку, кудысьці кіруе. Паром паслухмяна, хоць і вельмі марудна, паварочваецца то ў адзін, то ў другі бок. Мы хапаем з-пад ног усялякія трэскі, дошчачкі — давай памагаць. Спачатку карабель наш, як прывязаны, наравіста круціцца на месцы. Дружней наляглі — пайшоў! Кіруй жа намі, Камар Камаровіч!

Спыніліся акурат над роднаю вёскаю. Кожны бачыў сваю хату, вокны, нават сцёртую пальцамі клямку ў дзвярах. А на вуліцы, хоць ты плач,— ні душы. Гукаем, клічам, каб паглядзелі на нас, парадаваліся. Ніхто не выходзіць. Спяць бацькі нашы і сваякі, спяць усе аднавяскоўцы.

Доўга, бы звон які, гайдаецца ў небе над вёскаю Камароў паром разам з намі, аж пакуль на ўсходзе нясмела не заружовіцца далёкі небакрай ды не пачнуць пераклікацца, бы вартавыя часу і цішыні, гарластыя пеўні.

Я не прыдумляў гэтага сну, дарэчы, як і папярэдніх. Ён часта мне сніўся ў дзяцінстве, нават зрэдку тады, калі хадзіў у старшыя класы. І, што самае дзіўнае, нікому, нават самым блізкім сябрам, не расказваючы пра яго, аднаго разу пачуў ад меншага за сябе падшыванца: «А я сёння ўночы на Камаровым пароме лётаў!..»

І не паспеў той жаўтароты смаркач разявіць рота, каб хваліцца далей, я абурыўся, наляцеў на яго коршунам: «Што ты прыдумляеш!..»

«Ведама, прыдумляе!..» — зарагатаў адразу за мною адзін мой сябрук, а другі — раптам пачырванеў і моўчкі адвёў убок вочы.

Шмат год таму, пры шчырай, як гэта нярэдка здараецца паміж сябрамі дзяцінства, сустрэчы, пачуў ад яго ціхае, сарамлівае прызнанне: «Помніш Камароў паром? Як і ты, я, мусіць, кожную ноч на ім лётаў!..» Пасмяяліся мы з такіх далёкіх дзіцячых хітрыкаў.

Чаму ж гэта цяпер не смешна, адзін тупы, несціханы боль у сэрцы?

Паромнічаў Камар да позняй восені. Без работы сядзець не сядзеў: калгасныя машыны і трактары ледзь не кожны дзень цягалі з-за ракі сена, хадзілі ў раённы цэнтр, да якога праз паром было рукою падаць. Месяц ці паўтара стаяла цёплае, пагоднае надвор'е, а ў канцы кастрычніка абрынуліся зацяжныя дажджы. Вада ў рацэ рэзка паднялася, у некаторых нізкіх мясцінах павыходзіла з берагоў. Перапраўляцца праз раку стала небяспечна, і Камар намёртва пры-

чаліў паром да берага. Праўда, знаходзіліся смельчакі, гатовыя адвязаць паром, ды на іхнія ўгаворы стары не паддаваўся, нават не выходзіў з хаткі.

Аднае раніцы, цяжка гойдаючыся па чорных глыбокіх калдобінах, да таго, не нашага берага, прысунулася машына з будаю, заляпанаю граззю.

«Хлебавозка»,— толькі глянуў, здагадаўся Камар і адразу падаўся да дзвярэй. На тым баку, каля самай вады, ужо стаялі высокі чарнявы хлопец і дзяўчо ў белым, як у дактароў, халаціку.

— Чаго стаіш, дзядуля! — весела крыкнуў хлопец.— Гані хутчэй паром. Хіба не бачыш, што людзям хлеб вязём. Цёплы, толькі што спечаны.

— Нічога, братка ты мой, не выйдзе! — заклапочана абазваўся Камар.— Вялікая вада надта... Сілы ў нас не хопіць.

— Не бойся, хопіць! — упэўнена адказаў хлопец і павярнуўся да сяброўкі, пачаў, жартуючы, нямоцна штурхаць яе ў ваду.— Сілы ў нас хопіць! Праўда, Людачка?!

Дзяўчына вырывалася з ягоных дужых вялікіх рук, крычала, смяялася, а потым адчаялася нахіліцца да вады, зачарпнула абедзвюма далонямі — і проста ў твар свайму кавалеру. Той адскочыў убок, пачаў, смеючыся, выцірацца рукавом, і зноўку да Камара:

— Ну, доўга мы яшчэ тырчэць тут будзем? Нам што — павярнуць няцяжка. А вось людзі — без хлеба могуць застацца. Таксама трэба думаць!..

— Не бачыш хіба, як прэ?! — зазлаваў Камар.— Трос парваць можа, панясці. Давай лепш, хлопча, на мост рулюй.

— На халеру мне здалося б тваё рэшата, каб праз мост можна было ісці. Учора рамантаваць пачалі, у некаторых месцах ушчэнт прагніў.

Камар не раз чуў ад сваіх, калгасных шафёраў,

што мост збіраюцца перасцілаць. «І чаму не дачакацца зімы, калі добры лёд стане? — падумалася яму.— Чым жа яны там думаюць, гэтыя ламайстры?»

— Не бойся, не залье твайго карабля,— перарваў ягоныя думкі чарнявы.— Хлеб жа вязём, не якое-небудзь жалеза...

Камар моўчкі спусціўся да берага, пастаяў, паўзіраўся, як вар'яцее, круціць мутная вада, затым пачаў няспешна адвязваць паром. А з таго, процілеглага берага вясёлым званочкам не сціхаў, трымцеў дзявочы смех.

...Нарэшце машына стала акурат пасярэдзіне насцілу. Паром, як заўсёды, асеў, але не надта каб нізка. Залівапь не павінна. Рушылі ад берага. Ішлі памалу, цяжка. Трос напяўся, бы цеціва лука. Спачатку Камар адно пасабляў чарняваму, падаваў каманды. А хлопцу — сапраўды, сілы было не пазычаць, хоць і несла ад яго, што ад бутлі з самагонкаю. «Абмануў, мусіць, гіцаль,— падумалася Камару,— ніякі мост не рамантуюць, пабаяўся, выпіўшы, натрапіць на міліцыю...»

Калі падышлі бліжэй да сярэдзіны, наляглі ўдвух, нават дзяўчо кінулася памагаць. Здаецца, ужо мінулі самую плынь, як раптам Камар сэрцам адчуў — сталі. Усяго на нейкую хвіліну, на імгненне! І не паспеў ніхто аказацца словам, трос лопнуў. Паром рэзка крутанула на месцы, затым моцна кінула ўбок. Вушы голкаю працяў пранізлівы дзявочы віскат.

— Кола-а!.. Выратавальнае кола бяры! — крыкнуў, задыхаючыся, Камар і ўбачыў, як дзяўчына мільганула да парэнчаў. Тады да спалатнелага хлопца: — А ты чаго стаіш?! Хутчэй цыгай!

Чарнявы, хапаючы, як рыба, шырока разяўленым ротам паветра, не згінаючы ног, пачаў няўклюдна падлазіць пад парэнчы.

«Не выплыве!..— мільганула ў галаве старога.— Вунь як увесь калоціцца ад страху...»

— Чакай! — тузануў з усяе сілы хлопца за руку.— На тым баку яшчэ адно кола ёсцека...

Толькі заскочыў за машыну, паром зноўку кінула ўбок. Хлебавозка страсянулася і падалася наперад. «Няўжо забыўся паставіць на тормаз?!»

Насціл з аднаго боку на вачах схаваўся пад ваду. Яшчэ праз імгненне паром уздыбіўся на рабро і накрыў сабою Камара, які паспеў скочыць у раку...

Яго шукалі ўсёю вёскаю, разам з вадалазамі, што прыехалі ажно з вобласці. Прайшлі дзесяткі кіламетраў уніз па цячэнні, працадзілі сеткамі, перамералі бусакамі ўсе віры і яміны. Так і не знайшлі. Ні праз тыдзень, ні праз месяц. І да сённяшняга дня ніхто не ведае, дзе Камарова магіла, дзе спачывае наш таварыш.

А праз год ці праз два па Камаровай смерці зарэчныя лугі перадалі другому калгасу, і пільная патрэба ў пароме адпала. Ад раённага цэнтра і да вёскі паверх старой вышчарбленай брукаванкі заслалі гладкі, хоць яйка каці, асфальт. Праскочыш тыя дваццаць пяць кіламетраў і не паспееш азірнуцца. Адно мільгаціць за вокнамі. І, галоўнае, заўсёды барзджэй дабярэшся, чым праз паром. Сапраўды, навошта дабіваць машыны праз пясчугу і калдобіны Прырэчча, плаціць чалавеку штомесяц дзеля адной-дзвюх праходак удзень на той, процілеглы бераг, калі гэта не эканамічна? А ў тым, што гэта так, няма сумневу: лічана-пералічана ў калгасным праўленні.

Дык чаго я шукаю, куды іду? Няма, даўно няма Камаровага парома, назаўжды ўтравелі тыя сцяжынкі, якімі бегала маё галапузае маленства. Быццам птушкі, разляцеліся па свеце сябрукі, пакінулі роднае Прырэчча, каб ужо аніколі не вярнуцца сюды. Аніколі?.. Ты ж вярнуўся. А ці вярнуўся?

Хто скажа, ці паляціць птушка, украдзеная з гнязда клеткаю, ці зведае яна неба, крылы свае, прастору? Ці зможа яна стаць вольнаю?

Я брыў збуялым чэрвеньскім лугам і не мог адарваць вачэй ад маладога разложыстага дуба, што выйшаў мне насустрач ■ лесу і спыніўся, бы ў роздуме. На вяршаліне дрэва, як шапка на вясёлым знаёмым дзядзьку, чарнела вялікае буслінае гняздо. І не пустое, не! Над ім, распасцёршы крылы, нізка, неспакойна кружылі дзве птушкі.

Нарэшце такі неба раскроіла маланка. Я міжволі спыніўся, доўга чакаў, пакуль прагрукаціць гром. Але ён так і не абазваўся. Тады я ўцягнуў галаву ў плечы, пацёгся да лесу.

## X

Не ведаю, не заўважыў, адкуль яна ўзялася, тая ледзь прыкметная, утравелая сцежка, што адразу як прывязала да сябе і ўжо не адпусціла. Доўга кружыў па нізкім камлюкаватым алешніку — ніяк не мог натрапіць на старую кашлатую яліну, куды б можна было зашыцца ды перачакаць навальніцу. Муляла, не давала спакою чуццё: «Не стой, ідзі!..» Быццам хто цягнуў за руку. Лес наперадзе выдаваў святлей ад таго, што застаўся за спінаю, думалася: абавязкова на нешта надыбаю. Мо на стог які ці на леснічоўку.

Між тым сцежка вывела мяне на глухую, даўно няезджаную дарогу, падобную да старой зараслай прасекі. Крыху павіднела — над галавою адкрылася неба. Нізкае, папялова-шэрае, з нязвыклым бледна-ружовым водсветам. Нібыта яшчаркі, адна другую, забаўляючыся, даганялі маланкі. Усюды — на дрэвах, на зямлі — дрыжала яркае сліпучае святло, ажно боязна было ступаць на яго. А гром па-ранейшаму маўчаў, не падаваў сярдзітага голасу; заместа яго стаяў

далёкі няясны гул, які, здавалася, то набліжаўся, то зноў аддаляўся.

Я прыбавіў хады. Адчуваў: яшчэ колькі хвілін, і ўсё перайначыцца. Улупіць, ажно зашыпіць зямля, дождж, усчнецца такая крутаверць, што не знацьмеш, куды кінуцца, пад што хавацца. Дарога неўпрыкмет папрастарнела, пачала падымацца ўгору і хіліцца, як мне думалася, зноў да ракі. Абапал цьмяна бялеў малады беразняк, а за ім з аднаго боку праглядвалася бязлессе.

Не стрымаўся, пусціўся напрасткі да тае адкрытае мясціны. А вылецеў — спатыкнуўся, укленчыў на калена. Мог упасці зусім, каб не схапіўся за камель старой каравай бярэзіны. Бегчы далей не было куды: да самага ўзлесся жывою сцяною падступала жыта.

Пасунуўся ўскрай лесу глыбокаю разораю, несучы руку над зялёным, не налітым яшчэ калоссем. Па той бок жыта высіліся векавыя старыя ліпіны, купкамі стаялі прыземістыя дзічкі. І, што адразу кінулася ў вочы — у адным месцы задзёр галаву ў разгневанае навальнічнае неба цыбаты калодзежны журавель.

«Хутар які, ці што?..» — варухнулася ў галаве думка. Потым з-за самай блізкай дзічкі, што расселася проста пасярэдзіне поля, выступіў вялізны чорны крыж, абвязаны наўскасяк ручнікамі і палатном. І так неяк непамысна зрабілася, аж па спіне прайшоў холад.

Нарэшце такі трапіў на дарогу, што прывяла сюды. Жыта перад ёю расхінулася, і яна пабегла да калодзежа. Стомлена, абыякава пацягнуўся па шызым сыпкім пяску. «Хутчэй бы ўжо кінуў валаводзіць і ўлупіў дождж!» І тут, нібы смеючыся з мяне, на зямлю зіркнула сонца. Усяго на хвіліну-другую, і ў гэты самы момант сыпануў дождж. Сляпы дождж, як гавораць у нас. Быццам залатыя чмялі, да зямлі паляцелі першыя буйныя кроплі. І так адкрыта, радасна ўсміхнулася ўсё навокала, так заіскрылася, што грэх быў

бы не ўспомніць, не папрасіць, хоць шэптам, як калісьці ў дзяцінстве:

Ідзі, ідзі, дожджыку,
Звару табе боршчыку,
Пастаўлю пад елкаю,
Накрыю талеркаю,
Сам пакаштую,
Цябе пачастую!

Ці яшчэ лепш, калі бяжыш:

Дожджык, дожджык, секані,
Я паеду на кані!..

І дождж як пачуў: так пусціўся, што на спіне не засталося ніводнай сухой ніткі.

Жыта праскочыў як бачыш. Прыпыніўся пад бухматаю дзічкаю, непадалёку ад калодзежа. Схованы была надзейная. Дождж настойліва шалпатаў над галавою аб лісце, скакаў, цурбоніў у двух кроках, але не даставаў. Можна было і аддыхацца, разгледзецца як след вакол сябе.

Калодзеж быў стары; замест цэментавага ладыша над зямлёю падымаўся невысокі, падноўлены верхнімі вянкамі, зруб. Тоўсты, відаць, дубовы слуп з разгалінай наверсе — «баба», як называюць яго яшчэ інакш — крыху пахіліўся ўбок, непрыемна чарнеў, абпалены знізу і да самага верху. А коварат, што тырчэў высока ў неба, зацягнулі, напэўна, нядаўна, бо крэпка сядзеў, зусім як новы.

Адразу за калодзежам пачыналіся непралазныя зарасці бэзу, за ім выглядалі пакрыўленыя здзічэлыя яблыні, высокія купкі вішняку. І гэтак усцяж усёй дарогі, што каля калодзежа рэзка павярнула, пайшла ўздоўж жыта да векавых ліпінаў. Усюды буялі крапіва і палын, зрэдку пракідваліся блакітныя кветачкі цыкорыя.

«Чаму ж не абрабіць і гэты занядбалы лапік зямлі? — падумалася мне.— Чаму не пасеяць на ім пшаніцу альбо жыта? Як побач во...»

І разам з тым мне чамусьці здавалася, быццам я ўжо аднаго разу хадзіў тут, еў вось гэтыя даўкія дзічкі, надкусваў і кідаў горкія чэмерныя яблыкі, цягнуў вось за тую гладкую ключку ваду з калодзежа... А мо і папраўдзе хадзіў? Тады, у Камаровым дзяцінстве... Успамінаў, перабіраў у думках навакольныя вёскі, рэдкія цяпер хутары і ніяк не мог зразумець: што за мясціна? як завецца? ці далёка ад роднай вёскі?

Няўжо сапраўды заблудзіў?..

А дождж пайшоў-пайшоў ды перастаў, як быццам надумаўся перадыхнуць.

Тады я пакінуў дзічку-парасон, пашыбаваў пасярэдзіне дарогі, углядаючыся ў пустэльню вакол сябе. Сумневу не было: тут калісьці жылі людзі. І не адзін гаспадар, не адна сям'я, а добрая вёска. Вунь колькі яблыняў расце абапал — цэлы сад. Некалі дарога, якою цяпер іду, звалася вуліцаю. Дзе ж тады падзеліся хаты, усялякія другія будынкі, чаму не відаць звычайнага друзу, смецця? Няўжо ўсе сляды заглушыла трава-пустазелле, расцерушыў горкі палын?

Я ведаў, чуў раней ад старых людзей: былі часы, калі хутары ссялялі з іхніх гнёздаў, сцягвалі ў калгасы. То хутаранцаў... А каб падняўся народ усёю вёскаю, забыўся на магілы дзядоў і бацькоў сваіх?.. Ды ўрэшце, калі падумаць, не такая ўжо і навіна. Колькі рассыпалася па зямлі нашай вёсак, дзе хатаў з пазабіванымі вокнамі болей, чым дзяцей у пачатковых школках! Не схавацца, не ўцячы тым вёскам ад каменя — «неперспектыўная». Такі ўжо ім наканаваны лёс. То ці варта ўздыхаць або крычма крычаць пра гэта ў гарадскім застоллі?! Ні ты, ні я, ні хто другі не пабяжыць назад з горада, хоць усе мы, як пупавінаю,

прывязаны да сваіх хатаў, нават з пазабіванымі вокнамі.

І — цішыню расшчапіў пярун, які імгненнем раней, бы піку, устрыгнуў у блізкі лес вогненную маланку. Здаецца, ажно пасвятлела. Раптам па траве зашархацеў град. Буйны, як тыя даўкія, успомненыя ўжо раней, дзічкі. Пакуль як след не надзяўбло ў галаву, трэ было ратавацца, прыткнуцца пад якую галіну. Ламануў колькі меў сілы да ліпаў. Яны былі ўжо блізка, заставалася адно прадрацца праз густыя зарасці вішняку.

Якое мне было дзіва, калі за вішнямі мяне сустрэла звычайная вясковая хата з раскрыленымі светлымі аканіцамі! Не доўга думаючы, уляцеў праз прачыненыя дзверы ў цёмныя сенцы.

XI ...Працягла зарыпелі дзверы, азвалася, радасна дзынкнула вядро. І ціхі голас-прыгавор, добра чутны мне тут, на запеку — болей не знайшоў, дзе прымасціцца.

Сарока-варона
Дзеткам кашку варыла,
На прыпечку студзіла,
Памялом мяшала,
Чапялой давала...

Далей маўчаць было няёмка, ступіў на сярэдзіну кухні, бліжэй да вакна.

— Добры дзень вам!

Павярнулася ад шкапчыка, дзе стаяла бляшанка з цёплым, толькі што ад каровы, сырадоем, прыціснула да грудзей старэнькі пагнуты цадзілак.

— Добрага здароўя!

І каб здзівілася ці спытала што! Хто такі, чаго

прыйшоў? Светла, як маці, усміхнулася аднымі вачыма, палажыла цадзілак у даёнку, хуценька выцерла рукі аб чысценькі невялікі ручнік.

— А я ўсё думаю-гадаю, ламлю сабе галаву: каго ж гэта чакаць сённяка? Раніцаю, толькі пасунулася да печы, Вася скок на падваконне, давай мыску лапкаю церці. Куды ж ён падзеўся, нягоднік? Зарабіў на абед сабе, гаспадар мой...

Нахілілася, пашукала пад шкапчыкам бляшанку ад кансервы, напусціла ў яе праз кранік малака. За акном секанула маланка, заліла сінім бляскам самыя цёмныя куткі на кухні. Следам цяжка, ажно страсянулася хата, абваліўся гром.

— Ой, дзіцятко, не стой каля акна! Гэто ж няможна — кажуць людзі.

Прыселі плячо ў плячо на запеку. Я — ад сцяны, яна ў старэнькім паношаным кажушку — ад печкі. Колькі доўгіх цягучых хвілін сядзелі моўчкі, услухоўваліся, што робіцца на дварэ. Паміж дужымі раскацістымі грымотамі чутно было, як тонка скуголіць у коміне парывісты вецер, як злосна сячэ па сцяне, не аціхаючы, дождж. А тут, у гэтай цеснай, як двум размінуцца, куханьцы, дзе замест падлогі жаўцее пасыпаны пяском гліняны ток, было спакойна, утульна, цёпла.

Я прыпёрся плячом да сцяны, пазіраў непрыкметна на гаспадыню, што сядзела, сашчапіўшы на каленях чорныя, нічым не адмыць, спрацаваныя рукі. Бабулька была з тых, каго завуць неўміруха. Але дзіва: нялёгкая ноша гадоў не скурчыла яе, як другіх, не зламала, а толькі высушыла, зрабіла маленькаю ды рухаваю. Глядзеў на яе малы, пад сеткаю частых маршчынак твар, на льняную пасму дзіцячых валасоў, што выбілася з-пад белай хустачкі — і чуў, як нешта пачынае дрыжаць у грудзях, як расце ў горле, не даючы спакойна дыхнуць, гарачы даўкі ком.

— А я, гэта, Кветку — кароўку сваю прыпасвала,— усміхнулася, загаварыла першаю бабулька.— Недалёка тут, каля балотца. Бачу — вылазіць з-за лесу хмарыска. Чорная, страшная, што аж душыць усё. І ўсё дыбіцца, дыбіцца... Пусціліся мы з Кветкаю бліжай да хаты. Абедзве немаладыя, на ногі няма чаго спадзявацца. Толькі да ліпаў сваіх дабрэндалі — забашпацеў той першы, ціхі дожджык. Дзякуй табе, божа, думаю, а то як выплыў колас — ні кропелькі не ўпала. Такі сухмень ужо ціснуў. Пакуль туды-сюды, пачала даіць — гэты во землятрус учыніўся. Град што кулі тыя сцябаў, каб не пашкодзіў хаця, жыта не ў час не змалаціў...

Слухаў гэты просты расказ-успамін і як бы перажываў усё наноў: і нядобрае зацятае маўчанне хмары, і радасны танец сляпога дажджу, і пякучыя голкі градзін у твар... Ажно скаланула ўсяго, кінула ў дрыжыкі. Убачыла, хоць, здаецца, і глядзела кудысьці ў акно. Тут жа падхапілася з дошак, пляснула рукамі.

— Ну, хіба не дурная, скажэце, галава?! Такая восень на дварэ, чалавек да апошняй нітачкі вымак, а яна сядзіць, як тая курыца на седале, ды сакоча сабе. Прэнтка здымай апратку ды лезь на печ! Радзюжкай укрыйся — нігды хвароба не ўчэпіцца, не скруціць.

«Улетку ды на печ? — усміхнуўся сам сабе.— І тут во, седзячы, ажно ўпрэў, а там — дык і жыўцом зварыцца можна...»

— Дзякуй вам, цётачка! — хутчэй падняўся з запека, нібыта сабраўся ісці.— І так во, седзячы, абсох ужо, надта ж цёпла ў вас у хаце.

— Кожны божы дзень палю. Чым пападзе: ламаччам усялякім, трухлякамі. Гэтак холаду баюся. Ага, з таго самага дня во баюся...

— Дык лета ж на дварэ! — здзівіўся я.— Нават у цяні мо пад градусаў трыццаць будзе.

— І праўда...— усміхнулася, кіўнула, нібыта згаджаючыся, галавою.— Так ужо сонейка свеціць — вачэй не падняць. Свеціць — ды не грэе. Зусім не грэе касцей маіх. Кажуха во не сцягваю з плячэй, спаць кладуся ў ім... А ты, дзіцятка, не саромся, прасушы сваю апратку. Там вунь у кутку запека ватоўка новая, не адзяваная шчэ ляжыць. Накінь яе, калі не схочаш на печ лезці, а кашульку здымі ды на калок павесь.

Нечакана паслухаў: распрануўся, павесіў на калок, што тырчэў пад бэлькаю, тэніску і джынсы, вывернуў, паставіў на вузкі прымурак кеды, а сам скочыў на печ.

— Тамака пад галаву падушку малую — ясек — пашукай,— не адыходзілася, усё клапацілася пра мяне гаспадыня.— А то давай з хаты вялікую прынясу. Іх у мяне ажно тры ёсцека...

— Не хадзіце, хопіць мне і ясека,— папрасіў шчыра, забіраючыся пад тоўстую, сшытую ў дзве столкі коўдру.— Тут і без падушкі адно як павярнуцца такому цыбаку, як я.

— Ну, то ляжы, выгравайся. А я тым часам яды прыдумаю,— адышлася ад печы да шкапчыка, забрэнкала паціху, мыючы вядзерца і цадзілак.— Кароўка, дзякуй богу, спраўная, малака не шкадуе. А тыдзень назад, скажы ты, на корч недзе ўзбілася, нагу сабе пашкодзіла. Прывязала за рогі, дык мо кубак гною з-пад капыта дастала. Напіхала туды зёлкаў, абула ў анучы чыстыя і стары галёш — і так во, бедная, кульгае. Учора зноўку глядзела: здэцца крыху палепшала, гной, як раней, ужо не прэ...

Спачатку і хвіліны не мог улежаць, каб не павярнуцца — так прыпякала ў спіну. Качаўся з аднаго боку на другі і баяўся, каб, чаго добрага, не ўваліць раптам печ — адзіны бабулін ратунак ад холада. Бачыў жа, седзячы на запеку, як па сценцы трэшчыны

пайшлі. Ды, мусіць, дарэмна хваляваўся: ці аднаго падарожніка грэла за сваё жыццё гэтая печ?!

На вуліцы па-ранейшаму не аціхала, але чуваць было, што дождж ужо не стаіць сцяною, а нарываецца, кідаецца хвалямі. І тады здавалася, як быццам хтосьці ходзіць па хаце, ажно трашчыць нізкая таксяк пабеленая столь. У кухні панаваў вечаровы радкаваты шчэ паўзмрок. Час ад часу за акном аб'яўлялася трапяткое маланкавае святло, нязлосна бурчаў, бы спрачаўся з некім, далёкі гром.

Непрыкметна я прыцярпеўся да гарачых цэглаў, ляжаў на спіне з заплюшчанымі вачыма, слухаў нетаропкую мову-замову старэнькай жанчыны, што хутчэй раілася сама з сабою, чым гаварыла да мяне.

І голас яе ўсё аддаляўся, глушэў...

XII

...— Бацвіння якраз смачненькага наварыла. Бурачкі падняліся неблагія — кожны вечар цяпер паліваю. Дзякуй хлопцам, убачылі, падлячылі калодзежнага жураўля. Яечак сырых можна з шопкі прынесці, маселка свежага, смятаны — і рэдкай, і кіслай. Хіба не багаты стол? А з хлебам от бяда: чарсцвее быстра. Хоць ты мачы адразу яго ўвесь ды так трымай. А то цэлы тыдзень зусім без яго сяджу. Не кінеш гаспадаркі, не пабяжыш за гэтулькі кіламетраў да крамы. Дзе ж гэта апалонік падзеўся, каб варыва таго ўліць? Ага, прыпомніла... Зусім ужо памяць адбіла. Мусіць, як у шопку хадзіла, пакінула. І чаго я туды яго пацягнула?..

Памялом мяшала,
Чапялой давала...
Гэтаму дала,
І гэтаму дала,
І гэтаму дала,
І гэтаму дала,
А гэтаму — не дала...

...Ну, так во сядзімо на покуці на лавах, палуднуем нейкай нішчымніцай. Сям'я немалая: адных дзяцей пяцёра душ. Чуем раптам грукат на надворку. Прыліпла носам найменшае хлапчанятка да шыбіны. Каб не вайна, пэўне, у школку хадзіў бы. А яны яго прыкладам праз акно! Кульнуўся праз увесь стол, ледзь паспеў бацька злавіць на рукі. Астатнія, большыя дзеці, у крэч — дзяўчаткі былі.

А яны ўжо ўваліліся ў хату. Чорныя, у нейкіх рагатых касках — страшыдлы, а не людзі. Збіліся мы ў кут. Прагергяталі нешта, мусіць, пералічылі нас, пакінулі аднаго свайго і вымеліся. Пачула бяду я, заламала рукі. А тое маё хлапчанятка ўсё супакойвае мяне, цярэбіць спадніцу. «Мамка, не плач... Мамка, не баліць мне...» А ў самога вочы ўшчэнт заплылі крывёю — зусім не відаць. «Мамка, я бачу...— усё мне гэтак ён,— я добра бачу сваімі вочкамі... Добра бачу...» І ўсё кроў рукавом выцірае.

А мяне, як гляну на яго, яшчэ большая разбірае шкадоба. Якраз у той дзень сама адлупцавала яго. Моцна адлупцавала, бацькавым шыцікам. І прасіўся, і плакаў, а ўсё роўна біла. Зіма не зіма, муля не муля на дварэ — збяжыць сабе з хаты і галёстрыць з такімі, як сам, падшыванцамі, немаведама дзе да самае начы. Не даклікацца, не дазвацца. От я яму і ўсыпала, як толькі ўбачыла, што збіраецца шмыгнуць за парог з самага ранку. Мусіць, прывыкла, што дзяўчаткі мае заўсягды на вачах, заўсягды пры мне...

Потым чуемо галашэнне на вуліцы, дзявочы віскат. Зірнулі барзджэй у акно :суседзяў нашых з хаты гоняць. Упіраюцца яны, а ім — у спіну. Чым пападзе ўжо: кулакамі, прыкладамі... Іхняя дачка большая замужам ужо была, з дзіцёнкам малым на руках. Чалавек яе ў партызаны падаўся. Дык яе першаю пруць. І ўсё па галаве палкаю, па галаве! Бацька тае дзяў-

чыны не вытрываў, кінуўся бараніць. Тады адзін з тых нелюдзяў адскочыў ад яго ўбок і з вінтоўкі проста ў грудзі... Забіў на вачах ува ўсёй сям'і!

Толькі тое здарылася, бачымо — бягуць удвух да нашае хаты. Мы і папруцянелі ўсе. А той, што нас, як сабака, сцярог, нагою ў дзверы бух, ажно з крукоў паляцелі. Равуць з самага парога: «Вэк!»

Тут нас і закалаціла, уцямілі мы: выбіваць будуць. А як ускочылі ў хату, то дзетачкі бедныя на сцяну лезлі, валосікі рвалі на сабе: «Татачко, не дай нас!.. Татачко, барані нас!» Так плакалі яны, так прасіліся.

Нічога не памагло: выцягнулі яны нас з хаты. Голых, босых, як сядзелі за сталом. Пруць па снезе — на прадвесне гэта было. Паганяюць, як якую скаціну. Цэлымі сем'ямі, усёю вёскаю... Хаты парасчыняты, хлявы парасчыняты. На вачах, пры жывых гаспадарах, грабуць усё, што могуць, валакуць. І ўсё страляюць, страляюць. Дзе хто схаваўся — выпорваюць, старых дабіваюць. Пачарнеў белы свет у мяне ў вачах, пайшоў кругам.

Нарэшце стоўпілі ўвесь народ на надворку стараставай хаты. Зачынілі весніцы, ачапілі з усіх бакоў і кулямёты панастаўлялі. Пабралі мы кожнае сваіх дзетак, папрытулялі да сябе. Што ўжо будзе! А яны не спяшаюцца, гяргечуць нешта паміж сабою, нават смяюцца. І надумалі: збілі замок на гумне, дзверы насцеж. «Захадзі!» — крычаць і соўваюць тым, хто з краю, аўтаматамі і вінтоўкамі ў плечы.

Тут выперла на парог старасту нашага... Не ў памяці ўжо яго прозвішча, бо ўсе яго ў нас Адзіначам звалі. Адзінач зрабіў, Адзінач сказаў — так во. Быў ён адзін у бацькоў, а як тыя паўміралі — гаспадаром сеў. Ні з кім знацца не хацеў, усё ўпотайкі ад людзей жыў. І цяпер увушшу стаіць голас ягоны гугнявы. Надта ж любіў гаварыць на сходах. Як пойдзе сы-

паць — не спыніць да раніцы. А зямлі меў — душыўся ёю, парабкаў наймаў. Ну, а як палякоў турнулі, пакруціўся, пакруціўся ды падаўся разам з усімі ў камуну. У раёне, куды першы даскочыў, прызначылі галоўным над намі, па-цяперашняму старшынёю. Рагатаў, казалі, як падвып'е: «Сазнацельны элемент я! Меў зямлі, а цяпер утрая маю!..»

Ажно тут блізка немчура ўварвалася. Схапілі яго за тое старшыньства, ледзьве дух не вытраслі. А бажыўся, а енчыў: «Бальшавікі прымусілі! Бальшавікі паставілі!» Так і выпаўз на каленях зноў у начальнікі — старастам стаў.

Ага, дык выскачыў ён, значыцца, на парог, а людзі ўсе да яго: «Дзядзечка, скажы, што рабіць з намі будуць! Дзядзечка, заступіся за дзетак нашых!..»

Ні словам не абазваўся. Адвярнуўся, палез проста па галавах да немца ў вялікай такой, загнутай угору шапцы. Згорбіўся перад ім, мала што зямлі лобам не дастае, усё рукою на суседскае гумно паказвае: «Туды ганіце іх, туды!» Мусіць, думаў, што жывымі паліць будуць, будынка свайго пашкадаваў. Засмяяўся людаед той нямецкі, махнуў чорнаю пальчаткаю на Лысую гару. Тамака ў нас цагельня была, здаўна гліну бралі... Дык яма на яме сядзела. І магілаў не трэба капаць.

Было ў тым гумне людносці — не павярнуцца. І старых, і малых дзетак, і жанок, і мужчын. Дзетак — дык што грыбочкаў, адно ад аднаго меншанькае. Абшчаперылі нашыя ногі, глядзяць на нас, як на неба. Адно прачыняюцца дзверы, стаіць у праёме Адзінач той: «Выхандзі дзесяцярох!»

Як ні цесна было, адхлынулі мы ад дзвярэй. Абмерлі ўсе, замоўклі. Тады ён зноўку да нас: «Выхандзі!.. Іначай тут сажгут». Не проста гугнявіць, а пад немца, гадзіна, падстройваецца. І так глядзіць, нібыта нікога не пазнае!

Вызваўся першы стары Ігнатачка. Параўняўся з тым ірадам, плюнуў яму ў вочы і ступіў за дзверы. Астатніх колькі там кабет за косы павыцягвалі. Потым так здагадаліся рабіць: дзетак павыкідаюць, а бацькі ўжо самыя выходзяць. Хочуць не хочуць, а ўсё роўна выходзяць!

Не помню, не скажу цяпер, у каторую тую дзесятку мы трапілі. Адразу ці пасля. Ішлі дзвюма сем'ямі, разам з гэтымі во суседзямі, у каторых бацьку старога на вачах забілі. Іх пяцёра душ з немаўляткам малым на руках, і нас сямёра. У бедных дзяўчатак маіх ножкі не йшлі, без памяці віселі на руках бацькавых. А сыночак мой, паскрэбачак мой залаценькі, да мяне туліцца. Лобік рассечаны, вочкі заплылі — мала што бачыць. І не плача, зусім не плача, адно туліцца да мяне, у далоню тварык, каб нічога не бачыць, хавае.

Мала што заставалася ўжо да тае горкі, парослай сівым хвойнічкам. Не сціхаюць, трашчаць тамака аўтаматы, а яшчэ мацней крычаць людзі. От ужо і ямы праглядваюцца крайнія і відаць, як звіслі над імі, бы груганы, нелюдзі тыя. Сціснулася ў мяне сэрца, піхнула я без памяці ад сябе маё хлапчанятка!

І пакацілася яно праз нізкі рэдкі ядлавец да лесу. А тыя, што на смерць вялі нас, быццам чакалі таго: радасна паўскідвалі вінтоўкі, давай адзін перад адным, хто першы пацэліць. Гэта па дзіцяняці! Так ужо стараюцца, так ужо выкладваюцца. А яно ўсё роўна коціцца, быццам хто кулі ўбок адводзіць.

Раптам перастаў адзін страляць. Махнуў рукою, паклікаў да сябе Адзінача, што, як прывязаны, за намі цёгся. «Кіндэр цурук!» Не раздумваючы, вылузнуўся той з кажуха і ўлёг, як сабака, даганяць дзіцяня.

Адпусцілі яны яго крыху, метраў мо дваццаць, прагергяталі нешта паміж сабою, а потым адзін зламыўся ды як жахне ў спіну! І не войкнуў — расцяг-

нуўся на снезе. А тады зноў давай усе разам па майму хлапчаняці лупіць.

Бачу як староннімі вачыма: зачапілі, прыціснулі да зямлі. Мала не дабег да ўзлесся. Зарадаваліся, паляпалі аднаго свайго па плячы: «Гут! Гут!» І выпраўляюць глядзець, як здабычу якую. Толькі павярнуўся ён бегчы, рынуўся Кастусь да забойцы. А астатнія іхнія стаяць, ніяк не могуць дайсці да сябе, трасуцца з вінтоўкамі ў руках. Мой таго ката ў адзін міг падмяў пад сябе, закруціў яму галаву. Тут яны і спахапіліся, селі горбаю на спіну яму. Спаролі штыкамі і нажамі — жывога месца было не відаць. І ўсё не насыцяцца, падскочаць і зноўку поруць.

А потым нас узяліся малаціць. Як ужо ўмелі збыткавалі. Нікога не шкадавалі: ні дзяўчатак маіх, ні тое бязвіннае дзіцяня груднoе. Б'юць, страляюць у мяне, а я бачу: падхапіўся сынок мой! Жыўцом у зямлю ўганяюць — усё роўна бачу: жывы мой хлопчык, сваімі ножкамі бяжыць! І як бы нават дзіўлюся, што не забілі, не веру вачам сваім.

Дайшла да памяці ноччу. Ціха-ціха вакол, як быццам на тым свеце. Думаю гэтак сабе: жывая ці не? Ні рукі, ні галавы не магу падняць, а сама ўся агнём гару. Не ведаю, як выцерабілася наверх з-пад забітых. Анічога ўжо не баялася, калі б дабілі, дык мо лепей было б. Адпаўзла трохі ўбок, уткнулася тварам у снег, бо трываць далей было нельга. Не помню, колькі так праляжала. Ачулася — стаю на нагах. Адкуль тая сіла ўзялася!

І паклікала я людзей, дзяўчатак сваіх, сыночка свайго...

Ніхто не азваўся.

XIII Колькі хвілін няўцямна ляжаў ніцма, не маючы сілы варухнуцца. Доўга прыслухоўваўся, што робіцца на вуліцы. Грымотаў было не чутно, дажджу таксама. Здаецца, навальніцу прагнала. У хаце было нязвыкла ціха. Спыніўся паглядам на джынсах, што віселі на калку пад бэлькаю. Гразі і пяску не відаць, дзірка на калене зацыравана. Тэніска вывернута на другі бок, памыта. І калі толькі ўправілася гэтулькі зрабіць?

Знаёма, працягла зарыпелі дзверы, затупала быстра па кухні, расказваючы сама сабе ўсё тую ж дзіцячую забаўлянку.

А гэтаму — не дала...
Ты, малы, круп не драў,
Вады не насіў,
Дзяжы не мясіў.
Ідзі, малы, па вадзіцу
У сцюдзёную крыніцу,
За пень, за калоду,
Па жывую ваду!

— І як гэта я цыбулі зрабіць забылася? Любіць жа, як і бацька, пахлябаць.— Пацерла шчыпяры з соллю, заліла смятанаю са збанка. Пастаяла моўчкі каля шкапчыка, уздыхнула: — Ну от, можна і палуднаць. Ці мо лепей сённяка ў хаце на покуці сесці? А то на кухні гэтай такая цяснíна, што хоць стоячы еш...

Я спусціў з печы ногі, пачаў улазіць у свае джынсы. Падумалася, ажно зашчымела, заныла сэрца: «Пэўна, не дабачвае, за кагосьці другога прымае. За родзіча мо якога ці проста знаёмага...»

Міжволі задрыжалі рукі, доўга, як сляпы, выварочваў тэніску на правы бок.

— Сам падхапіўся... А я толькі збіралася ісці будзіць,— здзівілася, убачыўшы мяне на нагах, гаспадыня. І хораша так, нейк па-маладому ўсміхнулася

яснымі добрымі вачыма.— Не ведаю от, што рабіць... Мы заўжды ў той хаце палуднаем, а я на кухні прыбрала. Прывыкла адна ўжо тут, на кухні, таўчыся. Дык мо перабярэмся на хату?

— Што вы! І тут памесцімся, не вялікі я пан,— рашуча запрэтаставаў я,— шчырае дзякуй, што абшылі, абмылі мяне.

Бачыў: засмуцілася, што не схацеў ісці ў тую хату палуднаць. Але нічога не сказала, толькі сумна ўсміхнулася аднымі вачыма:

— А хто ж за вамі, гіцлямі, паглядзіць, як не маці? Лётаеце ўсё недзе, галёстрыце немаведама чаго. Самых сябе не шануеце, што ўжо казаць пра адзенне...

Я спаласнуўся над белаю алюмініеваю памыйніцаю, што вісела ў кутку за шкапчыкам, выцерся доўгім даматканым ручніком — забыўся, калі бачыў гэтакі апошні раз, не тое, што выціраўся.

— Ну, сядаймо, будзем палуднаць,— сказала заклапочана гаспадыня.— А то людзі хутка вячэрацімуць, а мы ўсё таўчэмся.

Голад не цётка, як кажуць: прысунуўся на слоніку да шкапчыка, пачаў умінаць за абедзве шчакі цыбулю са смятанаю, што «любіць і бацька». А жанчына, сёрбаючы пахучае бацвінне, усё гаварыла, гаварыла да мяне. І пра разумніцу Кветку, і пра гультаяватага Васю, што не злазіць з печы, а сёння дзесьці прапаў, і пра задзірыстага пеўня, які кідаецца біцца да ката. І ні слова, ні паўслова пра ТОЕ, як быццам анічога і не расказвала, а праснілася мне само! Такое, каб і хацеў прыдумаць — не прыдумаеш.

— А я, пакуль ты, дзіцятка, спаў, гарод свой аплакала. Усё град пахвастаў. Памідоры як пацярэбленыя стаяць, бурачкі лапушыліся — паніклі. Ды што гародніну... Жыта вуньдзека колькі спляжыла! Аж вачам баліць, калі глядзіш на такое зладзейства. От і прычакалі дожджыку...

— То вы, мусіць, нават і не прыселі. Пакуль па гаспадарцы ўправіліся, пакуль палудзень прыгатавалі, мяне абшылі...

— Якая там гаспадарка! Званне адно. А клопату — хоць ты спаць не кладзіся. Прыляпілася на запеку, каб сапнуць, а ногі гудуць, бы слупы тыя, што паўз дарогі з дратамі стаяць. Пасядзела крыху, пастагнала і зноўку пацягнулася да градаў.

— Дык чаго вы сядзіце тут адна на гэтым хутары?

— А дзе, скажыце, сядзець мне? — паглядзела вінаватымі вачамі. І дадала паціху дрыготкім голасам, нібыта апраўдваючыся.— Каб сышла куды, хто б цябе прытуліў, абагрэў, накарміў? Як бы ты знайшоў мяне?..

Застыў нерухома, не ведаючы, што гаварыць. А каб і ведаў, усё роўна ні слова не вымавіў бы.

Падхапілася са слоніка, пачала збіраць са стальніцы пусты посуд.

— Не слухай ты мяне, старую... Хачу, каб папкадавалі, а ў самой слёзы так зачарсцвелі, ажно вачам баліць. Мо яшчэ смятанкі прынесці? Не хочаш... Тады свежага малачка выпі, а я, пакуль вада цёплая ў печцы яшчэ ёсцека, чарапкі гэтыя абмыю.

Выцягнула на прыпек чыгунік, начэрпала з яго вады ў вялікую місу, пачала, не спяшаючыся, мыць і складваць у шкапчык чысты посуд.

Я падсунуўся да акна. Яно выходзіла на ўтравелы, без усялякай агароджы, прасторны надворак. Каля самай хаты, нібыта сёстры, трымаючыся адна за адну голлем, папарна стаялі чатыры стройныя, сама што ў квецені і маладой сіле, красуні-ліпы. А ў прагаліне паміж імі, быццам хлапчук, кучаравіўся танклявы дубок.

...Ідзі, малы, па вадзіцу
У сцюдзёную крыніцу,
За пень, за калоду,
Па жывую воду!..

...— А як мне, скажыце, ісці? — спытаў, затрымаўшыся, на гладкім паколатым камені, што ляжаў каля парога, заместа сходаў.— Каб раптам не заблудзіць, вярнуцца дамоў...

Ступіла з расчыненых насцеж сенцаў на заліты вадою надворак. Такая маленькая, па-ранейшаму апранутая ў кажушок, абутая ў валёнкі з новымі бліскучымі галёшамі. Абмінула моўчкі мяне, патупала па-перадзе. На вуліцы, ці, правільней, на дарозе, што была калісьці вуліцаю, спынілася. Доўга маўчала, глядзела кудысьці далёка, затым павярнулася з усмешкаю на твары.

— Не заблудзіш, усё роўна вернешся... Ідзі адразу да калодзежа, а ад яго праступай да ракі. Тамака ўбачыш, куды далей ісці...

— Да ракі?..

— Ага, да ракі...

— Ну, то заставайцеся здаровыя! Дзякуй вам!

— Шчасліва вярнуцца, сы...

Апошняга слова не дачуў — прашаптала аднымі губамі. А мо таму не дачуў, што заспяшаўся адвярнуцца, пашпарыў проста пасярэдзіне вуліцы.

Па-вечароваму, стомлена і абыякава, свяціла белае сонца. А неба над галавою — як усё роўна падвышала, ажно, здаецца, звінела ад радаснага яркага блакіту. Ці мо ад жаўруковай песні, што цурчэла над жытняю палоскаю, збэрсанай навальніцаю. Дзьмуў у твар, гуляў з валасамі свежы тугі ветрык, абапал гаманіў, спрачаўся аб нечым паміж сабою густы непралазны вішняк, стрымана перагаворваліся здзічэлыя пакручаныя яблыні. То з аднаго, то з другога боку лезлі ў вочы ледзь прыкметныя гарбы-сляды, заглушаныя пустазеллем і палыном.

Хацелася — і не адважваўся — азірнуцца назад.

Каля калодзежа спыніўся. Піць не хацеў, проста надумаўся паспытаць вады з драўлянага зруба. Калі

яшчэ надарыцца такая можнасць? Падцягнуў да сябе за гладкую тонкую ключку жалезнае вядро. У ім, ледзь не да самай сярэдзіны было вады. Пачаў вылі-ваць на зямлю, як адумаўся: то ж не звычайная, а навальнічная вада!

Прыціснуў да зруба вядро, прыпаў да яго, пачаў піць нагбом. Адзін глыток зрабіў, другі, трэці — вы-плюнуў. Вада была што астуджаны кіпень — цёплая і салёная. Без шкадавання выплюхнуў у траву астат-нюю несмач, пацягнуў абедзвюма рукамі за ключку. Моцна, быццам скардзячыся, зарыпеў коварат, азва-лася, забрынчала вядро — хутка шуснула ў драўлянае цёмнае калодзежнае нутро. Коварат неахвотна пада-ваўся ўніз: чым бліжэй хіліўся да зямлі, тым мацней упіраўся. Нарэшце там, далёка ў глыбіні, глуха бухну-ла і замоўкла вядро. Пачакаў крыху, патрымаў кова-рат за аблытаную ржавым ланцугом дзюбу і адняў ру-ку. Ключка паважылася сюды-туды, замерла на мес-цы. Тузануў яе з усяе сілы ўверх. У калодзежы аж загуло ад выплюхнутай вады. Далей вядро падыма-лася само, толькі сачыў, каб не чаплялася за чорныя збуцвелыя круглякі, не разлівалася ды не засмечва-лася вада.

Азірнуўся, паглядзеў у той канец дарогі, што за-стаўся за плячыма. Хаты з-за вішняку відно не было. У загуслым цёмным блакіце вечаровага неба, быццам чатыры ветразі, над засмужанаю сцяною лесу плылі знаёмыя ліпы. А каля іх, узбоч дарогі, нерухома стая-ла маленькая чалавечая постаць.

«Навошта, чаго яна стаіць?.. Няхай бы лепш пай-шла ды адпачыла. Ці мо яшчэ каго чакае? Дарэмна... Позна ўжо, ніхто не прыйдзе больш...»

У руку балюча дало жалезам. Ледзь паспеў сха-піць за восілку, затрымаць вядро.

Зруб хоць стары, запушчаны, а вада была чыстая,

празрыстая, без усялякага, як думалася, жоўта-зялёнага колеру.

Прыпаў да пагнутага венца вядра — і задыхнуўся. Праз губы, рот, усё нутро прайшоў жывы агонь...

Потым была нізкая, вагкаватая ад лішку вады сцежка, мокры, кроку не ступіць убок, густы мешаны лес. Сцежка праглядвалася слаба, а за плячыма зусім знікала, як быццам і не было яе. Сонца ледзь-ледзь чырваніла вяршаліны высокіх ялінаў. Заставалася надзея, што пашанцуе завідна выйсці на дарогу. Ішоў — і бы замову якую шаптаў: «Не заблудзіш, усё роўна вернешся...»

Лес чапляўся за плечы, хвастаў мокрым голлем па твары і нарэшце пачаў драбнець, расступацца. Наперадзе штось заяснела. Кінуўся бегчы. Дарога! Адразу пазнаў: нашая, падсыпаная жвірам, Паромная дарога!

Праляцеў якіх метраў сто — трапіў на луг. Хвалявалася пад ветрам вялікая, да пояса, трава, быццам зялёныя воблакі, стаялі волаты-дубы, а над ракою вывернутым кажухом клубіўся ранні туман. І ні хмаркі на праклюнутым першымі зоркамі шкляным купале неба, толькі ў тым баку, куды няспынна імкнула рака, далягляд асядлала чорная зласлівая цемень.

Я павярнуўся ісці. І ў гэты самы момант раптам пачуў аднекуль зверху:

— Сыно-о-ок, дзе ты-ы-ы!!

Па лесе, звонка абзываючыся ў лузе і дзесьці далёка-далёка за ракою, каціласся, плыло, забірала ўсё навокала рэха:

— Ты-ы-ы... ты-ы... ты!

5 Зак. 4035

XIV . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

XV В месте Виленском, в Менску, у Радошковичах, на Орши, у Шклове и по инших многих замках поветрее было великое...

Тепер же радость великая была, иж муж жену в далеких странах знашол, отец сына, матка дети, дети матку, приятель приятеля, ближний ближнего своего...

XVI . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## Стрэл дуплетам

— Што, ты зноў за сваё? — кіславата скрывіўся Сушчэня і заспяшаўся адвесці ўбок вочы.— Ну, як ты не зразумееш?.. Не магу я цябе ўзяць з сабою. Білета ў цябе няма ж. А без білета, сам ведаеш, браканьерствам пахне...— гаварыў ён далей.— Не, нічога не выйдзе, хлопча. А раптам хто наскочыць? Тады ж мне пападзе... Ты лепей у кніжку паглядзі лішнюю гадзіну. Яно хоць карысць нейкая будзе. А то пойдзеш, наб'еш ногі за цэлы дзень, а зайца таго — і хваста мо не ўбачыш. Будзеш потым клясці мяне на чым свет стаіць. Такое ўжо са мною адзін раз здаралася...

— Дзядзька Яўхім!.. Трэба неяк зрабіць,— не адступаў ад свайго Казук. Ён адчуў, што Сушчэня можа саступіць, толькі трэба настойваць на сваім.— Паабяцаў я хлопцам, з якімі разам вучуся, зайчыка... Ды не толькі ў гэтым дзела, дзядзька Яўхім... Проста — хочацца самому паспрабаваць паляўнічага шчасця. Ну, гэта, дастаць таго зайца... А раптам пашанцуе? — з надзеяй закончыў Казук. Потым, хвіліну падумаўшы, дадаў асцярожна: — І стрэльба ў вас яшчэ адна ёсцека. Я ведаю... Мне Віцька ваш хваліўся. Гаварыў, старая, але б'е — будзь здароў!

— Ёсцека... А як ты думаў? — строга паглядзеў з-пад нізка навіслых броваў зялёнымі вачамі Сушчэня.— Той, хто лічыць сябе сапраўдным паляўнічым, мае не адну стрэльбу, а цэлых тры,— і было відаць, што збіраецца скончыць на гэтым размову.

«Усё... Калі не цяпер — дык нічога не выйдзе»,—

падумалася Казуку, і ён, нечакана нават для самога сябе, узяў Сушчэню за локаць.

— Давайце зойдзем да вас, дзядзька Яўхім!.. Я тут нейкую кроплю ўзяў. Пагутарым, пасядзім трохі. А то на вуліцы — гэта не размова.

— Чаго ж, можна...— на Сушчэнеў тварык ляніва ўспаўзла ўсмешка.— Гэта ты праўду кажаш, што на вуліцы цяжка гаварыць. Пайшлі, калі сапраўды маеш ахвоту.

І яны локаць у локаць накіраваліся вуліцаю ў той канец вёскі, дзе жыў Сушчэня.

Дома ў Сушчэні якраз нікога не было. Жонка, выпаліўшы ў печы, управіўшыся па гаспадарцы, пабегла на работу ў цялятнік. А дзеці, іх у Сушчэні было двое — сын і дачка — пайшлі ў школу.

Пілі ў маленькай, дваім не размінуцца, кухні. Гаспадар прынёс з каморкі некалькі салёных агуркоў, тонкі, як на палец, жоўты кавалачак старога сала. Надробна парэзаў яго, дастаў са шкапчыка ўжо накроенага хлеба.

Казук жа, як толькі зайшлі на кухню, адразу паставіў на стол з сумкі ўсе тры бутэлькі яблычнага.

— Ну, то будзь здароў! — першы, калі налілі, падняў сваю чарку Сушчэня і за адзін глыток апаражніў яе. Следам выпіў і Казук. Пачалі прыкусваць, моцна пахрумстваючы смачнымі агуркамі.

— Не, гэта не посуд... З такім мы і да вечара не ўправімся,— сказаў Сушчэня.— Трэба, напэўна, пашукаць шклянкі замест гэтых напарсткаў...

— Пашукайце...— ахвоча падтрымаў Сушчэню Казук, нібыта і яму было кепска піць з чаркі.

Выпілі яшчэ раз — ужо са шклянак. Зноў узяліся прыкусваць. А гутарка ўсё не клеілася. Сушчэня пачаў скардзіцца на новага старшыню калгаса, які год

назад звольніў яго з брыгадзірства, а Казук — ніяк усё не адважваўся павярнуць гаворку на свой інтэрас. На ягонае шчасце, зрабіў гэта сам Сушчэня.

— А ты, гэта, малайчына, што намогся на сваім,— нечакана ўхвальна сказаў ён.— Я, брат, не люблю вадзіцца са смаркачамі рознымі, таму не хацеў цябе слухаць. Думаў, што і ты такі. Цяпер бачу, што ты хлопец свой. Ну, давай яшчэ па кроплі, а то ў мяне дзялоў сёння — хоць ты ў шапцы спаць кладзіся.

Казук адразу ж хапіўся за бутэльку і набухаў паўнюткую Сушчэневу шклянку. Сабе наліў трохі: яшчэ як садзіліся за стол сказаў, што другі год як хварэе страўнікам і дактары зусім забараняюць піць. Махлявасў, вядома, баяўся набрацца, як свіння гразі. Дзе яму зраўняцца з Сушчэнем, які за гады брыгадзірства ў чарку заглядваў часцей, чым у якія-небудзь свае начальніцкія паперы.

Выпілі. Зноўку закусвалі. Праўда, з закускі толькі засталіся адны агуркі. Сала, што прынёс Сушчэня, хапіла ўсяго на адну бутэльку.

— Ат ліха яго! — гаварыў далей Сушчэня, звесіўшы нос прама ў сваю шклянку.— Няма цяпер звера ў лесе... Ня-ма-а. Не тое, што даўней было!.. Паверыш, я некалі за дзень па чатыры зайцы прыносіў. Па чаты-ры!.. А цяпер? Ледзьве аднаго за два дні выдушыш. І то — нейкага дохлага, пад'есці — дык на адзін зуб не хопіць. А ведаеш, куды ўся жыўнасць падзявалася? — нечакана спытаўся ён у Казука.

Казук разгублена пацісnуў плячыма, хацеў павярнуць на сваю просьбу, але Сушчэня абарваў на паўслове.

— А я — ведаю! — стукнуў кулаком у грудзі ён сабе.— Я нават у школе, калі аднойчы выступаў, гаварыў пра гэта. Гаварыў і гаварыць буду — усё гэта іхняя міліярацыя, хімія. Яны памаглі, каб жывой душы не было ў лесе. Няпраўда, скажаш?

Казук прамаўчаў, нават не разявіў рота. Чакаў, пакуль выгаварыцца Сушчэня.

— А то гарлапаняць — браканьерства! Якое, ліха яго, браканьерства? Пайшоў чалавек у лес — дык трэба, каб нешта прынёс. А як жа... Навошта тады ногі біць, выматвацца да сёмага поту? Прыроду глядзець? Смешна... Каму яна патрэбна, тая прырода, без ягад і грыбкоў, без рыбкі і звяр'я? А калі на тое пайшло, дык яе можна паглядзець дома па тэлевізары. І джунглі, і мунглі — усё, што хочаш, паказваюць. Толькі глядзі...

Казук уважліва слухаў Сушчэню, бачыў ягоныя зялёныя ўчэпістыя вочкі, востры тхарыны тварык, і ў ім расло жаданне спрачацца з гэтым чалавекам, асадзіць яго нейкім рэзкім словам. Але замест гэтага ён па-ранейшаму не пераставаў ківаць галавою Сушчэню ў знак згоды. «Няхай выгаварыцца...— думалася яму,— а калі скончыць — усё скажу, што думаю. Дый выпіўшы чалавек... А ў такім стане — што хочаш ён можа нагарадзіць. Толькі слухай...»

Прымаўку — «што ў цвярозага ў галаве, тое ў п'янага на языку» — чамусьці не хацелася браць за правіла, хоць яна ўвесь час і круцілася ў галаве.

Калі была дапіта апошняя бутэлька, Сушчэня цяжка вылез з-за стала і, не сказаўшы ні слова, няроўным крокам паклыпаў да дзвярэй. Па дарозе ён два разы спатыкнуўся, а пасля, шырока расчыніўшы дзверы, уваліўся ў цёмныя сені.

Праз колькі хвілін ён вярнуўся, трымаючы ў руках курковую двухстволку з нязграбным самаробным прыкладам. Заўважыўшы на Казуковым твары ўсмешку, моцна ляпнуў дзвярыма, аж тонка зазвінелі ў вокнах дрэнна закітаваныя шыбіны, і спытаў глухім пакрыўджаным голасам:

— Чаго скрывіўся, як серада на пятніцу? Можа, не падабаецца?

— Чаму, стрэльба як стрэльба...— адказаў Казук.— Галоўнае, каб бой добры быў. А тое, што прыклад самаробны і непрыгожы...

Але Сушчэня ўжо загарэўся.

— А ці ведаеш ты, колькі галоў за гэтаю стрэльбаю? Зайцоў і іншай драбязы — не лічу. А... Ды што з табою гаварыць,— махнуў ён рукою.— Зразумееш — добра, не зразумееш — яшчэ лепш. У лесе пабачыш, каторая з іх — новая ці старая — лепшая. Я з гэтаю качаргою пайду, а ты з маёю новаю стрэльбаю.

Згаварыліся на нядзелю. Сушчэня нават падахвоціўся схадзіць на хутар да старога Палундзіка і выпрасіць у таго Альму — суку, якая вельмі добра ганяе зайцоў разам з ягоным Громам.

Кіруючыся агародамі дамоў, Казук увесь час думаў пра Сушчэнева выхвалянне стрэльбаю. «Няўжо што-небудзь зрабіў з ёю? — ламаў галаву хлопец.— Людзі нават зарады атрутаю набіваюць, абы не вярнуцца з пустымі рукамі...»

* * *

— Чуеш, здаецца, вядуць ужо...— нарэшце, цяжка адкашляўшыся ў кулак, паціху, быццам самому сабе, прамовіў Сушчэня. Потым дадаў з сумненнем у голасе: — Прэнтка нешта... Не зрабілі нават і круг.

Каб упэўніцца, што ўсё-такі не памыляецца, ён, не зыходзячы з месца, мо з хвіліну пільна ўслухоўваўся ў насцярожаную лясную цішыню. Галаву пры гэтым адкінуў далёка назад, так, што тоўстая шыя, чырвоная, дрэнна паголеная, выкацілася з каўняра ўся наверх, на мароз.

Але так ён стаяў нядоўга. Раптам страпянуўся, дробна, неяк з'ядаючы цэлыя словы, загаварыў да Казука:

— Паднялі, іці іху!.. Ну, гэта, я — на дарогу.

А ты — тут, на прасецы, як дамаўляліся... Ага, сыдзі адно крыху... І калі што — не шкадуй, бі дуплетам. Ясна?

— Чаго там, ясна...— слаба, неахвотна адгукнуўся Казук і перастаў тупаць: ён не так, як Сушчэня, які быў у тоўстых чорных валёнках, выбраўся на паляванне ў кірзавых ботах.

— Ну, то давай...— няўцерпна махнуў рукою Сушчэня,— не праваронь адно! — і, як падмецены, падаўся прасекаю да недалёкай дарогі, часта перабіраючы нагамі. Але, адбіўшы метраў трыццаць — сорак крокам, не вытрымаў і пусціўся бягом. Бег ён неяк смешна: моцна, па-гусінаму, перавальваўся з аднае нагі на другую, шырока, бы не сваімі, матляў рукамі. Адну галаву толькі нёс прама і высока. А ўрэшце зачапіўся за нешта і плюхнуўся тварам у снег, ажно стрэльба паляцела далёка цераз галаву.

«Як быццам хто ножку падставіў...— усміхнуўся сам сабе Казук і падумаў: — Правільна... Няхай не будзе такі пryткі...»

Але далей глядзець на Сушчэню не стаў, павярнуўся ў патрэбны бок, глыбей утапіў у плячах галаву і няспешна, пастукваючы нагой аб нагу, патупаў да загадзя аблюбаванага месца, з якога добра праглядвалася ўся прасека.

Па абедзве рукі непрыступнаю белаю сцяною стыў хвойны маладняк. Апошні тыдзень быў багаты на снег. Пад промнямі скупога на цяпло студзеньскага сонца ён востра зіхацеў, адбіраў вочы сваёю яркаю белізною, што тонка, але прыкметна, адлівала блакітам. А яшчэ снег моцна, быццам ад болю, віскліва рыпеў пад нагамі, і як ні спрабаваў Казук ступаць мякчэй, акуратней,— ён усё роўна не змаўкаў.

«Як на бяду якую...— лянiва варухнулася ў Казуковай галаве думка,— пэўна, па зайцу не пападу!..»

Ён заспяшаўся, пайшоў шпарчэй, спрабуючы націху высвістаць на хаду сучасную модную песеньку. Выходзіла не надта ўдала. Ён адчуваў гэта, але знарок не пераставаў фальшыва высвістваць тую ж самую песеньку, бо не знаходзіў іншага ратунку ад ужо ненавіснага рыпення...

Спыніўся Казук каля маладзенькага рослага дубка, што, быццам ведаючы сабе цану сярод хвойніку, выскачыў, каб сам сабе стаць перад лесам. Асцярожна прыпёрся плячом да дуба і, зірнуўшы ў абодва канцы прасекі, пачаў пільна прыслухоўвацца.

Аднекуль здалёку, з кожнай хвілінай нарастаючы ў голасе, шырока каціўся гон. Адчувалася, што сабакі правільна ўзялі след. Яны ўжо былі недзе зусім блізка і вось-вось вырвуцца на прасеку альбо на дарогу, дзе, прытаіўшыся, стаіць Сушчэня.

Асцярожна, абедзвюма рукамі, Казук адзін за адным адвёў абодва куркі, паднёс прыклад да пляча і, апусціўшы рулі ўніз, пачаў чакаць, стараючыся ні пра што не думаць.

На некалькі хвілін гэта быццам удалося. Але непрыкметна зноўку завалодалі думкі аб Сушчэню. Неадчэпна стаяў перад вачамі ягоны востры сякерысты тварык з зялёнымі, халоднымі да ледзянога бляску вочкамі. І бляск гэты прымушаў верыць, што ў Сушчэні словы не разыходзяцца са справамі. А значыць тое, пра што так горача, аж захлынаючыся словамі, пазаўчора гаварыў ён,— не пустая балбатня п'янага чалавека. Не, не з такіх гаваруноў, мусіць, гэты чалавек. Тут штосьці іншае, больш сур'ёзнае. І той жа наразны ствол у старой стрэльбе — не так сабе.

«Цьфу...— з горыччу сплюнуў Казук.— Зноў аб тым самым. Хутчэй бы ўжо дамоў...»

Ён адразу ж сябе злавіў на гэтай апошняй думцы — «хутчэй бы ўжо дамоў», але падумаць над ёй як след не паспеў — успомнілася Нядзелька.

Нядзелька... Маленькае, з дзіцячую рукавічку, зайчанятка з чорненькімі вочкамі.

Яго знайшла, падганяючы свае соткі буракоў, Казукова маці і прынесла дамоў у гліняным вышчарбленым збанку, куды заўсёды набірала ў поле вады. І здарылася гэта жніўнем, якраз у нядзелю.

З таго часу мінула больш чым пятнаццаць гадоў. Але чамусьці да самай маленькай нязначнай драбніцы запаў у Казукову душу той празрыста-светлы жнівеньскі дзень.

І тое, як разам з Тонькаю — старэйшаю за яго на два гады сястрою — спачатку глядзеў на зайчаня ў гладышы, і тое, як пасля гладзіў яго... Не ўсёю рукою, а толькі адным пальцам, каб ненарокам не зрабіць балюча звярку.

А колькі яны мелі клопату з-за таго, якое будзе імя ў зайчаняці! З-за гэтага паміж імі вось-вось гатова была ўсчацца калі не бойка, то добрая сварка.

На шчасце, у хату зайшоў дзед Пілiп, які выкладаў у васьмігодцы геаграфію. І яны абое адразу ж кінуліся да яго са скаргамі адзін на аднаго. Дзед, як заўсёды ўважліва, выслухаў іх, зморшчыўся, пашчыпаў свае бровы, што стрэшкамі звісалі над мяккімі шэрымі вачамі, і сказаў:

— Так-так... Справа, унучкі, сур'ёзная. Ёсць над чым галаву паламаць.

Яны з сятрою, насупіўшыся адзін на аднаго, стаялі па абедзве дзедавы рукі і зацята маўчалі. Дзед усміхнуўся, паклаў кожнаму на плячо руку і раптам спытаў:

— А памятаеце, як я вам чытаў пра Рабінзона Круза?

— Памятаем!..

— Малайцы, унучкі... Добра, значыцца, слухалі, калі памятаеце,— пахваліў дзед Пілiп.— Пэўна, і пра

Пятніцу тады не забыліся? Хто мне скажа, чаму ў яго было такое дзіўнае імя?

— Бо Рабінзон Круза выратаваў яго ў пятніцу ад людаедаў,— пратараторыла першая сястра і пераможна паглядзела на брата.

— Правільна... Малайчына, Тонька! — задаволена ўсміхнуўся дзед і сказаў, звяртаючыся да ўнука.— А чаму і нам не назваць гэтаксама зайчанятка? Які сёння дзень?

— Нядзеля...

— Ну, дык няхай завецца тады... Нядзелькай! Згодны?

— Згодны, згодны! — нэ раздумваючы нават, радасна адказалі яны дзеду. І Тоньцы, і яму самому сапраўды спадабалася імя, прыдуманае дзедам Пілiпам. Ня-дзель-ка! Ізноў іхняй радасці не было канца.

А потым прыйшло прадчуванне бяды. Зайчаня нічога не ела.

І тады нехта ўспомніў пра Рыжую, якая якраз тымі днямі прывяла кацянят.

Кошка прыдзірліва абнюхала падкідыша, а пасля пачала старанна лізаць яго сваім прыгожым чырвоным язычком. Нядзелька ж, згаладаўшыся, прыпала разам з кацянятамі да Рыжай.

Ён, Казук, і сёння не ведае прычыну Нядзельчынай смерці. У адным ён упэўнены — кошка ў тым не вінавата. Усе тры дні, пакуль зайчанятка жыло, яна даглядала яго гэтаксама, як і кацянят.

Пахавалі яны Нядзельку ў садзе, пад маладою пепінкаю. Тонька не пашкадавала сваю прыгожую скрыначку, якую сшыла сама з паштовак.

Восенню, калі капалі бульбу, месца тое зааралі.

...Заяц выскачыў недалёка ад таго месца, дзе стаяў Казук. Здавалася, ён не бег, а ляцеў, не дакранаючыся да зямлі.

Казук рэзка ўскінуў перад сабою стрэльбу. У момант зліўся з ёю, падаўся ўвесь наперад і, ледзьве адстрымліваючы дыханне, злавіў звярка на мушку. Адчуў, як дробна-дробна пачаў трэсціся, і, быццам хапаючыся за нешта, ірвануў спускавы кручок.

Далёкае чыстае рэха пайшло па лесе. Балюча, быццам каменем, дало ў плячо. Аж пацямнела ў вачах. Стрэльба раптоўна стала цяжкай, хацелася хутчэй апусціць яе, вызваліць рукі. Ён ужо намерыўся паставіць яе каля дуба, як нечакана ўспомнілася Сушчэнева: «Бі дуплетам, не шкадуй!..»

І ён адчуў, як балюча-балюча варухнулася штосьці ў сярэдзіне грудзей. Не помнячы сябе, сцяў зубы, аж прыкусіў да крыві ніжнюю губу, і сутаргавата націснуў на другі спускавы кручок.

Страляў усляпую: ні зайца, ні нават мушкі не бачыў. Але ўсё-такі страляў.

Адразу ж пасля другога стрэлу Казук абмяк увесь, адчуў вялікую стомленасць ва ўсім целе.

Зайца нідзе не было відаць, хоць два разы паспеў прабегчыся вачамі па прасецы. І тады, быццам суцяшаючы самога сябе, ён сказаў услых:

— Няхай жыве...— і чамусьці дадаў: — Нядзелька...

Але недзе на самай глыбіні душы, нават баючыся прызнацца сабе ў гэтым, сам усё яшчэ не даваў веры, што прамахнуўся: вельмі ж зблізку страляў. А таму зноўку, метр за метрам, пачаў мацаць паглядам прасеку.

Каля куста ядлоўцу, укрытага тоўстаю коўдраю снегу, ляжаў, уткнуўшыся пыскаю ў снег, заяц. Ён, як гавораць паляўнічыя, паспеў схаваць галоўнае — вушы свае, і не паспеў схавацца толькі сам.

Заўважыўшы звярка, Казук здзівіўся, што да гэтага часу не згледзеў яго, бо вельмі ж блізка ён ляжаў.

Некалькі хвілін Казук стаяў нерухома, з прыці-

шаным дыханнем, быццам баяўся, што заяц можа пачуць яго, адумацца і ўцячы. І толькі тады, калі з лесу вырваліся сабакі — з шырока разяўленымі пашчамі — сцяміў, што трэба бегчы за першаю сваёю ўдачаю...

Сабакі ж, вылецеўшы на прасеку, спыніліся, крутнуліся на месцы. І — убачылі зайца, хапаючы на хаду пашчамі снег, кінуліся да яго.

Але Казук, шпурнуўшы стрэльбу ў снег, на некалькі метраў апярэдзіў сабак. Схапіў яшчэ мяккага падатлівага звярка за горла — высока ўскінуў над галавою. Сабакі ж, ледзь не збіўшы самога з ног, пачалі цыгаць, спрабуючы вырваць з рукі дабычу. Казуку здавалася, што яны зараз кінуцца на яго самога, парвуць разам з гэтым няўдаліцай-русаком на дробныя кавалкі.

На шчасце, да яго ўжо спяшаўся Сушчэня. Ён бег і крычаў, што было моцы:

— Малайчына!.. А што я казаў табе! З цябе бутэлька!

Хутка ён быў побач. Пхнуў з усяе сілы нагою пад бок Палундзікаву Альму, ажно тая завішчэла ад болю, і зацмокаў ад зайдрасці губамі.

— Вось гэта зайчык... Ць-ць-ць... Даўненька я такіх не бачыў. Добры кавалачак дармавога мяса. Ць-ць... Самому з'есці — пад'ясі, на кірмаш занесці — капейчыну можна ўзяць. Ніхто не пашкадуе лішні рубель за такога малойца аддаць. Даўней я такіх...

Але ён не дагаварыў. Заяц раптоўна задрыгаў у Казуковай руцэ, падкінуўся некалькі разоў уверх і зачапіў задняю лапаю хлопцаву руку. Той ад нечаканасці расчапіў пальцы, і звярок мякка, амаль што нячутна, упаў на скрываўлены снег.

— Разява! — адразу ж узарваўся Сушчэня.— Ну, хто так бярэ зайца?! Дзе ў цябе галава! У яго ж вушы

на гэта ёсць. А ты за горла... Як ўсё роўна... Добра, што людзі не бачаць, а то засмяялі б...

Казук не апраўдваўся. Ён блізка, ледзь не пад самыя вочы, паднёс руку і доўга разглядваў на ёй крываны рубец — след ад зайцавага кіпцюра.

— Ну, чаго маўчыш, як нямко?

Але Казук — як не чуў Сушчэню.

Тады, зірнуўшы на яго, як на малога, Сушчэня сплюнуў грэбліва, акуратна паклаў стрэльбу на снег і пачаў сцягваць з плячэй старэнькі пацёрты рукзак. І калі ўжо ўкленчыў над зайцам, зноў загаварыў да Казука.

— А ўсё-такі дуплетам біў!.. Малайчына... А гэта нічога, што стаіш, як дурны. І са мною аднойчы такое было. Помню, з адным добрым хлопцам лася ляпнулі. Доўга мы хадзілі за ім: паранілі былі... І ўсё-такі не ўспусцілі, дабілі. Ага, як цяпер помню: ляжыць ён, мілы, а я іду да яго і хістаюся, як усё роўна п'яны. Хачу пабегчы — і не магу. Ад радасці аж ногі адняло. Першы ён у мяне быў, лось той. Тое і ў цябе. Пройдзе...

Як праз якую сцяну да Казука даходзілі Сушчэневы словы, а потым той, здаецца, зусім змоўк. І толькі Казук змучана ўсміхнуўся гэткаму шчасцю, як яго зноўку страсянула Сушчэнева: «Бі дуплетам, не шкадуй!..»

І, не чакаючы, пакуль Сушчэня ўправіцца, Казук згорблена павярнуўся і, ледзьве перастаўляючы ногі, пацёгся прасекаю. Праз метраў дваццаць яго дагнаў Сушчэнеў голас:

— Куды ты?! А хто за цябе стрэльбу павалачэ?

## Вузел

— Кажаш, напісаў?

— Напісаў, — неахвотна паўтарыў хлопчык і далей адсунуў ад сябе сшытак.

Стары хуценька падыходзіць да стала, нізка нахіляецца над ім, углядаецца ў напісанае. Потым, праз якую хвіліну, не разгінаючыся, паварочвае да малога парэзаны глыбокімі маршчынамі твар, ледзь чутна выдыхае:

— Ізноў леваю...

— Леваю...— ціха пацвярджае хлопчык і яшчэ ніжэй схіляе маленькую галаву з віхрастым чубам, што выпалавеў за лета да белага.

Стары паволі сядае на зграбненькі ўслончык, што стаіць каля стала, доўга маўчыць, пасля, быццам сам з сабою, пачынае гаварыць.

— І колькі разоў казаць табе, Васілёк?.. Няможна пісаць леваю. Няможна. А здэцца ж, дамовіліся... Пачалі нават пісаць па-людску — праваю. І вось табе на! Усё пайшло кату пад хвост... Не мінула і тыдня, як ты зноў узяўся за сваё. Эх, Васілёк, Васілёк!..— і, безнадзейна махнуўшы сваёю адзінаю, леваю, дзед дастае з кішэні запмальцаваны капшук з махоркаю, складзеную ў колькі разоў старую пажоўклую раённую газету.

— Закурым, ці што?

Васілёк, які ўвесь час зацята маўчаў і толькі бліскаў з-пад ілба светлымі вачыма, у момант ажывае, бярэ з дзедавай рукі махорку, газету і хутка падае назад яму акуратна згорнутую тугую самакрутку. Потым спрытна чыркае запалкаю, дае прыкурыць.

Зацягнуўшыся, стары выпускае на хату вялізнае воблака блакітнага дыму і дакорліва гаворыць:

— Вось цыгаркі круціць — я цябе навучыў...

Гаворыць — і замаўкае. Пачынае думаць. Думае ён доўга і, відаць, пра нешта важнае, бо нават не зацягваецца болей. Нарэшце, быццам ачнуўшыся, усхопліваецца, вядзе гаворку далей.

— Ведаеш, унучак... Пакуль бацькі твае па свеце гойсаюць, доўгі рубель шукаюць, здам я цябе, мусіць, у той антарнат усё-такі. Там цябе, браток ты мой, хутка навучаць пісаць як трэба.

Васілёк нічога не адказвае. Толькі галава яго паволі апускаецца на стол, а чубок — дробна-дробна пачынае трэсціся ад нямога плачу.

Стары тут жа падхопліваецца з услончыка, нязграбна, з нейкай пяшчотнай асцярожнасцю туліць унука да сябе. Адначасова (крый божа, каб не ўбачыў Васілёк!) непрыкметна змахвае з вачэй слёзы.

— Васілёк!.. Чуеш, Васілёк!.. Ну выбач ты мне, дурню старому. Не плач. Нікому не аддам я цябе, верабейка ты мой...

Доўгае маўчанне. Ад самакруткі, што ледзь не паліць вусны старому, тоненькай стужачкай уецца белы дымок. Роўна-роўна.

— Ну скажы мне, унучак,— у нейкім глыбокім роздуме, бы ў самога сябе, пытаецца стары,— чаму ты не пішаш праваю? Не разумею, браток, я цябе. Возьмем мяне, прыкладам кажучы...— голас ягоны званчэе, робіцца больш упэўнены, цвёрды.— Тут кожнаму як сярод белага дня відно, чаму я крэмзаю леваю... Няма ў мяне правай. Вайна забрала. А вось ты? Ніяк не дабяру розуму: у чым жа тут вузел? Памажы мне, унучак, разабрацца...

Як і раней, хлопчык маўчыць. І дзед, відаць па

ягоных вачах, траціць апошнюю надзею пачуць ад яго хоць слова.

Але нечакана Васілёк пытаецца:

— Ведаеш дзеда Ігната з Нізоў?

Стары ківае галавою: ведае.

— А дзеда Рыгора з Ялова? Ён яшчэ летась калгасны статак пасвіў...

Дзед моршчыць лоб, пачынае прыпамінаць. Але ўнучак не чакае, пакуль дзед успомніць, гаворыць далей:

— І яго ведаеш, толькі, можа, забыўся. Дык вось... У іх таксама няма рук. У абодвух — правай. Хлопцы пыталіся, чаму няма. А яны, быццам згаварыліся, як і ты: «Вайна, хлопцы, вайна забрала».

Яшчэ штосьці сабраўся гаварыць Васілёк, як нечакана дзед выпраставўся на ўвесь рост, павярнуўся і, няўмела запіхаючы пусты правы рукаў, што як назнарок выпаў з кішэні, цяжка пасунуўся да дзвярэй.

— Дзеду, куды ты?! — Васілёк аж прыўстаў з табурэткі.— Дзеду, пачакай! — ён саскоквае на падлогу і кідаецца ўслед за старым.— Пачакай, не злуй... Вось убачыш: буду пісаць праваю. Хоць сённека, цяперака... Усё перапішу нанова, да апошняга слоўка!..

6 Зак. 4035

# Шчыраю ноччу

*Марыі*

Месячнай ноччу — яснай і ціхай, вяртаюся дамоў, у родную вёску. Лёгка, радасна ідзецца старым брукаваным шляхам, абапал якога вякуюць высокія, магутныя, мо ў тры абхваты ў камлі, таполі і ліпы. Чырвоная, буйнатварая поўня вісіць так нізка, так цяжка над жытнім полем, што дзіву даешся: як яна яшчэ не згубілася ў якой-небудзь лагчынцы, не заахвоцілася на спачын. І — цішыня. Ні гуку. Не, усё-такі памыляюся. Толькі прыцішыў хаду, прымружыў вочы, як пачуў ледзь улоўны звон — доўгі і чысты, нібыта хто грае ціхенька сам сабе на цымбалах альбо, забаўляючыся, стукае пальцам у крышталёвы кубак і слухае.

І выпадзе ж гэткая ноч! Не ноч, а... Ізноўку міжволі спрабую знайсці тое слова — адзінае, сапраўднае, якому б пашчасціла праз гукі свае, чысціню першародную, абазвацца маленькаю кропляю цуду. Шукаю — і не знаходжу. Пэўна, няма, не нарадзіла шчэ сэрца людское такое слова.

Ужо далёка за поўнач. Праз нейкую гадзіну пачне світаць. Але я не спяшаюся дамоў. Ведаю: хоць і здарожаны — усё роўна не засну. Не змагу. Скіроўваю на шырокую брукаванку суседняй вёскі, прыкмячаю і радуюся таму, як памаладзела яна за апошнія некальк і год новымі хатамі. Цяжка нават цяпер і пазнаць, з якіх жа вылецелі ў свет, у вялікае жыццё мае аднакласнікі.

Каля аднае хаты спыняюся — захацеў прысесці і перакурыць. Якраз і лаўка ўкапана пры плоце. Нізенькая, шчыра габляваная, нават пафарбаваная — аж

поўня адбіваецца, бы ў люстры якім. За плотам, перад самым акном, маладзенькае дрэўца — вішня альбо сліва.

Прысеў. Толькі палез у кішэнь, намерыўся дастаць цыгарэту, як у хаце, пад вокнамі якой прымасціўся, моцна зайшлося плачам дзіця. Чуваць добра. Відаць, акно крыху прачынена.

Яшчэ праз імгненне трывожна зарыпеў ложак, і маладзы дзявочы голас ціхенька, пяшчотна павёў знаёмую з дзіцячых год калыханку.

Люлі-люлі-люлі,
Дзеткі ўсе паснулі.
Адна Юлька не спіць,
Не спіць, размаўляе,
З каточкам гуляе.
А ты, коцік, не бурчы.
Ты ж, Юльянка, спі-маўчы.
А-а-а... А-а-а...

— Ты пялёначкі лепш паглядзі...— нечакана пачуўся заспаны голас таты.— Мо памяняць трэба, дык я скочу ў сені, прынясу, каторыя высахлі...

— Паглядзелі, тата, паглядзелі,— адказала, спяваючы калыханку, маладая мама.— Сухая наша донька, сухая... Ты не хвалюйся, спі, табе ж заўтра рана ўставаць, на работу трэба бегчы...

Збег коцік за вулку,
А Юльянка ў люльку.
Люлі-люлі, коця,
Не спі на балоце,
А спі ў калыбельцы
На мяккай пасцельцы.
А-а-а... А-а-а...

Немаўлятка пакрысе супакоілася. Але жанчына не пераставала спяваць, паціху вяла далей калыханку. Яна, мусіць, сама ведала, што ў яе добра выходзіць. Няхай сабе спіць ужо маленькая Юлька, затое не

спіць, чуе тата... А мо яна проста забылася на ўсё і па-сапраўднаму зашкадавала таго няшчаснага катка, якога дарэмна прагналі з печкі, і ён цяпер спіць недзе ў мокрым балоце.

Люлі-люлі, каточак,
Злізаў бабчын мядочак.
Сама бабка злізала,
На коціка сказала.
Біці катка, біці,
Не йдзе малаціці,
Вочкамі свяціці,
А лапкамі падграбаць,
А хвасточкам падмятаць.
А-а-а... А-а-а...

Вядома, шкада каточка. Нядобрая бабка: сама злізала мядочак, ды яшчэ нагаворвае на шэрага, як быццам і сапраўды ён гультай.

Я затаптаў у пясок цыгарэту, падняўся ісці далей. Але раптам бразнула аб шыбіну аконная зашчапка. Я не скрануўся з месца — не хацелася, каб людзі падумалі, што хтосьці, няхай сабе і выпадкова, але падслухоўваў іхняе маладое бясконцае шчасце.

— Глядзі ты, ночка якая! — абазваўся тата, і ў ягоным голасе чулася сапраўднае захапленне.— Свята нейкае, а не ноч... Ідзі падзівіся, Люба!..

— А ты раскажы, што за свята! — чуцён з глыбіні пакоя цёплы, нейкі вельмі жартаўліва-ласкавы голас.— Спадабаецца — падыду, не спадабаецца...

Ён доўга маўчыць. Напэўна, як і я, шукае ў сабе таго слова — адзінага, нечаканага, якое б адно ўмясціла ў сабе больш, чым дзесяць, сто іншых. Шукае — і не знаходзіць. У маім сэрцы акрамя разумення нараджаецца яшчэ і спачуванне.

— Шчаслівая нейкая...— нарэшце ціха гаворыць Юльянчын тата. І тут жа спахопліваецца: — Не, не тое! Ідзі сама лепш паглядзі.

— Ну, іду, іду... Як ажаніўся, дык і гаварыць развучыўся,— усё разлівае тое жартаўліва-ласкавае цяпло Любін голас.— Раней жа, пакуль не быў жанаты, і словы патрэбныя неяк знаходзіў...

Чуваць, як яна, асцярожна ступаючы, падыходзіць да акна, прачыняе другую яго палавіну.

Яны доўга маўчаць, нібыта баяцца, што знячэўку словы могуць перакрэсліць ці перайначыць усё. Мабыць, у гэтым ёсць свая праўда.

— Ну як? — нарэшце нясмела пытаецца ён.

Яна ўсё маўчыць.

— А што я казаў табе! — горача шэпча ён.— Цяпер бачыш, што за ноч?!

— Пачакай, пачакай... Як ты сказаў, шчырая?

— Шчырая?..— у ягоным голасе нічога, акрамя здзіўлення, няма.— Няхай сабе будзе й шчырая...— І праз імгненне, ужо на крыле радасці, захлынаючыся пачуццямі і словамі разам, ён кажа:

— Яна ж папраўдзе шчырая! Ты чуеш, Люба?!

Я ціха падымаюся з лаўкі. Выходжу проста на сярэдзіну вуліцы. Звонка агаласіў цішыню першы певень. Яму адказаў другі, трэці...

На ўсходзе, дзе ўжо нясмела заружовілася неба, не было ні хмурынкі.

# Стронга

Калодзеж хоць і плыткі, усяго на нейкія чатыры трубы-цымбравіны, але вада ў ім чыстая і халодная.

— Відаць, на добрую жылу натрапілі,— кажу гаспадару,— вада, што крынічная.

— Гэта толькі здаецца спачатку — бы лёд,— усміхаецца дзядзька Рыгор,— а так яна верхаводка, стронга ў ёй не хадзіла б...

— Во-во, раскажыце яму пра стронгу,— гаворыць Шура, выціраючы твар.— Чалавек ніколі не бачыў гэтай рыбы.

— Няма ніякага дзіва...— паціскае плячыма дзядзька Рыгор.— Я сам забыўся, калі апошні раз яе бачыў...

— Выдумляй, выдумляй...— пярэчыць яму сын.— Хіба забыўся: пазалетась бачыў. Разам жа на Пакручанцы былі.

— Дык хіба то была стронга?

— А хіба не? — хмурыцца, хітра смеючыся, Шура.— Успомні, як ты танцаваў тады каля мяне.

Дзядзька Рыгор не адказвае. Адмахваецца рукою і ідзе ў хату.

— Муціць ваду стары,— белазуба ўсміхаецца Шура.— А сам, помню, як дзіця радаваўся, калі я тую рыбіну злавіў. Нат не даў паглядзець уволю, тут жа прымусіў назад у рэчку кінуць.

Праз хвіліну мы таксама ідзем у хату.

Дзядзька Рыгор ужо сядзіць за сталом. Сур'ёзны такі, важны. Прысаджваемся моўчкі насупраць, глядзім нейкі час, як шчыруе каля печы маці.

— Дык, значыцца, на рыбу збіраецеся? — парушыў маўчанне, кашлянуўу кулак дзядзька Рыгор.

— А як жа! — весела адзываецца Шура.— Ці мо якая пільная работа ёсцека?

— Работу ўсю ніколі не пераробіш. А куды думаеце падацца?

— На Пакручанку, куды ж яшчэ.

— Мо лепей на Нёман зганяйцеся...

— Ану яго, з тым Нёманам,— моршчыцца Шура,— пакуль туды, пакуль назад... І кампаньёна, які б ведаў добрыя мясціны, у нас нямашака. Наб'ём адно ногі.

— Самыя паходзіце,— не пакідае нас угаворваць дзядзька Рыгор.— Ты ж некаторыя азярыны ведаеш. А вада вялікая вясною ішла, шчупакі павінны быць.

— Хіба шчупак рыба? Косці адны, а не рыба,— зухавата ўскідвае галаву Шура.— Мы не шчупака, а стронгу злавіць хочам.

— От, не мянці лепш языком,— злуецца дзядзька Рыгор.— Надта ж многа такіх ахвотнікаў развялося.

Крыху памаўчалі.

— Нёман увесну, як выйдзе з берагоў, не ракою — морам здаецца,— сумна ўздыхае дзядзька Рыгор.— Канца няма яму. І рыбы ўсялякай, скажу вам, калісь багата вялося ў ім. Адна стронга не заходзіла ў яго вялікую ды не надта халодную ваду. Сцюдзёную, чыстую ваду нашай Пакручанкі яна любіла. Дробненькі, што праз сіта прасеяны, пясочак, каменьчыкі гладкія ёй патрэбны... Злавіць жа, скажу вам, не кожнаму шчасціла стронгу. Быстрая ж вельмі, сцярожкая рыба. Трэба было не абы-якім рыбаком нарадзіцца, каб высачыць яе, перахітраваць. Затое, калі ўжо злавіў, дык ляціш дамоў — ног пад сабой не чуеш. Такая радасць была. На цэлы год вясёлага ўспаміну хапала...

Я слухаў дзядзьку Рыгора і дзівіўся: чалавек як усё роўна скінуў бярэмя гадоў. Памаладзеў, праяснеў з твару, голас стаў чысты, бадзёры.

Нарэшце маці ставіць на стол, засланы белым ільняным абрусам з махрамі, міскі пахучай уварыстай капусты, качан якой прывёз са сталіцы Шура, вялікую міску з бульбаю, нясе два гладышы з малаком — адзін з кіслым, другі — з халодным салодкім, кладзе курыныя яйкі, зялёныя шчыпяры цыбулі і садзіцца сама на краёчку лавы.

Дружна бяромся за лыжкі.

* * * Выбраліся ў палове шостай. Уперадзе ідзе Шура. За ягонымі плячамі весела пагойдваецца невялікі стары сак. Густыя вочкі сака шмат дзе сашчэплены звычайнымі чорнымі ніткамі.

За тры крокі за Шурам з белым бітончыкам у руцэ калдыбаю я. На маіх нагах усохлыя, што драўляныя, неданоскі-чаравікі, адзін нават з разяўленаю пашчаю. Але гэта яшчэ паўбяды: не на танцы сабраліся. Бяда ў тым, што чаравікі на два нумары меншыя. Большых, хоць Шура і абгледзеў усё гарышча, не знайшлося. Я ўжо надумаўся ісці босым, ды дзядзька Рыгор сказаў: «Што вы, цяперака ў Пакручанцы шкла болей, чым каменьчыкаў! Хіба што босым дабяжыце да берага, а там абуецеся. Чаравікі ў вадзе пасля разлезуцца, добра будзе хадзіць...»

Чаму адразу было не паслухацца?

Саджуся на траву, зрываю ■ ног кандалы і, як птушка, даганяю Шуру. Аж бітончык дзінькае на ўсю аселіцу.

І вось ужо ідзем побач. Маўчым, слухаем музыку спелага лета. Белае сонца прыкметна схілілася на захад, глядзіць нам у спіну. Слабы цёплы ветрык нясме-

ла казыча твар, дурэе з валасамі. На высокім луку рэдкага неба, як і ўчора, як і пазаўчора — ніводнай хмаркі. Напэўна, заўтра дажджу таксама не будзе.

Добры дзень, Пакручанка!

На першы погляд — звычайная рэчка. На абодва нізкія ўтравелыя берагі збегліся да самае вады і стаяць купкамі кусты чэзлага алешніку. У адным месцы перакінута нешырокая кладка з высокімі парэнчамі; метраў сорак вышэй ад яе чарнее невялікі дашчаты выступ, з якога падбярэжскія жанчыны палошчуць бялізну. Сям-там тырчаць слабыя чубкі аеру, падымаецца высокі дзягіль.

Не, усё гэта прыкмячаеш пасля. Перш за ўсё ў вочы кідаецца тое, што перад табою — Па-кру-чан-ка. Як змяіцца ў радасным быстрым танцы яе тугое жоўтае цела! Як звініць, як спявае яна!

Шура, быццам штосьці агіднае, адкідвае ад сябе сак, не раздумваючы, уваходзіць у рэчку. Глыбіня — па калена. Ён ідзе далей, на сярэдзіну. Нагінаецца над вадою, доўга глядзіць у яе, потым зачэрпвае далонямі жывое срэбра і мые твар.

Вось гэта вада! У першае імгненне мне здалося, што стаю на джарале крыніцы. Хутчэй адступіў колькі крокаў убок — той жа ледзяны холад, быццам хто цвікі заганяе ў пяты.

— Ну што, халодная?! — іскрыцца радасць з Шурыных вачэй, і няголасна, напэўна, баючыся прагаварыцца, сябар паведамляе мне: — Тут заўжды рыбна было... Цягні хутчэй сюды сак...

Асцярожна падступаем па тупкім камяністым дне да таго берага, дзе на быстрым цячэнні бычыцца вялікі чорны корч. З кожным крокам усё глыбей, глыбей... Вада ўжо ледзь не па самыя грудзі — такая калючая, вострая, аж кідае ў дрыжыкі, збівае дыханне.

Нарэшце мой сябар спыняецца. Засяроджана ла-

дзіць каля карча сак. Мне здаецца, што робіць ён гэта няўмела і вельмі марудна. Хоць ты ідзі ды дапамажы яму. Але ж і вада... Праўда, не глыбока. Каб і хацеў утапіцца — не ўтопішся. Затое злосная, пякучая. Мыйся дзень у дзень — любы мароз пасля чуць не будзеш. І сонца цэлы дзень стаіць, а яна зусім не нагрэлася.

— Чаго стаіш? — паварочваецца да мяне Шура.— Пахадзі крыху, патапчы.

З пырскамі кідаюся да карча. Правальваючыся ў неглыбокія ямкі, тапчу то адною, то другою нагою.

І вось чаканае імгненне — сак пад вадою.

— На першы раз нічога,— радасна ўсміхаецца непадманутым рыбным месцам Шура.

Праз ягонае плячо бачу на сетцы чатыры вусатыя слiжыкі і два келбікі.

Паціху сунемся далей. Праз дваццаць — трыццаць крокаў ставім сак. Не, ёсць яшчэ рыба ў Пакручанцы. Келбікі, сліжы, гаркушы, ёршык, вядома. Вада ў рэчцы здаецца ўжо не такая сцюдзёная, як была спачатку. Чаравікі даўно разлезліся, не ціснуць. Чаму не рыбачыць!

І рыба што называецца «пайшла». Весела, цесна ў нашым бітончыку. Але куды дзелася тая радасць, што нядаўна трымцела ў грудзях, як цяпер во келбік у саку?

Шура ставіць сак — я тапчу. Шура ставіць сак — я тапчу...

Толькі намерыўся зноўку шалёхнуць у дно, як Шура перастаў трымаць сак, рэзка выпрастаўся.

— Ладна, давай перакурым...— і сак, рашуча выхаплены з вады, далёка ляціць на бераг.

Курым нядоўга і, прызнацца, без усякай ахвоты. Нахабным камарам, напэўна, спадабаўся салодкі цыгарэтны дым, і яны хутка прымушаюць нас шукаць ратунку.

— Пройдземся яшчэ ці на сёння хопіць? — голас у Шуры нейкі абыякавы, прэсны.

— Пройдземся...— кажу я і гляджу на Падбярэжжа. Набрынялае чырванню сонца якраз умасцілася і адпачывае на вершалінах векавых ліпаў.

Шура нарэшце ўстае, ідзе да сака і вытрасае з яго траву, усялякае смецце. Потым вяртаецца назад да рэчкі. Чамусьці без сака. Моўчкі садзіцца побач.

Добра ўсё-такі сядзець вось так, звесіўшы ногі з берага, слухаць жаўруковую песню вады, піць настоенае на травах і лугавых кветках паветра дзяцінства. Каб яшчэ не паганае камар'ё...

— Кі-гі!.. Кі-гі!..— нешта ўстрывожыла кнігавак, і яны нізка захадзілі над намі.— Кі-гі!.. Кі-гі!..

— Глядзі!..

На шырокай, бы лапата, сябравай далоні — нежывая рыбка. Галоўка — чорная. Шчыткі на жабрах — залацістыя. Верх спінкі — цёмна-зялёны. Астатняе цельца светла-каштанавае, усыпанае маленькімі, ледзь прыкметнымі чорнымі і чырвонымі крапінкамі. Стронга.

Правільней — тое, што мелася стаць стронгаю.

# Пасылка з дому

Нeяк раптам шчыра ўзялася зіма. Яшчэ два тыдні назад, Кастрычніцкім святам, калі Макрыцкі гасцяваў дома, стаяла цёплае пагоднае надвор'е, хоць ты хадзі ў адной кашулі. А сёння і ў кажусе самы акурат. Снегу, праўда, не многа, ледзь зацерушыў зямлю, затое вецер — злосны, калючы, здаецца, навылёт прадзімае. Маці як чула гэтакую перамену, усё прасіла зімовае паліто ўзяць. Можна было б і ўзяць, ды рукавы надта кароткія, ледзь не па самыя локці. Мінулую зіму разы тры мо і апрануў у школу, а так усё хадзіў у новай ватоўцы. То дома, у вёсцы... А тут, у горадзе, лепей ужо бегаць у балоневай куртцы. Яна хоць і халодная, ды, пададзеўшы што,— трываць можна.

Дарога добра здоўжылася. На пошту, пакуль не мяло, Макрыцкі як бачыш даскочыў, а назад, з пасылкаю пад пахаю, не вельмі разгонішся... Калі ж сунімецца халера гэтая, вецер! Шалее, як на вісельніка!..

Вецер секануў па твары поўнаю жменяю дробнага калючага снегу. Потым яшчэ і яшчэ. Нельга стала глядзець. У момант прапалі ў шалёнай крутаверці будынкі, вуліца ледзьве пазначылася мутнымі высокімі ліхтарамі, што дагэтуль здаваліся дужа яркімі. «Во дае, дык дае!..— Макрыцкі, сагнуты ў крук, усляпую сунуўся наперад.— Не тое што ў полі дзе ці ў лесе,— у горадзе во скруціць галаву можна...»

Нечакана пачуліся бадзёрыя галасы, звонкі бесклапотны смех. З цяжкасцю разагнуўся, паглядзеў наперад. Не зважаючы на непагадзь, з ветрам у спіну кудысьці спяшалася кампанія хлопцаў і дзяўчат.

Макрыцкі сaступіў на край тратуара, даў дарогу. Прайшлі побач і нават не глянулі ў ягоны бок, занятыя сабою. Яму ж раптоўна захацелася кінуць сваю цяжкую пасылку, дагнаць гэтых высокіх, модна апранутых дзяўчат, іхніх гаваркіх кавалераў, пайсці разам з імі...

І сапраўды, прыехаў дамоў, дык не было пра што нават расказаць хлопцам. Прыйшлося выдумляць альбо, збіваючыся, пераказваць з чужых слоў розныя студэнцкія анекдоты, гісторыі. Заходзіла, вядома, гаворка і пра дзяўчат. Куды нядаўнім аднакласніцам, нязграбным і праставатым, да гарадскіх — вылітых артыстак, смелых з хлопцамі!

Але хіба ён усё выдумляў? Ведама, не!.. Хадзіў жа аднаго разу на танцы ў галоўны будынак інстытута. Пяцікурснік Ліпай, з якім жыве ў адным пакоі, зацягнуў. Пайшлі, кажа, Косця, мо хоць каторая мужчынам зробіць!.. От ужо дзе было рогату! А найбольш дык заходзіўся сам Ліпай...

...Яны ледзьве ўціснуліся ў невялікую спартыўную залу. Адразу ж аглушыла дзікае рыканне гітар, над якім часам браў верх пранізлівы лямант нейкага спевака. Дыхаць не было чым. Паветра — гарачае, кідала ў пот. Танцавалі на месцы, там, дзе стаялі. Макрыцкі, хутка застаўшыся адзін, без сваіх кампаньёнаў, няўмела тоўк локцямі ў спіну і ў бакі суседзям, тыя — яму. У галаве гуло, кашуля на спіне — хоць выкручвай. Нечакана, пад самы канец танцаў, адзін з музыкантаў прахрыпеў: «Дамскі танец!» Рынуліся запрашаць дзяўчаты, якіх у залу набілася ў разы два болей, чым хлопцаў. Макрыцкі ўздыхнуў з палёгкай: нарэшце ўдасца вырвацца з гэтага пекла. Пачаў з усяе сілы ўпірацца плячом, як нехта схапіў за руку вышэй локця:

— Дазвольце запрасіць вас на танец!..

«Мяне?..» — аж перахапіла дыханне. Асцярожна, усё яшчэ не верачы, павярнуўся, і рукі яе нячутна, што пушынкі, ляглі на плечы, сустрэліся за шыяю, зліліся.

Макрыцкаму здавалася, што яны не танцуюць, а проста стаяць на месцы, абняўшыся ва ўсіх на вачах. Хацеў загаварыць, але язык як скамянеў, не ставала нат сілы варухнуць ім, правесці па сасмяглых губах. Ён бачыў яе кароткую, хлапечую прычоску, тонкія, пільней прыгледзеўся, павышчыкваныя бровы, доўгія, такія пяшчотныя-пяшчотныя чорныя вейкі, маленькі ▪ гарбінкаю носік, адчуваў малыя кулачкі грудзей — і баяўся дыхнуць, паглядзець лішні раз на яе.

Так і стаялі моўчкі ўвесь танец, пакуль не сціхлі, моцна грымнуўшы напаследак, гітары. Яна ўсміхнулася. Неяк стомлена, лена. Падзякавала. Ён разгублена паціснуў плячыма — «няма за што». Затым адумаўся, спахапіўся таксама падзякаваць. Але ў горла, як назнарок, убіўся кашаль — дурны і недарэчны.

Хутка аб'явілі, што танцы скончыліся.

Усе хлынулі да дзвярэй. Яна ж засталася стаяць на месцы. Азіралася вакол сябе, нібыта кагось чакала. Мо сяброўку? І тады нечакана для самога сябе Макрыцкі рашуча ступіў бліжэй да яе.

— Дазвольце, я праваджу вас!..

Да самай нязначнай маленькай драбніцы запамятаўся яму той цёплы вераснёвы вечар, настоены на гаркавата-салодкім дыме спаленага ўдзень апалага лісця. Ішлі чуйнымі гулкімі вулачкамі і завулкамі, яна — крыху наперадзе, ён на крок за ёю. Аб чымсьці гаварылі. Ён, Макрыцкі, няўдала жартаваў. Яна смяялася. Галасна, як дзіця. А яшчэ — чытала вершы незнаёмых паэтаў. Ён мала што разумеў у іх, яны былі нейкія кручаныя, але слухаў уважліва, не асмельваўся і нават не думаў прасіць, каб прачытала яшчэ раз асобныя радкі. Але найбольш маўчалі. На-

дзіва, маўчанне гэтае не гняло, наадварот, з ім неяк асабліва лёгка, добра ішлося. Макрыцкі ведаў — яе завуць Аксана, быў упэўнены, што вучыцца на адным са старэйшых курсаў таго ж факультэта, што й сам ён, бо ведала ледзь не ўсіх выкладчыкаў. Аб сабе, праўда, расказаў крыху больш. Нават дзеля «саліднасці» прыдумаў, што да паступлення ў інстытут служыў у войску. І не ў якой-небудзь пяхоце, а матросам ціхаакіянскага флоту. Во куды загнуў! Яе зусім не здзівіла такое «сціплае» паведамленне, адно спытала, ці бачыў кітоў. Ён штосьці гаварыў, гаварыў, успамінаючы на хаду скупыя звесткі са школьнага падручніка геаграфіі, і па дробным, упэўненым стуку яе абцасікаў адчуваў: усё добра. І ўсё павінна быць добра. Вышэй і вышэй гушкаліся ў грудзях арэлі хмельнай радасці.

І зусім недарэчы, як з-пад зямлі, вырас перад вачамі знаёмы гмах роднага інтэрната. Як хутка прыйшлі яны! Хацеў прапанаваць прайсціся яшчэ, але не адважыўся. Спыніліся пры самым уваходзе.

— Вось і прыйшлі!..— сказала яна, бы звlanguageліла з плячэй цяжкую ношку.— Бывай!..

— А вы...— ён адчуў, як нешта халоднае пачынае расці ў ягоных грудзях,— а вы хіба тут не жывяце?..

— Не-а! — тузанула вострым маленькім плечуком.— Я кватарую ў горадзе.

— Дык я правяду вас! — і дадаў абвялым у момант голасам, ледзь не шэптам: — Прабачце... Я думаў, што вы таксама жывяце ў інтэрнаце.

— Тут недалёка прыпынак,— яе голас зламаўся на холад і несхаваную абыякавасць,— і тралейбусны, і аўтобусны разам. Дык я ўжо сама дабягу.

Ён усё-такі праводзіў яе да прыпынку. Сунуўся, што цень, услед, баючыся шаргануць мацней чым звычайна падэшваю аб асфальт, не тое што вымавіць якое слова, і ўсё дакараў, сварыўся на самога сябе: «Ду-

рань! Боўдзіла!.. Так пакрыўдзіць дзяўчыну... Так спаганіць усё!..»

Ды лягчэй ад гэтага не было.

На прыпынку якраз стаяў тралейбус, і яна, кінуўшы праз плячо на развітанне «Бывай!», хутчэй пабегла.

Пра танцы, вядома, расказваў хлопцам. І не адзін нават раз. Пра гэта — нікому. Спачатку стараўся не ўспамінаць Яе, як агню, баяўся выпадковай сустрэчы на факультэце. Баяўся і з кожным новым днём усё мацней і мацней прагнуў тае сустрэчы...

* * * Нарэшце, добра такі скалеўшы, дабег да інтэрната. Ладныя шырокія дзверы нібыта хто трымаў з сярэдзіны. Давялося паставіць пасылку на ўсходы і цягнуць за ручку абедзвюма рукамі. Пасля, калі ўскочыў у вузкі, як дваім размінуцца, калідорчык, так бухнула за спіной, што аж здрыганулася пад нагамі падлога. Хутка намацаў ручку яшчэ адных дзвярэй — уваліўся ў самое жытло.

Збольшага абабіўся ў парозе ад снегу і, ледзьве пераставўляючы ногі, пацёгся далей. Калі праходзіў каля вахцёркі, пачуў яе ціхае, але так, каб і другія пачулі: «А божачка! А што ж гэта робіцца? Так лютуе, так лютуе, чалавеку дамоў не дабрацца, з ног збівае...» У вахцёркі, відаць, канчалася дзяжурства.

Ногі зусім адабрала, не гнуліся ў каленях. «Трыко трэба класці пад штаны, а то нядоўга і па бальніцах пайсці качацца...» Вось і родны пакой. Асцярожна, кантам, апусціў пад ногі пасылку, стомлена, цяжка прываліўся плячом да дзвярэй. Злавіў у кішэні курткі сярод рознай драбязы ключ, уставіў яго ў замок і колькі хвілін непаслухмянымі пальцамі зацята круціў ім то ў адзін, то ў другі бок, спрабаваў адамкнуць пакой.

Замок, як на злосць, не паддаваўся. Раптам з-за дзвярэй даляцеў прыглушаны кашаль, затым — крокі — рашучыя, хуткія. Пстрыкнуў замок. Дзверы ненамнога, як прасунуць руку, прачыніліся.

— Няўжо ты, дубовая галава, не можаш дапяць, што пакой заняты? — чорныя вугельчыкі Ліпаёвых вачэй гарэлі такой злосцю, што Макрыцкі аж адступіў колькі крокаў назад.— З дзеўкаю я, панімаеш?.. З дзеў-ка-ю. Яшчэ не ясна?!

— Пастаўлю пасылку, распрануся — і пайду,— адказаў пакрыўджаны Макрыцкі.

— Якую пасылку?

— Вось гэтую...— стукнуў нагою ў скрынку Макрыцкі, нібыта яна была зусім непатрэбная яму.

— А-а!.. Вось яно што! — пагладзіў Ліпай свой сыты, з ямкаю пасярэдзіне падбародак. Памаўчаў, пасля выслізнуў у калідор і ўсё яшчэ нездаволена дадаў: — Пасылка, канечне, студэнту — як свята. Якраз падаспела... Ды ты ўсё роўна вучыся заходзіць у пакой.— Шчыльней зачыніў за сабою дзверы і раптам свабодна, лёгка, быццам нічога паміж імі і не здарылася, ляпнуў Макрыцкага па плячы.— Ты, Кастусь, не крыўдуй. Зразумей, брат, мяне... Адным словам, патрэбны пазарэз мне пакой.

Макрыцкі не чакаў гэткай рэзкай перамены ў гутарцы. Лыпаў вачыма, спрабаваў нават усміхацца і, як заведзены, усё паўтараў адно і тое:

— Ладна... Ды што ты, Ігар!.. Ладна...

— Ведаеш, Косця,— Ліпай перайшоў на шэпт,— а што, калі мы мікрасабантуйчык зварганім? Закусь ёсць, на божыя слёзы скінемся... Пасядзім якую гадзіну. Я са сваёю кадраю, ты са сваёю. Пэўна, падчапіў ужо нейкую?..

Макрыцкаму аж не верылася, што гэта гаворыць сам Ліпай. Як роўны з роўным, упершыню без усялякіх кепікаў, хітрыкаў, на што ён вялікі мастак. І нават

сам прапаноўвае складчыну. «Зрэшты, прапанова неблагая, якраз пад настрой,— падумаў Макрыцкі,— заўтра нядзеля, да практычных заняткаў будзе час падрыхтавацца»,— і сцепануў плячыма — яшчэ не забыўся нядаўні холад.

— Ну то што, згода? — нецярпліва спытаўся Ліпай, пранізваючы наскрозь сваім калючым хуткім позіркам.— Думай хутчэй, часу і так няма...

— Згода,— слаба ўсміхнуўся Макрыцкі і нерашуча дадаў: — Толькі... Была ў сабакі хата — так і ў мяне дзеўка...

— Няўжо яшчэ не знайшоў?

— А я і не шукаў!..

— Тады прыйдзецца памагчы! — не раздумваючы нават, сказаў Ліпай і падміргнуў па-змоўніцку: — У ціхім балоце чэрці водзяцца... Не, не веру я табе ўсё-такі, хлопча... Не адной ты галаву закруціў!

Калючым дротам у грудзях Макрыцкага варухнулася злосць.

— Я не пытаюся, ці з адною ты ўвесь час хадзіў...

— Ого! А ты хлопец завадны, аказваецца... Ладна, гані траяк,— хутка загаварыў Ліпай.— Мілуй сабе на здароўе, калі ёсць каго! Толькі дурніц сцеражыся, каб не ўчапілася пасля каторая: «Я табе ўсё аддала-а!..» Жонка, дарагі мой, такі хамут, такія лейцы! — Запхнуў у кішэню джынсаў тры рублі Макрыцкага, нібыта са шкадаваннем закончыў: — Табе што!.. А я ўжо, можна сказаць, захамутаны. Каб не праклятае размеркаванне... Хай ён спрахне, Н-скі ўезд! Мне і тут, у сталіцы, нябдага. Пайшлі, пазнаёмлю са сваёю Джульетаю, яна летась скончыла нашу гімназію і, дзякуючы тату, прыляпілася да аднае саліднае фірмы. Кватэраю пахне...

Пакой быў цьмяна асветлены настольнаю лямпаю. Макрыцкі хутка распрануўся ў парозе, разгроб збольшага на галаве валасы і патупаў далей у пакой. Зрабіў

колькі крокаў і стаў як укопаны, зніякавеў увесь. На ложку сядзела Аксана.

У джынсах. Звычайная мужчынская кашуля ў вялікія клеткі расшпілена на некалькі гузікаў — аж відаць, як бялеюць пад ёю... У руцэ цыгарэта.

Ліпай бухнуў пасярэдзіне стала каля пустой бутэлькі з-пад шампанскага і каробкі цукерак скрынку, гукнуў, як у лесе:

— Знаёмцеся!.. Кастусь Макрыцкі.

— Кастусь...— паціху, ледзь не шэптам пацвердзіў ашаломлены Макрыцкі і заспяшаўся адвесці вочы ўбок.

Яна зменшыла гук у магнітафоне, што аднатонна рыкаў у яе на каленях, лена, з неахвотаю ўзняла на Макрыцкага абыякавыя вочы, выдыхнула разам з дымам:

— Рыта!..

«Рыта?!» — аж разявіў рот ад здзіўлення Макрыцкі.

— Вельмі прыемна...— Яна, як усё роўна нічога не здарылася, паднесла да рота цыгарэту, зацягнулася смачна, павялічыла гук магнітафона.

— Ну то што, Кастусь? — Ліпай заклапочана паглядзеў на гадзіннік.— Часу ў нас зусім няма: праз паўгадзіны ўсе крамы зачыняюцца. Разбірай барзджэй пасылку, буду ведаць, што браць пад закусь.

— Я ледзь давалок яе, памажы хоць адчыніць,— шчыра папрасіў Макрыцкі і стомлена прысеў на табурэт.— Трэба нож пашукаць...

— Ёсць у нас чым зрабіць гэтую прыемную справу.— У руцэ Ліпая бліснуў лязом складанец, ён схіліўся над скрынкаю.

Фанера з адрасамі адскочыла як бачыш.

Ліпай непрыкметна, пад сталом, выцер аб рог абруса нож, кінуў назад у кішэню.

— Каўбасы ўжо сам вывуджвай...

Перад усім, на самым версе, ляжаў ліст з вучнёўскага ў косую лінейку сшытка, пісьмо з хаты. На імгненне яно затрымцела ў руцэ Макрыцкага. «Сыночак... табе пасылку... закалолі... апаў на ногі... не ўставаў да едла... Мёду... дзядзька Петрачок... Мерзнеш у куртачцы... Грошы за цялушачку...»

«Пасля дачытаю...» — І кінуў пісьмо на край стала.

Затым у рукі трапіла нешта лёгкае, мяккае, загорнутае ў старую пажоўклую «раёнку». «Няйнакш, штонебудзь з адзення...» Не вытрымаў, разгарнуў. Так і ёсць: тоўстыя сінія шкарпэткі і такога ж колеру з чырвонымі палоскамі-меткамі рукавіцы.

— Ну, Косця, мерзнуць не будзеш! — зарагатаў Ліпай.— У такіх валёнках...— ён неяк грэбліва, толькі двума пальцамі, узяў шкарпэтку,— не абуваючыся на факультэт будзеш бегаць!

Твар у Макрыцкага ў момант пабіла чырванню. «Шкарпэткі-то спатрэбяцца, але навошта рукавіцы выслала? Як быццам забылася, як пальчаткі вяжуцца...»

— А рукавічкі нічога, прыгожыя,— падхапілася з ложка дзяўчына,— цяпер такія якраз модныя. Мне маміна старая ўсё абяцала звязаць.

— І дуба дала! — дагаварыў замест яе Ліпай.

— Ігрык!..— падцяла яна пакрыўджана губкі.— Ты зноўку паказваеш сваю нявыхаванасць.

— Скажаш, памыліўся?

— Не памыліўся... Але нельга так на абы-каго ляпаць. Старушэнцыя — мачі маёй мамы.

— Ладна... Прабач...— Ліпай пазяхнуў, скрывіўся ва ўсмешцы.— Твая — мая, мая — твая, пухам ёй зямля! А рукавічкі, значыць, падабаюцца?

— Хіба не бачыш, як класна звязаны? Тоўстыя... Пэўна, цёплыя-цёплыя!..

«Няўжо не пазнае мяне? А мо прыкідваецца? Нельга забыць чалавека за два месяцы. Нават калі сустрэўся з ім выпадкова, не назваў свайго сапраўднага імя...

Але ж твар яе такі чысты — ні хмурынкі сумневу, няўпэўненасці...»

— Слухайце, вазьміце рукавіцы,— дрыготкім голасам прапанаваў дзяўчыне Макрыцкі.— Яны мне ўсё роўна малыя! — хуценька надзеў адну рукавіцу, заўзята пачаў варушыць у ёй пальцамі, паказваючы, што не памыляецца.— Вось бачыце — цесная. Далоні як след не выпрастаць. Я ж ведаю, як вяжа мая маці... Яна ўсё думае, што рукі ў мяне, як у васьмікласніка, калі апошні раз здымала мерку.

— Што вы, Косця!..— Вочы ў Рыты акругліліся ад здзіўлення.— Гэта ж вам прыслалі...

— Прыслалі мне, а я аддаю іх вам.

— Яны мне вялікія будуць!

— Нічога,— стаяў на сваім Макрыцкі,— памыеце разы два — ссядуцца.

— Тады... Тады дзякуй! — І спахапілася: — Я заплачу. Колькі яны каштуюць?

— Бясплатна,— паспешліва адрэзаў Макрыцкі.— Хіба вы не ведаеце, што падарункі каштуюць бясплатна?

— На кірмашы вы ці дзе? — дзелавіта ўмяшаўся Ліпай.— Даюць — бяры, б'юць — уцякай. Што там яшчэ?

Наступныя два пакункі таксама былі загорнуты ў газету. Макрыцкі навобмацак пазнаў: у адным — мяса, у другім — каўбасы. Пасля асцярожна, абедзвюма рукамі, дастаў вяночак прыгожай, адна ў адну, цыбулі, паўлітровы слоік мёду, закручаны ў ручнік, з самага дна выцягнуў вялізны кус тоўстага, як на пядзю, сала, знайшоў некалькі галовак часнаку, нават маленькі мяшэчак сушаных баравікоў, што сам назбіраў летам.

— Ну, то я пабег! — нецярпліва пацёр рукі Ліпай.— А ты, Кастусь, пашчыруй над вячэраю. Павінна каралеўскаю быць! І толькі каралеўскаю.

— Будзе! — запэўніў Макрыцкі, непрыкметна зіркнуўшы на Рыту. Яна зноўку сядзела на ложку, настройвала магнітафон, і на яе каленях цёмна сінеў ягоны падарунак — рукавіцы. «Няўжо сапраўды забылася на той вераснёвы вечар? Як ішлі пасярэдзіне вулачак, як чытала вершы, смяялася, як расказваў я пра кітоў, а ў самым канцы так ахламяжыўся?.. А можа, не хоча рабіць непрыемнасць, напамінаць пра гэта лішні раз? А ўрэшце, хто я ёй? Ці мала яе праводзілі хлопцы, кавалеры — куды за мяне! Скажы яшчэ дзякуй, што не расказала Ліпаю...»

— Каўбасу не ўздумай рэзаць на кавалкі, смаж цэлаю! — даваў апошнія парады Ліпай.— Так смачней будзе. Ужо праверана студэнцкай кухняй. Ага, і памятай: ты — рыцар! Дама не павінна сумаваць!

Калі ён у расхрыстаным кажусе вываліўся ў калідор, у пакоі нібыта пасвятлела і папрастарнела. Прынамсі, для Макрыцкага. Ён хутка знайшоў у шкапе патэльню, паклаў у яе каўбасу, нарэзаў мяса, крыху сала... Астатняе ўсё мясное загарнуў у тыя ж газеты, увапхнуў у сетку і павесіў на цвік за форткаю.

На вуліцы па-ранейшаму шалела завея. Сетку тузала ў розныя бакі, злосна шпурляла ў шыбіну, аж здавалася, тая вылеціць або паколецца. Пакуль загінаў непадатлівы цвік, рукі задубелі, твар пачало паліць агнём. «А калі загаварыць першаму? Набрацца нахабства, прыгадаць той вечар? Ліпая якраз няма... Няўжо раскажа яму? Так і сказаць: Аксана, а памятаеце, як мы вярталіся з вамі пасля танцаў? Немагчыма далей рабіць выгляд, што бачымся ўпершыню!..»

Скочыў з падаконніка на падлогу з дурнаватаю, аж сам адчуваў, усмешкаю, хацеў загаварыць і — як падавіўся, ні слова не мог выдушыць з сябе. І было б ад чаго!

Яна сядзела на краі ложка і, абыякавая да ўсяго,

шчыравала маленькімі нажнічкамі над сваімі доўгімі дагледжанымі пазногцямі. Адна з рукавіц, як непатрэбная, ляжала на падлозе, якраз у яе пад нагамі.

* * *

— Не мылься, бяры!.. Ты ніколі не бачыў сапраўдных цыгарэтаў, не тое што курыў!

«Мо адмовіцца? — варухнулася ў Макрыцкім ленае бяскрылае супраціўленне.— Усё роўна не куру... Навошта грошы адно пераводзіць.— І не паспеў нат як след асэнсаваць, прыслухацца да гэтай думкі, як трымаў, камячыў пальцамі доўгую тонкую цыгарэту з прыгожым залатым надпісам «Лорд». Прыкурыў ад запальнічкі, якую ўслужліва падсунуў Ліпай. Паспрабаваў зацягнуцца. Ледзьве заглушыў кашаль, што аж раздзірау горла.— А некалі ж курыў... І не гэткі солад, а горкае альховае лісцё. Каб не матчыны лекі — бярозавыя дубцы — пэўна, і сёння курыў бы. Як Рыта во... Адразу відаць, што яна сапраўды адчувае смак у дыме. Вунь як прыгожа трымае ў пальцах цыгарэту. А зацягваецца як! Глыбока, са смакам, мудрэй за самога Ліпая...»

Нудна, бы шчанюк на ланцугу, вішчаў магнітафон, яму падвывала з-за акна завіруха. Як аднекуль здалёку, прабіваліся да слыху Макрыцкага асобныя словы з няспешнай гаворкі Рыты і Ліпая, якія расселіся насупраць на ложку. Напачатку ён пільна прыслухоўваўся да таго, што гаворыцца, нават сам спрабаваў утачыць што-небудзь паміж рэдкімі і нядоўгімі паўзамі. І — ні разу не паказаўся да канца, губляўся, хваравіта адчуваючы: лепш памаўчаць. Ні ў Рыты, ні ў Ліпая няма ніякай ахвоты слухаць ягоны дзіцячы наіў пра нядаўна набытыя кнігі, пра навіны з першага курса... А так хочацца быць як роўнаму з роўнымі!.. Як бы ён цяперака расказваў пра сваю не шырокую, але страш-

ную чорнымі глыбокімі вірамі Шчару! Прыязджанам — пра рэчку, тым, хто ўзгадаваўся на яе нізкіх, утравелых берагах,— пра раку. З радасцю прыгадаў бы любыя сэрцу рыбныя мясціны, што, дзякаваць богу, неяк аддыхваюцца ад электрычнага току, усялякіх самаробных бомбаў, іншай халеры. Колькі разоў ён сустракаўся тут з бабрамі, нават выдру аднаго разу бачыў. Не змаўчаў бы, ведама, і пра тое, як летась выцягнуў вялізнага паўтараметровага сома. Раённая газета як аб сапраўдным подзвігу напісала.

Але каму гэта будзе цікава? Усё знаёмае, «без ізюмінкі», як гаворыць Ліпай. Рыта вунь, успамінаючы сваю сёлетнюю паездку ў Югаславію, так сыпала, так сыпала,— здаецца, цэлы дзень слухаў бы. Ну, а самога Ліпая — рыбацкім шчасцем таксама не купіш. Колькі разоў хваліўся, як у Архангельскай вобласці, куды кідаўся пасля трэцяга курса «грошы рабіць», на пустыя гачкі рыбу цягаў. І не торбамі, а мяхамі, і ўся адна ў адну — па локцю і большая.

Ізноўку думкі Макрыцкага скіраваліся да Рыты. Вось яна — блізка, насупраць, такая маленькая, зграбная, горнецца ўся да Ліпая, нешта шчабеча яму на вуха, аж той лагодна, сыта, бы кот, пасміхаецца. Ёй сапраўды добра з Ігрыкам, яна нікога больш не хоча бачыць, чуць, яна на ўсё і на ўсіх забылася... Трэба хутчэй развітвацца, бегчы адсюль... Ліпай два разы ўжо непрыкметна міргаў, прасіў паглядам зрабіць такую паслугу — пакінуць іх удваіх.

Урэшце, ён не супраць уважыць, згодзен пабадзяцца колькі гадзін на вострым скразняку цёмнага няўтульнага калідора. Ды страшна ўстаць з табурэта: ногі нібыта прыраслі да падлогі, як не свае сталі. А яшчэ — ледзь заплюшчыць вочы — пачынае кружыцца галава. І ўсё хутчэй, хутчэй!.. Аж нешта падымаецца, расце ў грудзях, пасля падварочвае да горла.

— Ці ты заснуў?..— зноўку Ліпаёў голас — рэзкі,

нецярплівы.— Бяры чарку, чакаем жа цябе. Вось так. Ну, дай божа, заўтра тожа, а праз дзень — на кожны дзень! — Некалькі вялікіх глыткоў, і Ліпаёва чарка стаіць уверх дном.— Вучыся, Косцік, пакуль ёсць у каго!..

Макрыцкі рашуча бярэцца за стограмоўку, цягне яе да рота. «Нап'юся!.. Няхай... Абы не чапляўся, не паднімаў на смех...» Глыток. Яшчэ адзін.

— Бачыла?.. Гэта той, што не ўмее піць! — задаволена рагоча Ліпай.— А сам цягне як праз саломіну.— Рыцік, цяпер чакаем цябе. Кампот, што ў тваёй шклянцы, дзеткам у яслях заместа кісялю даюць...

— Памажы!

— Косця, нас просяць памагчы. Адмаўляць не маем права — мы рыцары! Дзе ты зноўку схаваў сваю піялу? Ну, чаго ты крывішся, чаго?..

— Рыслінг — харошы сухач,— роўненькі лісіны Рыцін голас,— не раўня якому-небудзь чарнілу.

«Няўжо гэта сапраўды Аксана? Тая самая светлая Аксана, якая чытала мне вершы, шчодра смяялася, верыла выдуманым байкам... Не, здаецца, яе голас быў інакшы — цёплы, мяккі, нейкі свойскі. Датуль, праўда, пакуль не ахламяжыўся ў канцы. «А чаму ты не можаш абмыліцца?..» — раптам спытаў нехта асцярожна і вінавата, нібыта загадзя перапрашваючы, што выпадкова падслухаў.

Чакай, чакай... Сапраўды, колькі разоў прыкмячаў, што тут, у горадзе, часам сустракаюцца дзяўчаты, вельмі падобныя адна да аднае. Як бы і розныя з твару, а пільней прыгледзішся — і ўсё-такі зловіш тую няўлоўную рыску, што ёсцека ў сёстрах. Хіба ён не мог абмыліцца? Танцавалі яны тады пры адной лямпачцы, ды і то цьмянай, як тое воўчае вока. Вярталіся ўначы, знарок трымаючыся далей ад ліхтароў. Колькі ён бачыў яе? Нейкую гадзіну. Нават меней.

І як збавенне — пачуўся свежы тугі ветрык спакой-

най мелодыі. Здалося, аж пасвятлела ў пакоі, лягчэй стала дыхаць. Едкі цыгарэтны дым, што воблакам клубіўся над сталом, бы скразняком пацягнула. На змену прыйшоў знаёмы гаркавата-салодкі пах паленага ліс-ця, перад вачыма паплыла цёмная вузкая вулачка са старымі двухпавярховымі будынкамі па абедзве рукі. Высокія шчыліны вокан у будынках выдавалі асабліва чорнымі, безжыццёвымі. І — упэўнены, чысты пера-стук яе абцасікаў: «Так! Так! Так!.. А скажыце, кіт страшны?..»

Ён рэзка, нават са злосцю, абарваў успаміны.

— Мо запрасіў бы каторы на танец... Ці мо ўжо плюнулі на сваё рыцарства?

Макрыцкі раптоўна адчуў у сабе нейкую высокую лёгкасць, бы штосьці цяжкое звалілася з плячэй. Сядзець далей было немагчыма. Не раздумваючы нават, ён падхапіўся з табурэта, хіснуўся над сталом.

— Дазвольце запрасіць вас, Рыта!..

Мо з хвіліну яна сядзела на месцы, лыпала вялікімі падмалёванымі вачыма, нарэшце павярнулася да Ліпая, які таксама нерухома маўчаў.

— Ігрык, не раўнуй... Калі ласка...

Ліпай толькі крыва, аднымі вуснамі, усміхнуўся.

Пакуль яна няўклюдна вылазіла з-за стала, магнітафон перастаў іграць. Пэўна, скончылася плёнка.

— Гэта ж я забыўся...— нарэшце адважыўся парушыць маўчанне Макрыцкі і ўсміхнуўся вінаватаю поснаю ўсмешкаю, якая так і засталася надалей на лагодным твары.— Мёд жа ў нас яшчэ ёсцека. От дзе ласунак!..

— А я ўжо думаў, што ты зажыліў, зажыліў мядок,— насмешліва бліснуў спадылба вачыма Ліпай.— І маўчыш, як тая мыш...

— Ды... Ды што ты, Ігар! Хіба я шкадую? — стукнуў кулаком сабе ў грудзі Макрыцкі.— Калі ласка, слоік у скрынцы.

Ліпай нехаця падышоў да ложка, выпхнуў нагою скрынку, згорбіўся над ёю, пачаў корпацца ў пакунках, шаргацець папераю.

— Няўжо ён сапраўды натуральны? — няўпэўнена спыталася Рыта. Пыталася нібыта ў Ліпая і разам з тым пільна ўзіралася, вірavала вачыма на Макрыцкага.— Надта ўжо светленькі мне здаўся... Якраз падобны колерам да таго, што на кірмашы прадаюць...

Макрыцкі каўтнуў даўкі камяк, што падкаціў і стаў у горле, горача загаварыў:

— Што вы, Рыта! Гэта ж дзядзькі Петрака мёд... Лякарства, а не мёд. У нас у вёсцы... Ды што я ўпустую балбачу! Маці ж у пісьме піша пра гэты мёд.

— Нам усё роўна чый: Пецечкі, ці Косцечкі, ці яшчэ каго,— не даў дагаварыць, ступіў да стала са слоікам у руцэ Ліпай.— А які ён сапраўды — ці натуральны, ці з мукі, мы як-небудзь і самі разбяромся...— Зняў са слоіка капронавую крышку і, нядоўга думаючы, сунуў усярэдзіну палец. Пасля мо [illegible] мінуту цмокаў на ўвесь пакой, аблізваў палец і крыўляўся як мог.

— Ну Ліпа!.. Умарыў ты мяне! — сакатала ад смеху Рыта.— Хутчэй дай пакаштаваць...

— Не... Спачатку няхай гаспадар пасмакуе.— Ліпай зноўку ўсадзіў палец у слоік, павадзіў ім трохі там і — паднёс да вуснаў Макрыцкага.— Ну, Косцік...

— Ой, Ліпа, памру!..— аж заенчыла ад смеху Рыта.— Ой, Ліпа...

Макрыцкі адхіснуўся ўбок і, задыхаючыся ад нянавісці, з усяе сілы ўляпіў кулаком у Ліпаеву кацінную мызу. Затым аслабелымі нагамі дадыбаў неяк да дзвярэй і, баючыся ўпасці, хутчэй учапіўся за ручку, ірвануў яе да сябе.

# Трыпціх

I

І анічога... Толькі ўскрыленае пагоркамі снежнае поле, толькі крутое брыво маладзіка і побач яго — аднаадненькая, як слязінка, зорка, што з дзяцінства мігціць прад вачамі.

II

Колішняя, з часоў ліхалецця, разбураная партызанская зямлянка. Плыткі, ледзь бачны, рукаў утравелага ўваходу, крыху глыбейшая, закіданая апалым лісцем і дробным галлём яміна-жытло. І проста з сярэдзіны яе, ад аднаго бацькоўскага кораня — тры сястры, тры танклява-высокія, пад аблокі, бярэзіны.

Быццам тры чалавечыя душы.

III

Расхрыстаны пасля начной навальніцы чэрвеньскі ранак. Зямля захлынаецца зелянінай, неба паміж высока ўздыбленых аблокаў — блакітам, сэрца маё — жаўруковым цвірчэннем маленькай дачушкі. Як яна хутка бяжыць расяным лугам, пакідаючы першую сцежку ў жыцці, насустрач маладому ўсмешліваму сонцу!

У шчасця і светлай песні — крылы адны.

## Пугачова песня

Здаецца, сунемся трэцюю гадзіну. За тры крокі наперадзе мяне нячутна шлыгае Барыс. Каторы раз спрабую дагнаць яго, спыніць, каб перадыхнуць якую хвіліну, але дарэмна. Мяккая, сапрэлая ад доўгага зімовага сну зямля як быццам правальваецца пад нагамі, і я падаю. І праўда: паспяшыш — людзей насмяшыш. Тут жа падхопліваюся і іду.

Нечакана, як у сцяну, бухаюся ў Барысаву спіну. Няўжо нарэшце прыйшлі? Стаім на ўзлессі. Далей нібыта шарэе вузкі лапік поля. Амаль пры самым лесе, у купцы невысокага беразняку, нешта невыразна цямнее. Здагадваюся: буданчык, з якога будзем страляць цецерукоў.

— Здаецца, не спазніліся...— у асіплым, нейкім чужым Барысавым голасе зліліся ў адно радасць і няўпэўненасць, трывога.— Хаваймася хутчэй! Зараз пачнецца.

Як на двух, буданчык усё-такі зацесны. Але цяпер, пасля пяцікіламетровага нялёгкага пераходу, сядзіцца ў ім асабліва добра, утульна. Нос, дзе там — усё нутро прыемна казыча густы смаляны пах нядаўна насечаных яловых лапак. Клапатлівая рука Антончыка, добрага Барысавага знаёмага, зрабіла з лапак вось гэтае нізенькае сховішча, тоўста выслала імі халодную, мокрую шчэ зямлю, каб нам цёпла і не мулка чакалася.

Барыс прыпаў да невялічкага, з мужчынскую далоню, акенца і засяроджана глядзіць на ўзлессе, прыслухоўваецца да наваколля.

Нарэшце ён адвальваецца ад акенца, пырскае ліхтарыкам на ручны гадзіннік.

— Нешта сёння яны не спяшаюцца... Палова пятай ужо.

— А дзень будзе сонечны, ясны,— падаю голас і я,— вунь які бярэцца высокі чысты ранак.

— Цецярук такі любіць... А яшчэ як цісне марозік, дык для яго зусім выгода...

Зноўку маўчым, нецярпліва кідаем позірк кожны ў сваё акенца. Поле праз рэдкі перадсвітальны туманец добра такі праглядаецца. На ўсходзе ўжо набрыняў непрыкметна яркаю чырванню небасхіл.

Тонкім чуйным павуціннем трапеча цішыня. Не дыхаю нават. Сяджу, сціснуўшы каленьмі цяжкое халоднае жалеза ружжа, і ўслухоўваюся.

Недзе зусім блізка раптоўна пайшоў да зямлі з тугім металічным дудзеннем лугавы баранчык; як усё роўна любуючыся сабою, дзесьці цягне над вершалінамі соснаў, бяроз, асін, над усялякім іншым драбналессем слонка — «хоррк, хоррк, цвіў! хоррк, хоррк, цвіў!..»; зусім недарэчы, сварліва (ці не на нас?) зачачэкала сарока. Хутка ёй узялася дапамагаць другая. Што тут усчалося! Сапраўдны лямант. Як усё роўна, дурніцы, сапраўды дзе пугача ўспаролі...

* * *

Упершыню мне пашанцавала ўбачыць начнога цара нашага птаства нядаўна, усяго два дні назад. Праўдзівей, не самога, а ягонае чучала, пасаджанае на тоўсты яловы сук у пакоі сучаснай гарадской кватэры. Гаспадар кватэры, мой былы аднакурснік, а зараз паважаны інжынер-будаўнік, сыта, нехаця ўсміхаўся, прыкмеціўшы ў маіх вачах здзіўленне.

— Падабаецца?..

— Ага!..— як у дзяцінстве, міжволі пацвердзіў я на радасць гаспадару.— Цудоўна напхнуты. Сядзіць як жывы.

— Хопіць глядзець, а то яшчэ паляціць! Прысаджвайся...

Мы прыселі ў мяккія глыбокія крэслы ля невялічкага часопіснага століка. На століку стаяла бутэлька малдаўскага каньяку, дзве маленькія чарачкі-напарсткі, некалькі талерак з закуссю.

— Ну, за тое, што ваша ягамосць уважыла нарэшце аднакурсніка!..— падняў чарку Барыс.

— Неяк не выпадала раней... Прыляціш на які дзень, утрасеш справы — вось і ўся камандзіроўка. Як гаворыцца, няма калі нос нават выцерці...

— Ладна, не апраўдвайся хоць. Паехалі!..

— То за сустрэчу!

Пакуль, прыкусваючы, маўчалі, я прабегся вачыма па пакоі. Уздоўж адной сцяны, ад дзвярэй і аж да самага акна, яснелі прыгожыя кніжныя паліцы. Высокія — упіраліся ў столь. За шклом, як на парадзе, выстраіліся дружнымі радамі падпісныя выданні, прыгожа аформленыя, відаць, па-мастацтву, кнігі. Каля сцяны, у верхні куток якой забіўся пугач, стаяла зялёнага колеру канапа, над ёю шчодра галініліся ласіныя рогі. На адным кусце, цьмяна льснячыся абодвума чорнымі строгімі duламі, вісела стрэльба, на другім — месяцаваў паляўнічы рог.

— Дык у цябе тут, браце, сапраўдны музей!.. Пугач, ласіныя рогі, стрэльба...

— Не музей, а пер'е ад музея,— зморшчыўся, не даў мне гаварыць далей Барыс.— Прыехаў бы ты ■ месяц раней... Вось тады сказаў бы!.. Уся сцяна была ўвешана чучаламі. Суседзі, сябры як на экскурсію валілі, хоць ты білеты прадавай. А нядаўна жонка ўз'елася: хопіць, кажа, пыл табе збіраць, смурод усялякі ў кватэры разводзіць,— падміргнуў, як жывому, паў-

метроваму пугачу,— давялося таку-у-ю асаду вытрымаць, каб хоць Філя застаўся на месцы.

— А што з астатнімі экспанатамі? — спытаўся я.

— Пакуль што ў вёску да сваіх старых эвакуіраваў. Як перавозіў, з абласнога музея прыперліся. Надта ж угаворвалі, каб сёе-тое прадаў. У іх, бачыш ты, некаторыя экспанаты аблезлі... Пугача, трохпальцага дзятла дык проста з рук выдзіралі. За бясцэнак, вядома, за некалькі няшчасных чырвонцаў,— хмыкнуў сам адсабе, паківаў галавою.— Прыродалюбы знайшліся! Адкуль ім ведаць, кабінетным мухам, як ён мне даўся, гэты пугач! Колькі халодных начэй недаспаў я каля вогнішча з-за яго...— узяўся за бутэльку, пырснуў па кроплі ў чарачкі-напарсткі.— Захацелі старога вераб'я на мякіне правесці... Калі на тое пайшло, дык я ўжо, дзякуй богу, трэці год як экспанаты свае цэлымі зборамі ў адну навуковую салідную фірму здаю. Так што сапраўдныя расцэнкі ведаю.

Я пазнаваў у Барысу ранейшага Яцковіча, якога ведаў у гады студэнцтва... Чамусьці на памяць усплыло, як ён у канцы курса, пасля ўсіх залікаў і экзаменаў, збіраў у дзяўчат лепшыя канспекты, а потым — узімку, увосень — заганяў іх вячэрнікам і завочнікам. Спрытна ў яго гэта выходзіла. Людзі «гналі манету», як гаварыў тады сам Барыс, ды яшчэ кланяліся нізка.

— Але не ў манеце дзела, не ў манеце! — замахаў рукою, бы пачуў мае думкі, Барыс.— Галоўнае — карысную справу раблю, так сказаць, развіццю навукі спрыяю... Уяві сабе: па маіх экспанатах ужо студэнцтва вучыцца! Во як!..— І нявесела ўздыхнуў: — Эх, каб яшчэ дзе на кулі Маера разжыцца... Вельмі спраўная, ліха на яе, кажуць. А мне тут ліцэнзію на сахатага абяцалі выбіць.

— У майго таварыша ёсць гэткія цацкі,— каб не паказацца «цёмным», прызнаўся я.— Ва ўсякім разе, зімою яшчэ былі...

— Што ты кажаш! — аж падскочыў ад радасці Барыс.— Слухай, Віця, раскалі яго на некалькі штук... Там, у сталіцы, ён яшчэ іх дастане.

— Дарага будзе каштаваць.

— Ну?

— Прыгожае рэдкае чучала.

— Рэдкае не абяцаю,— падняўся з крэсла Барыс,— а над прыгожым... Над прыгожым можна падумаць. Ты што будзеш піць: каву, чай?

— Нясі, мусіць, чай...

Барыс выйшаў на кухню, забразгацеў там посудам. Я таксама ўстаў з крэсла — захацеў паглядзець на пугача зблізку. Злосна тырчэлі на маленькай кашачай галоўцы цара «вушкі» з пер'я, ва ўмела намаляваных вачах тлелі жоўта-чырвоныя драпежніцкія кругі. Нават у чучале пугач застаўся пугачом. Здавалася, выключы святло, і адразу пачуеш яго шлюбную песню — прыгожую і ў той жа час жудасную, аж па спіне прабягуць мурашкі і пахаладзее ў грудзях.

Нарэшце вярнуўся Барыс. Паставіў на столік шклянкі, прыгожую, відаць, з цукрам, бочачку, маленькі чайнік.

— Пэўна, такое зграбнае, як усё роўна жывое, чучала нялёгка зрабіць? — як хто цягнуў мяне за язык спытацца.

— Пі чай, а то выстыне.

Я ўваліўся ў сваё крэсла, кінуў з бочачкі ў шклянку цукру, гаспадар наліў кіпеню.

— З чучалам і за тры гадзіны можна ўправіцца,— пазвоньваючы ў шклянцы лыжачкай, нарэшце азваўся Барыс.— Цяжэй у чучала птушку ўдыхнуць. Калі шчыра, дык я сам не раблю іх, не люблю ў вантробах, няхай сабе й птушыных, пэцкацца. Аднаго старога глухаватага пня, мастака ў гэтым дзеле, выкапаў. Ён за які трояк ці за пляшку — распнецца, усю работу кіне, а чучала выпхне. Сто год будзе стаяць, не асы-

плецца. Скуру, каб пер'е не пускала, нейкім зеллем з сярэдзіны мажа. Якім — не гаворыць. Чучалятніку — перадам, кажа, а табе — не, бо не цікавішся па-сапраўднаму. Нічога, як-небудзь вырву... Ты на выхадныя, канечне, застаешся...

— Магу й застацца, калі яшчэ не абрыднуў табе...

— То махнем на цецерукоў! Антончык пісаў, што новае такавішча абнюхаў, абяцае нават буданчык зляпіць. Заадно і чучала табе зварганім.

* * * Весела, звонка зацурчэў жаўрук. Спачатку здалося — недзе далёка-далёка. Потым усё бліжэй, бліжэй, і здаецца, ён ужо трымціць проста над нашым буданчыкам. Спявае — душу тваю, усе яе струны перабірае. І раптам — рэзкі ўсплёск, таропкае тугое лопанне крылаў.

— Усё ў парадку!..— удыхае ў мяне хваляванне Барыс.— З'явіўся пан такавік.

— Чуф-фыжж!..— пасля доўгай трапяткой паўзы, упэўніўшыся, што небяспекі побач няма, кінуў баявы заклік такавік.— Чуф-фыжж!

Дружна лопаюць крылы: на такавішча спяшаецца шаноўнае рыцарства. Але такавік не чакае сапернікаў, ён ужо заходзіцца ў новай дзіўнай песні, мелодыя якой нагадвае трымценне маладога вясновага раўчука.

— У-у-урк, у-урррру-у-урк, у-у-урк!..

Я нат не заўважыў, як над таямнічаю смугою далёкага, з таго боку поля, яловага лесу весела пакацілася сонца. Крамяна-ружовае, чыстае, як дзіця са сну. Я бачыў толькі цецерукоў. Іх чорныя, з цёмна-сінім адлівам модныя каптанікі, белую раскошу распушчаных веераў-хвастоў, снег манжэтаў на крылах, гарачую чырвань броваў.

Што толькі ні выраблююць гарэзы!

Лёгка, высока падскокваюць, стараючыся перачуфыкаць адзін аднаго, раптам прыпадаюць да зямлі і ўсё нешта балбочуць, балбочуць, бы замову якую. Потым, як ашалелыя, знянацку кідаюцца ў бойку. Ды ў якую — аж пер'е ляціць! А недалёка ад такавішча паважна пахаджваюць шэрыя, ледзь прыкметныя цяцеркі. Калі-нікалі кідаюць сваё курынае «ко-ко-ко» і зусім не глядзяць на сваіх рыцараў.

Забыўшыся пра стрэльбу, прагна лаўлю і запамінаю калены цецеруковага танца-бойкі. І — зусім нечакана — штуршок у плячо. Рэзка, як усё роўна спалохана, адрываюся ад акенца. Перад самым носам націскае ўяўны спускавы кручок тоўсты палец Барыса: «Трэба страляць!»

Моўчкі цягну з-пад сябе стрэльбу, устаўляю набоі. Потым асцярожна пхну ў акенца налітыя свінцовую цяжкасцю дубальтовыя рулі, не дыхаючы, прыпадаю шчакою да халоднага слізкага прыклада. І — нічога не бачу. Ні калючай, як смецце ў воку, мушкі, ні такіх блізкіх і такіх жаданых цецерукоў, ні хмельнай радасці красавіцкай раніцы... «Калі ж будзе каманда?..»

Усё праглынула чорная бездань руляў.

— Эх ты, стралок! Сядзець у такавішчы, у самым цэнтры, і не пацэліць у цецерука! — Барысаў твар забрала нейкай нездаровай чырванню, аж відаць яе ў будачцы, чорныя павукі ягоных вачэй пільна сочаць за мною.— А яшчэ хваліўся — з лёту б'ю!..

Я не апраўдваюся, мне не хочацца толькі, каб ён папытаўся, чаму паспяшыў, не дачакаўся, як дамаўляліся загадзя, каманды...

— Ладна, я прабягу ўзлессем, а ты вазьмі крыху глыбей у лес,— глухім голасам кажа ён мне,— мо яшчэ пашанцуе, паднімем што на дурніцу.

У прасторным лесе за гаспадыню вясна. Яна прый-

шла даўно, хоць увесь сакавік, першы тыдзень красавіка хадзілі калючыя ўсходнія вятры, кідалі скупыя жмені дробных снежных круп. Куды ні зірнеш — усюды выпырснула трава. Кволая яшчэ, нясмелая. Затое які багаты россып кветак! Быццам хто знарок крапіў па шэрай аснове прэлага лісця чыстымі фарбамі, найбольш — белаю ветраніцы, менш — залацiста-жоўтаю чысцяку і лотаці, зусім рэдка — ружоваю медуніцы, цёмна-фіялетаваю сон-травы. І востры, аж дзярэ ў грудзях, пах нядаўна расталага снегу!

Стрэл!

Праз колькі хвілін сустракаемся. Здалёк пытаюся, надаўшы голасу вясёлую бесклапотную звонкасць:

— Падняў што?

— А-а!.. Яшчэ адзін экспанат...— крывіцца, неахвотна адказвае Барыс.— Ну то што, шпарым да Антончыка! Перачакаем да вечара ў яго. А там падскочым, паспрабуем яшчэ раз засесці...

* * * Нечакана густы непралазны сасоннік расступіўся, і мы апынуліся ў вёсцы. На маладой і святочнай ад шчодрага красавіцкага сонца, шырокай чыстай вуліцы-брукаванцы. Мінулі колькі хат-блізнят, каля высокага калодзежнага жураўля, што скокнуў з вуліцы ў чыйсьці гародчык, убачылі невялічкага, з дробным цыганаватым тварыкам дзядка.

— Глядзі ты! На лаўца і звер бяжыць! — здзіўлена выгукнуў Яцковіч.— Здароў быў, Антончык!..

— Добрага здароўя, Уладзіміравіч,— радасна, з настроем адгукнуўся чалавек.

— Пустымі вёдрамі сустракаеш?

— Што вы, поўнымі! — дзядок нахіліўся над адным вядром, плюхнуў з яго сабе пад ногі вады.— У нас, даражэнькія, заўжды з поўнымі сустракаюць.

Нарэшце спыніліся, паздароўкаліся за руку. Антончык, па-маладому жмурачыся ад сонца, быстра пазіраў то на мяне, то на Барыса каштанавымі вачыма, горача, па-хлапечы расказваў:

— Я да іх і з чырвончыкам, я да іх і з белаю... Дзе там! Як усё роўна блінцы пякуць з цэменту таго. Ні жменькі не далі. Яшчэ стогнуць: няма чым кароўнік ляпіць. Свае хлопцы, называецца... А баба як толькі спаўзе раніцаю з ложка, так і чубіць, так і насядае: бі на падворку калодзеж! Не буду, сварыцца, больш да Кастынавага хадзіць, рукі на нет павыцягвала. А каб ты язык выцягнула, каб не магла мянціць ім! І не ходзіць, сам во, бачыце, цягаю. Рукі павыцягвала-а!..— перакрыўляючы жонку, смешна, з нейкім тонкім падвывам праспяваў Антончык.— Я ж ведаю: вайна ў іх з Кастыніхаю ўсчалася, ніяк сваім бабскім розумам не дапнуць, дзе чыя курыца ў пазалеташні год неслася!.. Так што вы, Уладзіміравіч, ад жывой смерці, можна сказаць, мяне ўратавалі. Цэменту таго, што падкінулі вашыя хлопцы, не толькі на цымбравіны, на шыкоўную сцежку да студні хопіць.

— Ну-ну... Што гэта ты адразу завёўся? — паляпаў, як роўню, па плячы Антончыка мой былы аднакурснік.— Будзеш дзякаваць, як вады нап'ешся. Не забудзься адно і нам зачарпнуць у спякотны дзень...

— Не забуду, Уладзіміравіч!.. Тако-о-ой вадзіцы зачарпну! — стукае сабе ў грудзі сухім маленькім кулачком Антончык і нечакана пытаецца: — Як, балбочуць мае цецеручкі?

— Балбочуць, што ім яшчэ рабіць?.. Але ж і будантчык ты зляпіў? — незадаволена крывіцца Барыс.— Нізкі, цесны. Не павярнуцца. Паленаваўся, відаць.

— Каб жа я ведаў, што вы ўдвох прыедзеце! — разводзіць рукамі стары і спахопліваецца, быццам хоча

скасаваць сваю віну.— То пайшлі ў хату, паснедаем. Старой, дзякаваць богу, нямашака, у мястэчка да чалавека парэсятка глядзець паперлася.

...Пад канец бяседы, калі ўзялі па добрай чарцы, пад'елі, Барыс па-змоўніцку падміргнуў мне, пазяхаючы, абыякава кінуў:

— Чучалятнік [redacted] цябе, Антончык, ведама, някепскі, але... але не рэнтабельны.

— Што, што? — не пачуў ці, здаецца, не зразумеў, таму й перапытаў Антончык. Цёмны, сухенькі, як усё роўна вытачаны з дрэва ягоны тварык застыў, пастражэў яшчэ больш ад чакання.

— Кажу, каб ты з адных чучалаў жыў, то спруцянеў бы з голаду! — нахіліўся і крыкнуў яму проста ў вуха Яцковіч.— Пакуль ты адно — нехта пяць выпхне!..

— Не мані...— заблішчалі ад крыўды вочы ў Антончыка, і ён, абураны, адхіснуўся ад стала.— Не мані!

— А я не маню! Ну, за колькі ты чучала робіш?

Разгублены Антончык ніякавата пацiснуў плячыма, не знайшоў нат што адказаць.

— За дзве гадзіны можаш? — не даваў чалавеку апамятацца, пеўнем насядаў Барыс.— Белай пляшку стаўлю! Але ж дудкі ты выпхнеш.

— Птушка ёсць? — тонкім, дрыготкім, сцятым ад крыўды голасам спытаў Антончык, і я заўважыў, як дробна закалаціліся на стале яго худыя жоўтыя далоні [redacted] тонкімі кручкаватымі пальцамі.

— Слухай, Барыс, перастань,— сказаў я,— кулі Маера я табе і без чучала прывязу...

Але ён нават не паглядзеў на мяне.

— Птушка ёсць! — давячыся смехам, Яцковіч забухаў да свайго рукзака.— Шукай, як ты кажаш, струмэнты свае і пачынай.— У момант крутнуўся ён назад

і кінуў на стол, засланы прыгожаю, у нейкія чырвоныя кветкі, цыратаю, каля міскі са студзенем невялічкую шэрую птушку....

Колькі хвілін у хаце панавала маўчанне. Спяшаючыся, суха цікалі на сцяне старэнькія ходзікі, тонка звінела, білася ў шыбу муха. Нечакана Антончык хуценька падхапіўся з лавы, няведама чаго замітусіўся па кухні. Так і не знайшоў, аб што зачапіць рукі, падскочыў назад да стала. Асцярожна, быццам баючыся, узяў птушку, доўга глядзеў на яе, трымаючы перад сабою на далонях.

— Што ты зрабіў? — І паўтарыў яшчэ цішэй: — Што ты зрабіў, Барыс Уладзіміравіч?

Яцковіч пацісвуў плячыма, неяк жаласна паглядзеў на мяне, нібыта прасіў падказкі, і знарок груба адрэзаў:

— Што зрабіў, што зрабіў!.. Ты ж папрасіў птушку... Мо ўжо адумаўся, збаяўся?

— Дык гэта — жаўронак! — затрымцела несхаванае шкадаванне ў голасе Антончыка.— Вясна ж на дварэ...

— Жаўранак...— злосна працадзіў праз зубы Яцковіч.— А чым ён лепшы за салаўя, што мінулым летам ты выпхнуў? Каторы лепшы спявак?

Антончыка аж страсянула ўсяго. Ён рэзка павярнуўся да Барыса, выдыхнуў ціха:

— Вон з мае хаты!..

Гэта было зусім нечакана. І для мяне, і для самога Антончыка, які ўраз неяк паменшаў, і асабліва для Яцковіча. Ягоны твар спачатку скрывіла здзіўленнем, потым — злосцю.

— Ого!..— нарэшце ачомаўся былы мой аднакурснік.— А вы, таварыш Антончык, аказваецца, з характарам...— паспрабаваў усміхнуцца, ды нічога не выйшла. Твар, вочы яшчэ мацней дыхнулі злосцю.— Калі вам мала пляшкі, накідваю яшчэ два рублі!

— Вон з мае хаты! — стомлена паўтарыў Антончык і дадаў: — Песня ў цябе, як у таго пугача,— усё адна і тая...

— Ты... Вы яшчэ аб гэтым пашкадуеце,— глуха, з пагрозаю, падымаючыся з лавы, працадзіў Яцковіч.— Вырваў цэмент і думаеш нічога больш не спатрэбіцца?.. Паглядзім, як ты далей...

Нарэшце знаходжу клямку. Слізкую, непаслухмяную. Працягла рыпяць, зачыняючыся, дзверы, глушаць апошнія Яцковічавы словы.

# Дзень няўдачы

Бакуновіч ледзьве цадзіў з кубка нясмачны, кіслы кампот і нядобра, спадылба, глядзеў на падначаленых, якія дружна налягалі на астылы абед. «Ім жа ўсё роўна,— думаў ён.— Як адстраляліся, так і добра. А тое, што другі раз запар апошняе месца ў роце занялі...» Тут яму на памяць прыйшлі словы, што пачуў яшчэ там, на палігоне, ад радавога Шаметаўца: «А вы, таварыш малодшы сяржант, не бярыце надта да галавы. Не могуць жа ўсе хадзіць у пераможцах... Сёння мы апошнія, заўтра будуць другія ў хвасце...»

«Не бярыце да галавы...» — перакрывіў у думках Шаметаўца і працяў яго позіркам. Шаметавец старанна выскрабаў з міскі смачную грачаную кашу. «Вядома, табе што першае месца, што апошняе — вялікай розніцы няма. Абы дзень да вечара...»

Дапіўшы адным глытком кампот, Бакуновіч падхапіўся з-за стала, крутнуўся да акна.

На вуліцы вось ужо трэція суткі не аціхала дажджына. Але сёння неба прыкметна падвышала, пасвятлела. Узняўся нават ветрык. Напэўна, ён яшчэ не набраў сілы, бо рэдкія шаты высокіх соснаў, што з усіх бакоў абступілі сталовую, не гайдаліся, не ківалі вяршалінамі.

Успаміналася сённяшняя стральба. Шэрая, панурая зямля палігона, змрочная сцяна нізенькага хвойніку за сівым сітавіннем нуднага дажджу. «І сапраўды: дзе яны будуць, тыя вынікі, у гэткім смаркоцці! Але ж усе аддзяленні, цэлая рота страляла!.. І ніхто не жаліўся на непагадзь».

— Стралялі! — нечакана ўголас запярэчыў сабе.— А вось мы не змаглі. І вінаваты ў тым — малодшы сяржант Бакуновіч. Бо не на сваім месцы.

І — тут жа абмяк. Падумаў: усё роўна давядзецца «гарэць» спачатку на ўзводным, а пасля і на ротным камсамольскіх сходах. Але цяпер гэта пакуль што менш за ўсё хвалявала. Карцела чым хутчэй дакапацца: чаму так вось выходзіць. Вызваліцца, нарэшце, ад праклятага ўнутранага напружання. Здаецца ж, вучыў як толькі мог, на практычных занятках — усё нармальна, страляюць добра, а вось на кантрольных стрэльбах... Каторы ўжо раз пачаў успамінаць сваіх падначаленых. Чарняўскі, Цумараў, Шаметавец... «А вы, таварыш малодшы сяржант, не бярыце да галавы...» — і адчуў, як у грудзях закіпела крыўда, злосць.

«Няхай бы лепш адстраляўся на двойку, абы маўчаў, не гаварыў гэтак».

Тым часам нібыта крыху распагодзілася, нават перастала дажджыць. Непадалёку ад сталовай, пад хвоямі, ужо стаялі салдаты. Некаторыя з іх кідалі галубам і вераб'ям крошкі хлеба.

«А во, ледзь не забыўся!..— і Бакуновіч адчуў, як пацяплела ў яго ў грудзях.— Гэта ж трэба будзе пакарміць Мушку... Як яна там?»

У вайсковым гарадку ўсе ведалі гэтую маладую прыгожую сучку, якая жыла пры старым каравульным памяшканні і павінна была днямі ашчаніцца. Салдаты любілі яе за вясёлы гуллівы нораў, як маглі і чым маглі кармілі яе.

Але дні тры назад сучка нечакана кудысьці прапала. Некаторыя салдаты меркавалі, што яна збегла шчаніцца. Думаў гэтак і Бакуновіч. Ды ўчора ўвечары, калі праходзіў каля старой каравулкі, ён зазірнуў у будку і ўбачыў там сучку, падбітую, пэўна, машынаю. Па кацялку, поўным старых раскіслых аб'едкаў, здагадаў-

ся: ён першы, хто заглянуў сюды пасля таго, як сучка прапала.

— Таварыш малодшы сяржант! Таварыш малодшы...— як з-за якой сцяны да яго прабіўся хрыплы голас Цумарава.— Аддзяленне паабедала.

Ён не адказаў Цумараву, як і не чуў таго. Неахвотна павярнуўся ад акна, падышоў да стала, на якім, акрамя пустой алюмініевай хлебніцы ды сальніцы, нічога ўжо не было.

— Цумараў! Застаешся за мяне,— і здзівіўся свайму голасу, нейкаму вяламу, нішчымнаму. Таму выйшаў не загад, а хутчэй за ўсё просьба.

— А вы хіба, таварыш малодшы сяржант, да ўзводнага?

«І праўда... Ён жа загадаў мне пасля абеду быць у яго. Здаецца, пачынаецца...»

На вочы зноўку, як назнарок, папаўся Шаметавец. Адваліўшыся ад стала, ён цяжка варочаў сківіцамі, дажоўваў яду.

«Ніяк не нажарэцца, а гімнасцёрка вунь ледзь не да самага пупа расшпілена. Хопіць няньчыцца. Трэба прывучаць да вайсковага парадку...»

— Шаметавец! — зазвінела ў голасе Бакуновіча жалезная нотка загаду.

— Я, таварыш малодшы сяржант! — у момант падхапіўся той і стаў навыцяжку.

— Прывядзі сябе да формы!

— Ёсць! — знарок мацней чым трэба выгукнуў Шаметавец, і на ягоным твары загуляла непрытоеная ўсмешачка: «Абы чалавеку камандаваць».

«Пасмейся, пасмейся...— падумаў Бакуновіч.— Смяецца той, хто смяецца апошні,— і адразу цвёрда вырашыў: — Уляплю нарад, няхай не думае, што сёння, калі добра адстраляўся, на яго можна маліцца». Цярпліва дачакаўшыся, пакуль Шаметавец зашпіліў верхнія гузікі, цвёрда сказаў:

— Каб болей гэта не паўтаралася — аб'яўляю пазачарговы нарад!

Усмешачку з твару ў Шаметаўца — як рукою зняло. Рот разявіўся, ніжняя тоўстая губа задрыжала.

З мінуту панавала напятае маўчанне.

— А цяпер — бягом у пасудамыйку,— тым жа цвёрдым камандзірскім голасам загадаў Шаметаўцу Бакуновіч.— Выберы, што ёсць лепшае там з аб'едкаў, і пакармі Мушку. Яна ляжыць у сваёй будзе. Пытанні ёсць?

Шаметавец маўчаў. Пастаяў крыху, быццам вагаўся —ісці ці не йсці, кінуў звераваты позірк на Бакуновіча і, унурыўшыся, пасунуўся да пасудамыйкі.

* * *

...— Гавораць табе, адчыняй! Разчагокаўся там...— і са злосцю, быццам помсцячы Бакуновічу, Шаметавец другі раз бухнуў нагою ў зачыненыя на зашчапку з сярэдзіны дзверы пасудамыйкі.— Яшчэ тлумачыць кожнаму буду!..

— Ты што там, ачмурэў! — закрычала некалькі чалавек з пасудамыйкі, і дзверы адчыніліся насцеж.

Шаметавец ад нечаканасці аж адступіўся назад. Перад ім у пройме дзвярэй стаяў незнаёмы шыракаплечы дзяцюк з жоўтым ад густога рабаціння тварам.

— Ну?.. Чаго дзверы ломіш?

«З такім лепш не звязвацца...» — у момант пакінула Шаметаўца нядаўняя рашучасць.

— Я... Я... Мне...

— Ці ты па-чалавечы развучыўся гаварыць? — басавітым тоўстым голасам гаварыў далей рабаціністы.— Дык я быстра навучыць магу...

— Я па аб'едкі прыйшоў,— нарэшце знайшоў што адказаць Шаметавец. І паціху, зусім лагодна дадаў: — Сучку, Мушку, трэба пакарміць.

— Значыцца, па аб'едкі... Цудоўна! Такое дабро ў нас водзіцца,— прапішчала, выслізнуўшы з-за дзецюковай спіны, вастраносае, падобнае нечым да камара, благое хлапчаня ў паношанай салдацкай форме.— Якраз трэба несці вёдры ў гаспадарчы ўзвод, а добраахвотнікаў няма. Шанцуе некаму! Саладзэ, а Саладзэ!..

— Я, таварыш начальнік! — пачуўся з пасудамыйкі голас.

— Давай сюды, дарагі, вёдры з аб'едкамі.

Праз імгненне каля ног у Шаметаўца стаялі два поўныя вядры.

— Калі ласка...— падышоў Камарык бліжэй, і Шаметавец разгледзеў на ягоных пагонах зашмальцаваныя яфрэйтарскія лычкі.— Сучку пакорміце... А заадно і нам добрую справу зробіце. Дарогу, спадзяюся, да гаспадарчага ўзвода ведаеце?

Шаметавец згодна кіўнуў галавою і хацеў растлумачыць, што зусім не мае часу, што трэба хутчэй вярнуцца ва ўзвод. Дый сучцы трэба аб'едкаў няшмога, з кацялок які. Але Камарык па-сяброўску паклаў руку на плячо, не даў нават вымавіць і аднаго слова.

— Нельга... Нельга перабіваць старэйшых па званню, таварыш салдат. Непрыгожа. Абавязкова яшчэ раз пачытайце вайсковы статут — убачыце, што лягчэй служыць будзе. А цяпер — шчаслівай дарогі. Вёдры абавязкова прынясіце назад. Калі ласка, не забудзьцеся...

— І не ўздумай адмаўляцца...— з пагрозаю працадзіў праз зубы рабацініст і выразна кіўнуў галавою на пасудамыйку.

«Толькі звяжыся з імі...» Як не сваімі рукамі Шаметавец узяў цяжкія вёдры, пастаяў крыху, быццам хацеў штосьці сказаць, ды забыўся, і, вяла перастаўляючы ногі, паплёўся да выхаду.

Праз секунду за яго спіною грымнуў рогат.

«Жарабцы неаб'езджаныя! Кныры! — закіпеў ад

злосці Шаметавец.— Я яшчэ знайду на вас управу!.. Вы ў мяне яшчэ паскачаце!»

«Нічога ты ім не зробіш,— раптам утачылася другая думка,— рукі кароткія...»

«Зраблю! — рашуча заглушыў ён у сабе няпрошаную думку.— Яшчэ як зраблю!..— і нават паспрабаваў уявіць, як падловіць аднойчы дзе-небудзь тое камарынае благоцце.— Бамбізы ж побач ужо не будзе».

І зноў усё перакрэсліла тая цвярозая думка: «Забываешся, дарагі хлопча... Гэта табе армія, а не цывільная раскоша».

Моцна бухнулі за плячамі дзверы сталовай. Імкліва зляцеў са сходаў, шпарка, аж подбегам, кінуўся ў той бок, дзе расло найбольш ядлаўцу. «Буду яшчэ слухаць абы-каго!»

Да ядлаўцу ўжо было недалёка — крокаў трыццаць, як данёсся пісклявы насмешлівы голас Камара:

— Э-э!.. Ты заблудзіўся! Бяры лявей, да стадыёна. Гаспадарчы ўзвод за ім!..

— Ану цябе!..— вылаяўся ўголас Шаметавец і пайшоў яшчэ шпарчэй.

І тут пачуўся яшчэ адзін голас — цвёрды, знаёмы.

— Таварыш салдат!.. Таварыш салдат, вы што, аглухлі?!

«Хто? — прыкінуў Шаметавец.— Няўжо сам начальнік медсанбата?..»

— Я вам загадваю вярнуцца назад!

«Ён!.. Гэты ўпячэ, калі ўбачыць, што аб'едкі выверну тут»,— ні на імгненне не прыпыняючыся, Шаметавец крута заламаў да стадыёна.

Болей ніхто не аклікаў, і ён неўзабаве прыцішыў хаду. З падвышанага, але ўсё яшчэ не распагоджанага неба зноў зацерушыў дожджык. Спачатку паціху, быццам нерашуча, пасля спарней, гусцей...

* * * Нарэшце разлезлы гліністы стадыён застаўся ззаду. Шаметавец дацягнуў да тоўстай бязверхай крывулісасны і, як стаяў, не згінаючыся, пусціў з рук вёдры. Адно стала добра: якраз на дно. Другое ж завалілася на бок. Аб'едкі з яго, як назнарок, плюхнулі Шаметаўцу на бот. Ён тут жа ўскіпеў, замахнуўся нагою над вядром, што ўстаяла, але ў апошні момант стрымаўся — зразумеў: робіць глупства. Калі ўжо і пазбаўляцца ад гэтага дабра, дык дзе-небудзь далей ад сцежкі і стадыёна. Але ж тое, што выплюхнулася, назад збіраць не будзеш. Часта азіраючыся вакол сябе, Шаметавец старанна ўтаптаў гушчу аб'едкаў у зямлю, прыкідаў гразёю, а наверх нассоўваў, абціраючы заадно бот, апалай мокрай ігліцы. Потым адліў з поўнага вядра ў парожняе і толькі тады супакоіўся, прыціснуўся спінаю да шурпатай сасновай кары.

Дождж даставаў і тут. Але Шаметавец не кінуўся шукаць больш зручнага месца — усё роўна гімнасцёрка на плячах непрыемна ліпла да цела.

Востра заныла ў грудзях — захацелася курыць. Памкнуўся дастаць з кішэні цыгарэты, аднак не дастаў, бо намацаў мокрую разлезлую пачку. Упершыню па-сапраўднаму пашкадаваў, што не прыдбаў амаль за паўгода службы партсігар.

Каб неяк збіць жаданне курыць, пачаў прыпамінаць сённяшнія стрэльбы: вецер з рэдкім калючым дажджом у твар, ледзь прыкметныя зялёныя мішэні, што падаюць хутчэй, чым зловіш іх на мушку. А тут яшчэ гэтае цыбатае стварэнне — Бакуновіч. За калектыў, за аддзяленне, бачыце, рупіцца! Падскочыць, высака падкідваючы ў каленях свае хадулі, звісне над самым вухам і ўсё нешта балбоча, вучыць... Знайшоў час, калі вучыць! Але што ён мае да яго, Шаметаўца? За расшпілены гузік — нарад! Пасля знарок выпер на дождж. Іншым разам з радасцю пайшоў бы, нават і ў

непагадзь. Мо лепш, чым слухаць якую нудоту або шпацыраваць па пляцы — вучыцца хадзіць. Але хіба што іншым разам, толькі не цяпер, калі патыхае абразаю. Добрая падзяка за тое, што адстраляўся на чацвёрку. Адзін з аддзялення. Астатнія на тройку — і то не здолелі. Дык хіба ён, Шаметавец, вінаваты? Ну праўда? На яго розум — адстраляўся нармальна — і сядзі сабе спакойна, чакай, пакуль другія гэта зробяць. І не паказвай, не рабі выгляду, што быццам нейчы трапны стрэл табе вялікая радасць. Большая нават за тую, што апаноўвае, калі слухаеш загад аб звычайным, усяго на некалькі гадзін, звальненні ў горад.

Не, усё-такі недарэмна хвалюецца так за аддзяленне Бакуновіч, сам за кожнага гатовы легчы ў гразь і адстраляцца. Усе ведаюць: чакае малодшы сяржант з дня на дзень дзесяцісутачнага водпуску, сніць сябе ў родных мясцінах, за гасцінным сталом бацькоў. А тут нечакана калдобіна. Як гаворыцца, на чыстай дарозе. Праскочыць яе — можа, і праскочыш, але ж і растрэсці тое, да чаго паўтара года імкнуўся, таксама можна. Тады ўжо ніякія новыя стрэльбы не дапамогуць.

Думаў гэтак і разам з тым адчуваў: не клеіцца такая характарыстыка да Бакуновіча. Няўдачнік ён нейкі, заморак. Таварышы па вучэбцы вунь даўно ўжо ў старэйшых сяржантах ходзяць, а ён, глядзі, з такім аддзяленнем зноў да радавога скоціцца.

Раптам, невядома чаму, прыгадаліся нядаўнія трохдзённыя вучэнні, сапраўднае вайсковае хрышчэнне маладых салдат.

Паднялі іх па трывозе ў дзве гадзіны ночы. Пакуль ён, Шаметавец, нацягваў на сябе абмундзіраванне, у казарме мала хто застаўся. Акуратна, няспешна, як ён прывык, абуцца — не было калі. Абы-як накруціў на нагу анучу, сціснуў зубы — неяк усцягнуў адзін бот. Мо з мінуту тузаўся з другім, што нібыта ўсох за ноч на цэлых тры памеры. Не вытрымаў — сунуў усярэдзі-

ну босую нагу. Толькі падняўся бегчы, як невядома адкуль падскочыў Бакуновіч. «Разувайся!..» Плюхнуў назад на табурэтку. Разуўся. Бакуновіч схапіў анучу, лоўка абкруціў яму, Шаметаўцу, адну нагу, пасля другою анучаю — другую... Потым спытаў заклапочана: «Не цісне?»

Пачаліся тыя начныя вучэнні нялёгкім дзесяцікіламетровым маршам...

Нарэшце дождж як след даняў Шаметаўца. Ён хапіўся за вёдры, хоць яшчэ нават не ўцяміў, што будзе рабіць далей, ды раптам убачыў: накрыўшыся з галавою цёмна-зялёнаю плашч-накідкаю, нехта спяшаецца насустрач. Хуценька схаваў вёдры за сасну: надумаў перачакаць, пакуль невядомы пройдзе.

Праз мінуту-другую той быў побач. Нечакана спыніўся. Адкінуў з ілба нізка насунуты мокры башлык, і Шаметавец убачыў чырвоны прышчаваты твар радавога Кісяля з першага ўзвода.

— Прыемнага адпачынку!

— Дзякуй...— як мага бесклапотней адказаў Шаметавец.— Закурыць знойдзецца?

— Вядома, знойдзецца.

Кісель няспешна падышоў да хваіны, зняў з плячэй плашч-накідку, страсянуў яе і зноўку накінуў на галаву.

— Давай залазь... Тут, браце, цэламу аддзяленню месца хопіць.

Шаметавец шуснуў пад плашч-накідку, і яны прыселі, прыціснуліся спінамі да хваіны. Закурылі. Спачатку глыбока зацягваліся, маўчалі, слухалі ціхі шэпт дажджу.

Шаметаўцу было неяк асабліва добра, утульна. Прыемнае цяпло разлівалася па целе, здавалася нават, лёгка кружыцца галава. Ён стараўся не думаць пра Бакуновіча, не ўспамінаць сцэну каля пасудамыйкі, дзе ён, вядома, збаяўся... Зваліўся б ужо хутчэй гэ-

ты дзень няўдачы! Каб не маўчаць, першы загаварыў да Кісяля:

— А ты, пэўна, пасля абеду прагульваешся?

Кісель доўга не адказваў. Зацягваўся цыгарэтай, лянiва сплёўваў на зямлю, нібыта не ўчуў пытання. Потым, калі Шаметавец сабраўся сам гаварыць, абы-якава кінуў:

— Па старшыну хадзіў...

Шаметавец з мінуту памаўчаў, чакаючы працягу, упэўніўся, што яго не будзе, і сказаў:

— Чуў, нашае аддзяленне зноўку як хвост у роце...— пасля нядоўгай паўзы дадаў: — Найгорш з усіх аддзяленяў адстраляліся сёння. Сам ротны казаў...

— Шчаслiўчыкі!..— уздыхнуў нібыта са шкадаваннем Кісель.— За ўсю роту малако выпілі.

— Якое малако? — не зразумеў Шаметавец.

— Як якое? — на Кісялёвым твары зляпілася працiўная з'едлівая ўсмешка.— А тое, што на мішэнях было! Ну і падабралася ж аддзяленне...

— Хто піў, а хто — не,— адрэзаў пакрыўджаны Шаметавец.— Я добра адстраляўся. На чацвёрку.

— Ого! Дык ты тады белая варона.

— Я для нашага Бакуновіча з першых дзён службы белая варона,— з сумам у голасе абазваўся Шаметавец. Нечакана са здзіўленнем ён адчуў: ад крыўды, што нядаўна агнём паліла ўсяго, нат не дымяць галавешкі. Дождж заглушыў, ці што? «А марш той я адтарабаніў без мазалёў... Затое сяржанты седзьма селі на Бакуна: вось гэта камандзір! Сваіх салдат абувае!.. Эх, Бакуновіч, Бакуновіч!..»

Кісель некалькі разоў запар цыркнуў слінаю.

— А ты куды прэшся ў гэткую непагадзь?

— Аб'едкі нясу,— неахвотна адказаў Шаметавец.

— Вось яно што! — са смехам сказаў Кісель.— Няйнакш, цябе сам малодшы сяржант узнагародзіў?

Шаметавец прамаўчаў. Ён ужо шкадаваў, што па-

чаў гаворку пра гэтыя праклятыя стрэльбы. Перад вачамі паўстаў Бакуновічаў твар, калі ротны аб'явіў вынікі. Разгублены, нават няшчасны. І тут жа ўспомніў сваю халодную абыякавасць да вынікаў стрэльбаў. Наадварот, дзесьці ў глыбіні душы нават радаваўся: выдзеліўся! Сам ротны адзначыў. Нічога не скажаш: сапраўды выдзеліўся, аж праціўна цяпер самому.

— Арыгінальна ён цябе ўзнагародзіў! — і, адкашляўшыся ад смеху, Кісель бадзёра гаварыў Шаметаўцу далей.— Ладна, не крывіся... Плюй на ўсё, беражы здароўе. Збегай, выверні дзе пад сасну сваё дабро — і канцы ў ваду. Відаць, добра ўеўся вам у косці Бакун, калі згаварыліся адпомсціць яму...

«Што ён пляце!» — аж задыхнуўся ў абурэнні Шаметавец.

— Ніхто не згаворваўся! Не мянці языком.

— Ты мне белаю варонаю вочы не сляпі. Сам быў ёю,— злосна бліснуў вачыма Кісель.— І правільна зрабілі, што далі па галаве. Слізняк ён, ваш Бакуновіч. Сліз-няк. Усім дагадзіць хоча.

Нейкую мінуту маўчалі. Нудна шаргацеў дождж, быццам выгаворваў каму. Нарэшце Кісель абазваўся:

— Што маўчыш? Хіба няпраўда? Ды на тваім твары ўсё было напісана.

Шаметавец рэзка выпраставўся. Плашч-накідка зляцела з яго плячэй. Не ўтрымалася яна і на Кісялю, які ад нечаканасці аж сціснуўся ўвесь, па самыя вушы ўвабраў у плечы круглую, як качан капусты, галаву.

— Т-ты, т-ты што, не ўмееш уставаць?! — і дадаў прымірэнча.— Пабеглі ў казарму. Вунь які дождж сячэ.

Шаметавец не адказаў. Змераў позіркам згорбленага ў крук Кісяля, як заўсёды, памарудзіў крыху, узяў вёдры — і рашуча падаўся да старой каравулкі.

# Перадзім'ем

Паправіўшы на галаве тоўстую сінюю хустку, што ледзь не з'ехала на патыліцу, маці стомлена прысела на табурэтку побач стала. Маленькія, сухія, маршчыністыя рукі сашчапіла на каленях, глядзела, як сын сёрбае капусту.

— А во!..— нечакана спахапілася.— Гаварыла тут абы-што табе, пераказвала ўсялякія плёткі, а што трэба адразу было сказаць — забылася. Гэто ж два дні, як Салько стары памёр. Сённяка хаваць будуць. Сцяпана, сына, усё чакалі. А той маўчаў, маўчаў, а ранкам во прынеслі тэлеграму, што не можа прыехаць. Усё недзе па свеце гойсае. Месца ніяк сабе не знойдзе: мо з дваццаць адрасоў перайначыў, як з хаты выбраўся.

Сказала гэта і зноў змоўкла. Падперла кулачком галаву і задумалася. Пэўна, прыпомніла таго адзінага Салькавага сына, які ніяк не знойдзе сабе месца ў свеце і не вельмі рупіцца дахаты. Нават калі аднаго з бацькоў — выпраўляюць у апошнюю дарогу, на могілкі.

— Тупаў, тупаў раніцою па гаспадарцы. Сечкі рэшата карове ўрэзаў, да вады зганяў... І на табе... Знайшла жонка ў хляве. Свінням хацеў яшчэ ўліць.

І скончыла паціху, быццам пераказвала якую таямніцу:

— Дакторка казала, што нейкі інфаркт схапіў. З сэрцам гэта...

«Яшчэ на аднаго чалавека асірацела вёска...» — падумалася Андрэю. Услых жа ён сказаў:

— Шкада чалавека...

Сказаў і адразу ж злавіў сябе на тым, што зрабіў гэта проста так, як кажуць, па завядзёнцы, нават не прыпомніўшы як след самога нябожчыка. Падумалася, што лепш ужо было б памаўчаць.

Маці паглядзела моўчкі на сына. Пільна, бы штосьці пыталася. Потым падхапілася з табурэткі, узяла са стала міску і, каб абмыць яе, падалася да печы па цёплую ваду. Ступіла разы два, але спынілася сярод кухні.

— Гэта ж я забылася... Трэба па ваду збегаць, а то ў хаце — ні цёплай, ні халоднай. Уся разышлася. Памыцца няма нават чым.

Яна паставіла міску на прыпек і ўзялася за парожнія вёдры, што стаялі пры сцяне на шырокай лаве.

— Во-во,— вылез з-за стала Андрэй.— Сама ідзі... А сыночак, смачна пад'еўшы, няхай адпачне.— І спытаў сур'ёзна: — Дзе ватоўка?

— На печы... Яна мне за падушку,— вінавата адказала маці.— Не хочацца пошву на падушцы пэцкаць. Цябе нямашака, дык падумала, што адна і на печы зіму перакідаюся. Навошта ўсю хату апальваць, дровы адно пераводзіць?

Андрэй ускочыў на нізенькі прымурак, адкінуў фіранку і зазірнуў на печ. З горбы дзяружак і старых неданоскаў выцягнуў пакамечаную, ▪ надарванымі кішэнямі ватоўку. Накінуў яе на плечы. Ватоўка была цесная ў плячах, з кароткімі, ледзь не па самыя локці рукавамі.

Ужо ад дзвярэй, як на ягоны рост — нізкіх, малых, кінуў позірк на гіравы гадзіннік, што стрымана і аднатонна «ціктакаў» на сцяне. Бралася на трэцюю гадзіну дня.

«Во ажно дакуль праваляўся!.. А пёрся памагчы, зрабіць што-небудзь па гаспадарцы. Гэтулькі кіламетраў адбухаў ноччу пехатою, каб адно з самага ранку быць дома, не чакаць таго аўтобуса! Памог, называецца... Паўдня пралайдачыў у ложку!..»

Пераступіўшы праз высокі парог, Андрэй стаў на шырокі і пляскаты камень, што ляжаў тут, каб лацвей было ступаць у сені, а таксама выходзіць з іх. Прыпыніўся. Ноччу, калі ішоў з чыгуначнай станцыі дамоў, неба было чыстае, высокае, поўнае калючых зімовых зорак. Трымаўся добры марозік. А зараз над вёскаю слалася нудная каламутная імжа, чаплялася за вяршаліны голых, змрочных таполяў і ліпаў, за абшарпаныя высокія каміны.

Паветра было слотнае, сырое. Цяпер яно не бадзёрыла, не студзіла грудзі, як ноччу, а наадварот — настройвала на нейкі сонны, мірны лад.

Усё наваколле ахутвала імжыстая густая цішыня. Толькі дзесьці далёка-далёка, як усё роўна з-пад зямлі, чуўся роўны гуркат трактара.

Андрэй ступаў па двары, кіруючыся добра ўтаптанаю, вузенькаю — у адзін след — сцежкаю. Перад тым як выйсці на вуліцу, прыпыніўся зноўку. На гэты раз у насцеж расчыненых старэнькіх весніцах. Акінуў доўгім, гаспадарскім позіркам увесь двор, пасля — малады, з дзесятак яблынь, садзік, што рос перад хатаю.

«Трэба ўвесну прыехаць плот падправіць, штакеціны паадвальваліся... І голле прарэдзіць на яблынях, а то, саджаючы бульбу, не падлезеш з канём...»

Па брукаванай шэрай вуліцы, цяпер нейкай занадта шырокай і няўтульнай, подбегам праставала насустрач некалькі чалавек.

«Напэўна, да Салькі... Хутка павінны выносіць...» — падумаў Андрэй і азірнуўся назад. Каля Салькавай хаты, туляччыся да плота, ужо стаялі людзі. Неяк нязвычна чарнела пройма расчыненых насцеж дзвярэй у сенцы, а збоку ад дзвярэй, каля самага ганка, строга бялеў пры сцяне высокі драўляны крыж.

Андрэй заспяшаўся. Яму чамусьці не хацелася бачыць, як будуць выносіць з хаты нябожчыка, а пасля пад высокае шчымлівае галашэнне жанчын несці ці

везці праз усю вуліцу туды, дзе змрочнаю маўклівою выспаю горбяцца на ўзгорку старыя могілкі.

Непадалёку ад калодзежа, каля збітага са шлаку мура пад рыжаю чарапіцаю, яго спыніў дзядзька Раманкевіч. Невысокага росту, сухенькі чалавек, праз усю правую шчаку якога выгнуўся падковаю белы рубец, альбо «пражскі пацалунак», як часам заве яго сам дзядзька.

— Во як... Прыбыў, значыцца, дахаты,— адразу ж, без прывітання, быццам працягваючы даўно пачатую гаворку, першы загаварыў дзядзька і, як паміж іншым, падаў сваю шырокую, цвёрдую што камень далонь.

Андрэй палажыў у яе сваю — таксама ўжо, здаецца, не дзіцячую, адказаў:

— Ага, сёння ранкам прыехаў... Ну, як вы тут маецеся?

— Жывё-ом...— дзядзька выпусціў хлопцаву руку, глыбока ўздыхнуў і абапёрся на гладкі, аж бліскучы тронак рыдлёўкі. Потым, крыху памаўчаўшы, усміхнуўся нявесела, дадаў: — Як па той прымаўцы: добраму чалавеку — добра і ў запечку, а благой благаце — дрэнна й на куце. Праўда, што гаварыць. Вунь бачыш...

І не дагаварыў, кіўнуў галавою на Салькаву хату, пачаў шукаць па кішэнях курыва.

А калі выцягнуў са споднай кішэні ватоўкі пачаты пачак «Прымы», доўга не мог выкалупаць з яго сваімі тоўстымі пальцамі цыгарэту. Пасля здагадаўся пастукаць пачкам аб далонь.

Прыкурыў толькі за трэцім разам. Першыя два разы ламаліся ў пальцах запалкі. Моцна, ажно да глухой хрыпаты зацягнуўшыся, выдыхнуў праз хвіліну разам з дымам:

— Яму во хадзіў нябожчыку ладзіць. Была абвалілася на нет, цэлы бок аб'ехаў... Выкапаць выкапалі,

а як аб'ехала, то не было каму і падправіць. Пэўна, пайшлі хлопцы загадзя памінкі правіць.

— Глядзі ты...— паспрабаваў здзівіцца Андрэй.— Зіма ж на дварэ... Новы год не за гарамі. А зямлю нават і не прыхапіла.

— Зіма-а...— скрывіўся ад дыму Раманкевіч.— Такая як сёння во... Ноччу крыху прышэрхне, падбеліць, а днём ізноўку да вечара імжыць і імжыць свіны дождж. Дзе там, зямля нават на палец не ўмерзла. Вось і абвалілася яма. Трохі падладзілі. Гнілая зіма...

Насупраць Салькавай хаты, ашаляванай, пафарбаванай у цёмна-сіні колер, спынілася грузавая машына. Мужчыны, што тапталіся на панадворку, абступілі яе, адкінулі ўсе барты. Нехта спрытна ўскочыў на кузаў і пачаў завіхацца там, ладзячы пры кабіне невысокія густыя ёлачкі. Адну, самую вялікую, ён спіхнуў нагою на зямлю. Яе тут жа падхапіў нехта з сякераю ў руках і пачаў, спяшаючыся, церабіць і секчы лапкі. Потым прынеслі з хаты тры кашы і склалі туды пасечаныя лапкі.

З хаты ў адной бардовай сукенцы з чорнаю хусткаю на галаве выскачыла высокая худая жанчына. Яна подбегам кінулася да машыны, падала таму, хто быў на кузаве, чорна-чырвоную горбу дзяружак і адразу ж заспяшалася назад у хату. А той, што ўзяў дзяружкі, хуценька стаў расцілаць іх на кузаве. Калі нарэшце ён справіўся з гэтым, саскочыў на зямлю і зноўку далучыўся да купы мужчын.

Яшчэ нейкі час мужчыны стаялі каля плота, гаманілі, дымілі цыгаркамі. Потым іх, напэўна, гукнулі з хаты, бо яны няспешна, але ўсе разам, адным гуртам пайшлі да сенцаў.

— Відаць, выносіць пайшлі...— сказаў дзядзька Раманкевіч і некалькі разоў коратка зацягнуўся. Пасля, зайшоўшыся вострым сухім кашлем, сплюнуў акурак і доўга расціраў яго ботам.

— Пэўне ж...— Андрэй зірнуў на гадзіннік.— Дый час ужо: яшчэ гадзіна, паўтары, і сцямнее.— І спытаў: — А што, без папа хаваць будуць?

— Адразу на могілкі павязуць,— пацiху, ледзь не шэптам прамовіў дзядзька Раманкевіч, і пальцы ягонай правай рукі забегалі па шчацэ з рубцом.

«Хоча штосьці сказаць,— падумалася Андрэю,— але ніяк не адважыцца. Мусіць, не ведае, з чаго пачаць...»

— Я нічога не скажу...— быццам адгадаў Андрэевы думкі дзядзька Раманкевіч.— Я нічога не скажу, але гэта вельмі нядобра, калі магіла абвальваецца... Не жыў ён, значыцца, нябожчык тут, сярод людзей, так як трэба...— На хвіліну замоўк, як бы абдумваючы тое, што сказаў, і спытаў спакойным цвёрдым голасам: — А Салька хіба па-людску жыў? Хоць і нябожчык, але ўсё роўна скажу!.. Пры паляках — праўдамі-няпраўдамі зямлю ўсё скупляў. Столькі займеў, што аж не ўпраўляўся абсейваць, хоць і людзей наймаў. А яму ўсё мала было, зямлі тае. Каб мог, дык усю, што вочы бачаць, скупіў бы. Не раз з суседзямі біўся, усё яму здавалася, што тыя перааралі ці перакасілі межы. Каб не прыйшлі Саветы — далёка заляцеў бы!.. А пры немцах? Таксама хітраваў, як вуж той круціўся, пацiху рабаваў людское...

Раманкевіч якую хвіліну паўзіраўся туды, куды меўся ісці — на Салькаву хату, потым нязграбна, усім тулавам павярнуўся і хісткаю хадою, нібыта баючыся спатыкнуцца і ўпасці, пайшоў назад.

Разгублены Андрэй доўга глядзеў яму ўслед. І толькі тады скіраваў да калодзежа, калі Раманкевіч павярнуў сценкаю да свае хаты.

«Во як яно бывае,— думаў хлопец.— Пражыў чалавек цэлае жыццё, і, выходзіць, марна. Нават успомніць людзям няма чым добрым. А мо крыўду нейкую на нябожчыка дзядзька мае?..»

І ён успомніў, як у канцы верасня адпасваў чаргу з Раманкевічам. Раніцаю, толькі выгналі кароў на пашу, недалёка ад вёскі сустрэлі Сальку, які вёз аднекуль дровы. Выпрагшы мокрага каня, ён звязваў парваны гуж. Воз быў цяжка нагружаны.

«Цэлы тыдзень ужо цягае...— калі мінулі Сальку з возам, азваўся Раманкевіч.— А ў самога кастры аж пазалеташнія стаяць. Паглядзіш — галлё чалавек тарабаніць, лес чысціць. Гэты пачысціць... Конь ад галля так не ўзмакрэў бы. Камлі адныя ляжаць пад нізам. Нездарма ж цэлае лета вочы лесніку самагонкаю заліваў».

Андрэй падышоў да калодзежа з высокаю, ледзь не па самыя грудзі верхняю цымбравінаю. Над ім нізка чарнела гонтавая стрэшка, якую нехта па-гаспадарску прасмаліў, каб не гніла ў непагадзь. Вісклівa зайшоўся пад рукою слізкі, выцерты далонямі тоўсты калаўрот. Цяжка бухнулася ў ваду калодзежнае вядро. Дробна задрыжаў у руцэ мокры халодны ланцуг.

На памяць прыйшлі сустрэчы з Салькам.

* * *

Ужо не раз, сышоўшыся дзе-небудзь вольнаю хвілінаю, мужчыны пагаворвалі, што трэба выкапаць калодзеж. Хадзіць да тых, што былі на старой вуліцы — усе згаджаліся — было далекавата. Улетку ці вясною яшчэ можна прывалакчы два вядры, а зімою ці ў позную восень, калі на двары балота або слізгоцце, хоць ты плач?..

Гаварылі, гаварылі, але ніхто не хацеў браць на сябе клопат дамовіцца з майстрам, прывезці з суседняй вёскі формы, расстарацца цэменту.

І ўсё-такі перад вялікаднем пайшоў нехта з мужчын па хатах збіраць грошы.

З усёй вуліцы не аддала тых дваццаці рублёў толь-

кі яго, Андрэева маці. Яна тады якраз ляжала цяжка хворая ў Жыровіцкай бальніцы, а сам ён — вучыўся ў школе-інтэрнаце. Уладкавалі яго туды па рашэнню сельсавета, бо адзін, без маці, зусім адбіўся ад рук, не стаў хадзіць нават у школу.

Памятаецца, неяк пасля Майскіх святаў, маці наказала, што хутка выпішуць з бальніцы. У першую ж суботу Андрэй адпрасіўся ў выхаваццеля з'ездзіць дамоў.

Папалуднаваў на скорую руку разам з усім класам і кінуўся да аўтавакзала. Пашчасціла: паспеў на аўтобус, што ішоў праз родную вёску.

Праз паўгадзіны ён выйшаў з аўтобуса каля высокага з чырвонай цэглы будынка магазіна, убачыў на вуліцы непадалёк ад сваёй хаты грамадку людзей і нейкія рыштаванні. Ад жанчын, якія чакалі з полудня магазіншчыцу, даведаўся, што гэта капаюць калодзеж.

Потым, калі падышоў бліжэй, і сам убачыў: мужчыны выцягаюць з глыбіні вёдры з чырвонаю глінаю, мокрым шызым пяском і глеем. Унізе, пад нагамі таго, хто капаў і накідваў у вёдры, хлюпала вада. Занепакоіўся: «А калі раптам хлыне яна? Ці паспее ўратавацца, выскачыць наверх?» З цікаўнасці вельмі захацелася зазірнуць туды, усярэдзіну.

Прычакаў момант, калі вывалаклі чарговае вядро, падсунуўся бліжэй да мокрай запэцканай цымбравіны, узяўся аберуч за яе сыры край — і асцярожна нахіліўся...

Але нічога не паспеў разгледзець: ззаду хтосьці сціснуў за карак. Балюча-балюча, ажно пераняло дыханне і навярнула на вочы слёзы.

— А ты чаго тут, байстручанё, круцішся?! Месца іншага няма табе... Усё роўна вады адсюль не нап'ешся!.. Прывыклі на дармавіну жыць...

Пальцы на шыі расчапіліся.

Некалькі хвілін хлапчук стаяў нерухома. Гарачыя

слёзы пяклі шчокі, саланелі на губах: душыла крыўда. Ён нічога не бачыў вакол сябе. Толькі прыглушана чуў, як быццам з-пад зямлі: «Навошта ты гэтак яго? Сірату крыўдзіш... Выйдзе матка з бальніцы, дасць на барыш — і ўвесь клопат. Няхай п'юць на здароўе».

Андрэй намагаўся азірнуцца, паглядзець на свайго крыўдзіцеля. Намагаўся — і не мог, баяўся. Раптам ён адчайна кінуўся да крамы: там стаяў аўтобус, што вяртаўся назад у горад. Ускочыў у яго, упаў на свабоднае крэсла і толькі тады зайшоўся ад глухога плачу.

Непрыкметна тая вясна павярнула на лета. Цэлыя дні навылёт пражыла сонца. Пачаўся сенакос. Андрэева маці разам з іншымі жанкамі ездзіла пад Шчару грэбсці сена. Ён жа, Андрэй, на цэлы дзень заставаўся адзін пры хаце. Заганяў у полудзень карову ў хлеў, зваў суседку, цётку Юстыну, каб падаіла. Кожны вечар паліваў агарод, па ваду хадзіў, як і раней, на старую вуліцу: добра памятаў тыя «абцугі», нават сніў іх. Ды і маці чамусьці па-ранейшаму хадзіла да старога калодзежа.

Смылелі далоні, нылі плечы. Як-ніяк, а яму, пяцікласніку, тыя дзесяць вёдзер на дзень даваліся нялёгка.

Аднаго разу Андрэй загуляўся з хлопцамі ў лапту, а калі прыбег дамоў, глянуў на гадзіннік, убачыў, што да таго часу, пакуль вернецца маці, з агародам яму не ўправіцца. А вельмі ж не хацелася, каб яна, змораная за дзень на спякоце, цягала яшчэ і ваду. Тады ён адважыўся схадзіць да новага калодзежа, што быў усяго за якіх паўсотні метраў.

І за першым жа разам, калі выцягваў абедзвюма рукамі вядро з вадою, як і тады, вясною, пачуў над самым вухам:

— Прынесла ўсё-такі!.. На гатовенькае захацелася... Дурняў знайшлі, галадранцы!..

Андрэй адчуў, як яго працялі дрыжыкі. Ён сцяўся ўвесь, уцягнуў у плечы галаву, а потым — з усяе сілы кінуўся ўцякаць.

Адбегшыся метраў з дваццаць, хлопец успомніў, што каля калодзежа засталося яго вядро. Гэта прымусіла спыніцца і азірнуцца.

Каля калодзежа горбіўся Салька.

Яны доўга глядзелі адзін на аднаго, зацята маўчалі. Першы адвёў убок позірк Салька. Ягоныя вочы забегалі, як бы нечага шукалі. У іх абсяг нарэшце трапіла Андрэева вядро. Салька схапіў яго і пачаў з усяе сілы хвастаць ім аб камень, што ляжаў ля самага калодзежа.

— Што, грошы ў мяне былі лішнія?! А на! А на табе!..

* * *

Андрэй не заўважыў, што выцягнуў і наліў вёдры. У задуменнасці трэці раз ён пачаў нетаропка апускаць калодзежнае вядро. Але раптам яго працяў роспачны жаночы лямант.

На шырокім, дагледжаным Салькавым надворку ўслед за крыжам і векам, на плячах мужчын высока плыла да вуліцы, крыху пагойдваючыся, доўгая чорная труна. За ёю нясмела ціснуўся натоўп людзей.

Нечакана ад натоўпу адлучылася некалькі мужчын. Яны абмінулі труну з нябожчыкам, падышлі да машыны і па адным пачалі залазіць на кузаў.

Праз хвіліну — уладкоўвалі там труну з нябожчыкам і побач яе века.

На нейкае імгненне лямант аціхнуў. Наперад машыны, сагнуты ў крук пад цяжарам вялікага, пэўна, дубовага крыжа, цяжкім поступам выйшаў сівы мужчына. За ім, спяшаючыся, стала некалькі чалавек з жалобнымі вянкамі.

Усё было гатова. Але ўсе чамусьці стаялі на месцы, быццам некага чакалі. Горбіўся пад крыжам, схілены наперад усёю постаццю, высокі мужчына, круцілі галовамі тыя, што стаялі з вянкамі, тапталіся за машынаю аднавяскоўцы.

Праз хвіліну-другую, трымаючы з абодвух бакоў пад пахі, вывелі з чорнай праймы дзвярэй жанчыну. Падвялі яе да машыны, дапамаглі ўзлезці на кузаў і пасадзілі на табурэтку каля галавы нябожчыка.

Наперад выбегла некалькі дзяўчатак і хлопчыкаў. Яны папарна трымалі ў руках кашы, напханыя аж пад самыя дужкі яловымі лапкамі.

Бязгучна кранулася з месца машына. Дзеці асцярожна, па адной, пачалі кідаць з кошыкаў на дарогу лапкі.

А з хатаў, што стаялі паабапал шырокай вуліцы, адна за адною пачалі выходзіць жанчыны. Кожная спынялася ў сваіх весніцах, развітальным доўгім позіркам праводзіла ў апошнюю дарогу нябожчыка, далучалася да грамады. Следам за жанчынамі ішлі мужчыны, здымаючы на хаду з галоў шапкі.

Андрэй убачыў, як выйшла на парог сенцаў і яго- ная маці. Машына з нябожчыкам якраз параўнялася з іхняю хатаю. Маці пастаяла крыху ў дзвярах, паўзіралася здалёк, а пасля, як і ўсе, падалася да вуліцы. Толькі паволі, няспешна, быццам абдумваючы, ці добра робіць...

Нарэшце дзеці з кошыкамі ў руках амаль параўняліся з Андрэем. Ён убачыў іх разгубленыя тварыкі, шырока расплюшчаныя спалоханыя вочы, па-даросламу сур'ёзныя, цвёрда сціснутыя губы. Дзеці асцярожна кідалі з кошыка на брук яловыя лапкі.

Падумалася, што ім, напэўна, наказалі кідаць так, каб хапіла аж да самых могілкаў. Потым ягоны позірк затрымаўся на панурай постаці мужчыны, які з усяе

сілы прыціскаў да пляча крыж, на цвёрдых, нейкіх нежывых тварах тых, хто нёс жалобныя вянкі.

Далей у вочы кінулася чорная постаць жанчыны, якая сядзела на кузаве машыны каля галавы нябожчыка. Яе раз за разам моцна падкідвала. Ці то ад няроўнай дарогі, ці то ад высокага плачу. Андрэй ледзьве пазнаў у жанчыне Салькаву жонку.

За машынаю ішла немалая грамада людзей. Жанчыны трымалі ў руках белыя хустачкі, часта падносілі іх да вачэй, падтрымлівалі адна адну. Мужчыны, якія сунуліся апошнімі, маўчалі або ціха размаўлялі. Андрэю здалося, пра нешта сваё, будзённае...

Ён хутчэй адчуў, чым убачыў, што машына параўнялася ўжо і з ім.

«Трэба ж развітацца...» — падумаў хлопец і, перш чым глянуць на нябожчыка, праваю рукою, што сама пацягнулася ўгору, зняў з галавы шапку.

# Срэбная блясна

Цяжка было, млосна. І на душы гэтаксама. Той водпуск, на які спадзяваўся цэлы год, доўгую, здавалася, бясконцую зіму, гэты водпуск пачаўся як ніколі няўдала.

А марылася, нават снілася...

Новы зялёны рукзак, што без патрэбы пыліцца недзе пад канапаю, у адзін цудоўны момант, а дакладней — высокім жнівеньскім днём — прыемнай цяжасцю ўзваліцца мне на плечы.

І далей без усялякай натугі, да самых нязначных драбязінак уяўлялася...

Такі харошы, утульны, як у дзяцінстве, вечар; стары хваёвы бор на беразе возера; вясёлае зыркае вогнішча прагна абдымае вядзерца, у якім варыцца юшка. Гаркавата-салодкі пах хмеліць галаву. Хочацца маўчаць, слухаць, як патрэскваюць, перагаворваюцца ў агні сухія дровы паміж сабою, глядзець і глядзець у глыбокія таямнічыя дзявочыя вочы...

Свята чакала маіх сяброў. Мне ж перад самым святам, у апошні вечар перад ад'ездам — тэлеграма. Ад гэтай халоднай калючай паперкі, калі яна трапіць у рукі, нікуды не ўцячэш і, што самае крыўднае, нічога не раскажаш, нічога не растлумачыш ёй...

«ВАЛЕРА КЕПСКА ДЗЯДЗЕМ КОСЦЕМ ПРЫЯЗДЖАЙ ЦЁЦЯ НІНА»

Я не мог не абазвацца на гэтую вестку або проста адмахнуцца: «Ат, неяк выхадзяць і без мяне! Не доктар жа я...» Які адпачынак, калі ведаеш, што на лю-

дзей, блізкіх табе людзей, звалілася гора і яны чакаюць цябе, твае падтрымкі?

Хвароба да дзядзькі прычапілася даўно — яшчэ як я навучаўся ў школе. Яму моцна забалелі ныркі. Застудзіў, ці што. І потым, дзе б ні лячыўся, колькі б ні грэўся на поўдні — усё роўна не лепшала. Крыху адпусціць, а ўвосень, зімою — зноўку баліць, не дае дыхнуць.

Вядома, настрой мой быў сапсаваны. І не толькі мой... Калі гаварыць шчыра, дык спачатку ўзяла злосць. Чаму менавіта мяне ўспамінае ў такія дні цётка Ніна? Таму што няма сваіх дзяцей? Дык ёсць жа сёстры, браты — і ў самой, і ў хворага мужа, другія сваякі...

Я ведаў — усё роўна паеду, але намерыўся ехаць на наступны дзень.

Назаўтра, ледзьве ўціснуўшы ў аўтобус змрочных маўклівых сяброў і сябровак, я вярнуўся ў свой маленькі прыватны пакойчык, каб захапіць у дарогу некаторыя рэчы. Як быццам адразу не мог узяць іх... Я не вельмі падганяў сябе. Нават прысеў перад дарогаю. І вось тады, калі я прысеў, мне нечакана прыгадаліся тыя шчодрыя пасылкі з «Залатым ключыкам», што прысылала нам цётка Ніна, калі мы былі з сястрою малыя, і такія неабходныя яе грашовыя пераводы «пад свята» ў гады нішчымнага студэнцтва...

А пасля да самых нязначных драбязінак прыгадалася апошняя сустрэча з сваякамі.

* * * Было гэта нядаўна, у пачатку чэрвеня. Я прыехаў у горад, дзе жылі сваякі, у камандзіроўку. Усе тыя тры дні кватараваў у гасцініцы: не хацелася, каб хтосьці апекаваўся маёй персонай, ламаў галаву: чым накарміць, дзе пакласці спаць... Карацей кажучы, па

гэтай прычыне ці па яшчэ якой, я завітаў да родзічаў у апошні дзень камандзіроўкі, маючы ў кішэні білет на вячэрні цягнік.

Сустрэлі мяне сардэчна, гасцінна. Не прамінула і паўгадзіны, як рухавая памаладзелая цётка Ніна згатавала абед, накрыла ў зале багаты стол. Мы з ёю выпілі па чарачцы каньяку, дзядзька ж — яму дактары забаранілі зусім піць — прыгубіў адно. Прыкусілі. Потым цётка пачала расказваць, як нядрэнна чуў сябе Косця ў Самаркандзе, адкуль яны нядаўна вярнуліся, як пашанцавала на доктара і з нейкімі дарагімі замежнымі лякарствамі. Я слухаў цётку і як мага стараўся падтрымаць гаворку. Абы не маўчаць, абы не сустракацца з дзядзькавымі вачыма — глыбока запалымі. Калі была якая патрэба скочыць у кухню, я імкнуўся падхапіцца раней за гаспадыню. Адчуваў, ведаў: непрыгожа гэтак зрывацца, і нічога не мог зрабіць з сабою. Надта ж крохкаю здавалася цётчына радасць, надта ж сумныя былі дзядзькавы вочы.

Стрэлкі на гадзінніку пасоўваліся вельмі марудна, і я раз за разам неўпрыкмет ускідваў руку да вуха: ці ідзе хоць гадзіннік.

Дзядзька Косця вычакаў момант, калі жонка выйшла ў другі пакой, спытаўся ў мяне:

— Спяшаешся?..

— Не...— паспешліва адказаў я і чамусьці зманіў: — Пэўна, гадзіннік сапсаваўся.

Ён сумна ўсміхнуўся. Паглядзеў праз адчыненыя дзверы ў калідор і, падсунуўшыся бліжэй да мяне, пазмоўніцку, ціха загаварыў:

— Валерык! Давай махнем заўтра на рыбалку! Усяго на адзін дзень. Раніцаю — туды, вечарам — назад. Гэта недалёка, у мае мясціны...

— Я... Я не супраць... А ці адпусціць цётка Ніна? — пацiснуў ніякавата плячыма я. Калі прызнацца, гэтая прапанова не вельмі «грэла» мяне. Абрыдла бес-

талковая камандзіроўка, абрыд і чужы горад. Хацелася дамоў.

— Адпусціць... Мо як-небудзь угаворым. А ты, калі пабяжыш білет здаваць?

Ну, дзядзька! Усё ён ведае. Нічога ад яго не ўтоіш, не схаваеш.

Білет мне, канечне, прыйшлося здаць. І ў цёткі тут жа, за абедам, памог я вырваць згоду на падарожжа. Потым мы сядзелі ўдвух у невялічкім цесным кутку кладоўкі. Ладзілі вуды. Чаплялі кручкі, глядзелі, як ходзяць барабаны ў спінінгах. Дзядзьку было не пазнаць. Ён паяснеў з твару, павесялеў. Хапаўся то за адзін, то за другі спінінг і, нібыта ў старэйшага, усё пытаўся ў мяне:

— Валерык, мо гэты, японскі, возьмем? Паглядзі, які лёгкі... Табе падабаецца?

Мне, прызнацца, неяк усё роўна было: японскі той спінінг ці яшчэ які. Не гледзячы нават, я запэўніваў: падабаецца. І дзядзька, як той нявопытны хлапчук, яшчэ больш яснеў з твару, не хаваючыся, радаваўся ўдаламу спінінгу. Нарэшце асцярожна адкладваў яго ўбок, зноўку, спяшаючыся, корпаўся ў сваім рыбацкім кутку, у розных бляшанках ад халвы і цукеркаў, пакуль не знаходзіў той адзіны, вельмі дарагі кручок, на які рыба і без нажывы кідаецца...

Не, я не смяяўся з дзядзькі, таксама чуў ад людзей: кожнаму сапраўднаму рыбаку абавязкова трапляецца гэткі кручок. Няхай сабе адзін за ўвесь ягоны рыбацкі век — але ўсё роўна трапляецца. Дзядзька Косця, відаць, быў адзін з такіх шчаслівчыкаў.

Управіўшыся з рыбацкім начыннем, мы ўзялі гаспадарчую сумку і пайшлі купіць назаўтра хлеба. На лесвічнай пляцоўцы сустрэлі шырокага ў плячах медзведзяватага мужчыну — дзядзькавага суседа.

— Куды спяшаешся, Косця? — заместа прывітання спытаўся той.

— Не бачыш хіба? — зычна засмяяўся мой сваяк і, выразна пстрыкнуўшы па шыі пальцам, дадаў: — Трэба ж пляменніка пачаставаць. Заходзь і ты!..

— Ого! Бачу, акрыяў ты. Мо ўжо і на аперацыю не павалакуць?

— Там відно будзе...— адразу ж спахмурнеў дзядзька Косця.— Бывай здаровы! — і заспяшаўся па лесвіцы ўніз.

— І вы будзьце здаровыя! — кінуў пацiху нам у спіну разгублены сусед і не скрануўся з месца датуль, пакуль мы не апынуліся на наступнай пляцоўцы.

Усю далейшую дарогу дзядзька маўчаў. Нарэшце прыйшлі да гастранома.

— Ты вазьмі хлеба,— глуха папрасіў ён мяне,— а я прабягу па другіх аддзелах. Мо што яшчэ куплю...

Я хутка абярнуўся і, разлічваючыся, адразу прыкмеціў: сваяк мой стаіць у хвасце немалой мужчынскай чаргі за півам. Разлічыўся, падышоў да яго. Дзядзька ўжо знаёма, па-хлапечы, усміхнуўся і, нібыта пытаючыся дазволу, сказаў:

— Вазьму бутэльку... Якая ж гэта юшка без белай?

— Не трэба...— папрасіў я яго.— Вам няможна піць. А я таксама слабы ахвотнік да гэтага зелля...

— Усё роўна трэба ўзяць. Спатрэбіцца... А раптам яшчэ хто-небудзь завітае ў госці.

Вяртаючыся з гастранома, я нёс хлеб, а дзядзька — бутэльку гарэлкі. Чамусьці наадрэз адмовіўся схаваць яе ў сумку.

Нарэшце прыйшлі. Каля пад'езда на лавачцы сядзела некалькі жанчын. Дзядзька Косця, па-ранейшаму трымаючы ў руцэ бутэльку, прысеў да іх, пачаў

жартаваць, расказваць, як добра чуў сябе ў тым далёкім Самаркандзе, што на наступны год зноўку паедзе туды... Жанчыны ўсміхаліся добрымі ўсмешкамі, радаваліся разам з маім сваяком удалай паездцы і не-не ды кідалі шматзначныя позіркі на гарэлку: і папраўдзе, відаць, палепшала чалавеку.

І быў ранак. Якраз пад мой настрой. Шэранькі, няўтульны. З дробным цёплым дождж ыкам, які, дзякуй богу, хутка аціх. Дзядзькаў знаёмы сіпла пасігналіў нам на развітанне, і ягоны чырвоны «жыгуль» бясшумна юркнуў у засмужаны чорны лес. Мы засталіся адны. Пастаялі крыху моўчкі, я прыкурыў.

— Ну то што, пайшлі,— нарэшце азваўся дзядзька Косця,— гэта тут недалёка, мо які кіламетр ці паўтара,— і рашуча ўзваліў на плечы невялікі, але ладна напакаваны ўсялякім рыбацкім начыннем і ядою рукзак. Узваліць-то ўзваліў, але хіснуўся пры тым убок, як усё роўна п'яны. А калі пайшоў, то нейк няўпэўнена, заплятаючы нагу за нагу.

— Давайце я панясу,— сказаў я і, не чакаючы ягонай згоды, сцягнуў з плячэй рукзак.— А вы начынне вазьміце,— і сунуў яму ў рукі добрую вязанку вудзільняў.

Мяне аж распірала тады ад зухаватага дурнога жадання адразу паставіць усё на сваё месца: хворы — дык няма чаго пускаць пыл у вочы, прымушаць кагосьці танцаваць вакол сябе. Днём — дурнаватая камедыя з гарэлкаю, ноччу — цяжкія здушаныя стогны, перапалоханы дрыготкі голас цёткі Ніны, таропкая бегатня яе са спальні ў кухню, з кухні назад у спальню. І як яна адважылася адпусціць сюды яго? Пэўна, цяпер недзе месца не знаходзіць сабе ў кватэры.

Гэтак я думаў тады, а тым часам ледзь прыкмет-

ная ўтравелая сцежка вяла нас раздольным шырокім лугам. Падымаліся на пакатыя грэбні, спускаліся ў мокрыя лагчынкі, кружылі вакол зарослых старых азярынаў, прадзіраліся праз бухматае кустоўе лазы. На адным з самых высокіх грэбняў я выпадкова азірнуўся назад і далёка ўбачыў нашую дарогу. Сярод роснага сівога лугу яна выяўлялася чорнаю стужкаю, вужакаю, якая выгіналася то ў адзін, то ў другі бок, як мага аддаляючы падыход да ракі.

Нарэшце выйшлі на высокі абрывісты бераг. Доўга стаялі моўчкі, глядзелі на леную дужую плынь цёмнай вады ў рацэ, на супрацьлеглы палогі бераг з шырокаю касою шызага пяску, на густы непралазны хмызняк, што кучаравіўся за тою касою.

— То мо атабарымся? — Я ўзяўся за лямкі рукзака.

— Адно давай падымемся трохі ўверх... Навошта зямлю пэцкаць. А там — і месца для цяпельца ёсцека, і рагулькі я прыхаваў.

Хутка мы апынуліся на невялічкай зграбнай палянцы непадалёку ад берага ракі. З трох бакоў — дружная сцяна ляшчынніку і крушынніку. Пасярэдзіне — чорная пляма ад былых вогнішчаў, невялічкая горба назапашанага ламачча.

Я зваліў з плячэй рукзак. Дзядзька адразу ж прысеў над вудзільнямі і спінінгамі, пачаў даводзіць іх да ладу.

— Гэта ніц, што з надвор'ем крыху не пашанцавала,— нібыта апраўдваючыся перада мною, загаварыў ён.— Халадэчы няма. А яна,— махнуў рукою ў бок ракі,— а яна палагоднее. Вось убачыш... Даставай прынады. Адно глядзі, каб гарох не рассыпаўся, а то штосьці бляшанка стала дрэнна зачыняцца.

Я пачаў разбіраць рукзак, у які цётка Ніна без нашага ведама напхала столькі яды, што, напэўна, хапіла б на цэлае аддзяленне.

«От дурніца!..» — падумаў я, выкідваючы пакункі ў траву, і сказаў, смеючыся, дзядзьку:

— А цётка нас як усё роўна на Паўночны полюс выправіла!

Ён, падалося мне, таксама ўсміхнуўся. Толькі неяк нясмела, сарамліва. Пакінуў ладзіць вуды, падышоў і прысеў на кукішкі каля загорнутых у старыя газеціны пакункаў. Пасядзеў гэтак, потым, быццам сапраўды ў тым была якая патрэба, перагледзеў усе да аднаго пакункі, акуратна пaскладваў назад у рукзак. Рабіў ён гэта марудна, быццам штосьці шукаў і не знаходзіў. Я стаяў побач і не ведаў: ці разбіраць мне вуды, ці памагаць укладваць пакункі...

Я чакаў і не мог дачакацца тае хвіліны, калі мы, узброіўшыся вудамі і спінінгамі, пажадаем адзін аднаму ўдачы і разыдземся. Канечне, хацелася як мага хутчэй выпрабаваць сваё рыбацкае шчасце, але найперш, і гэта было галоўнае,— хацелася застацца самнасам са сваімі няпэўнымі думкамі. Мне было цяжка побач з дзядзькам Косцем. Я не ведаў як і пра што з ім гаварыць.

Прайшло гадзіны дзве ці нават больш. Непрыветная чорная рака пакрысе астудзіла мой рыбацкі імпэт. На што толькі не спрабаваў я лавіць! І на гарох, і на конікаў, і на чарвякоў, якіх выкалупваў з-пад дзёрна пальцамі. Усё роўна не шанцавала. Тыя некалькі плотачак і акунькоў, якія трапіліся ў самым пачатку, як бы падкрэслівалі сіратлівую пустату маёй торбы. Тады я плюнуў на вуды і ўзяўся сцябаць па рацэ спінінгам. Нічога, вядома, не выцягнуў, акрамя зелля ды невялікае ламачыны, затое налаўчыўся шпурляць блясну аж пад самы супрацьлеглы бераг. Спачатку нават меў нейкае задавальненне, але хутка абрыд і гэты занятак.

Падумаў: не блага было б і паесці, а то ў жываце

кішкі марш іграюць. Закінуў усё сваё начынне на плячо і пасунуўся да паляны, дзе спыніліся. Ішоў і ўяўляў багаты дзядзькаў улоў, гадаў, колькі ён выцягнуў шчупакоў. Сорамна было вяртацца з пустымі рукамі, але нічога не зробіш. Магазіна побач няма, не купіш. Жарты жартамі, а на душы, як гаворыцца, скраблі кошкі. Брала злосць, што згадзіўся на гэтую праклятую рыбалку, што давядзецца споўдацца каля ракі яшчэ цэлых паўдня. Каб хоць дзень быў як дзень — сонечны, цёплы, як і належыць яму. Пакупаўся б, пазагараў бы. А так — кісні тут няведама чаго, кармі камароў, што хмараю стаяць над галавою.

Дзядзька ўжо таксама быў на паляне. Сядзеў нерухома на самым беразе, глядзеў, як быстра і няспынна ідзе цёмная вада ў рацэ, як злосна вірыць яна, паднімае жоўты брыдкі шум на паваротку. Неразабраныя вуды, як непатрэбныя, ляжалі каля рукзака.

Я пастаяў, перамінаючыся з нагі на нагу, затым шпурнуў начынне ў траву і таксама сеў на край берага.

— Ну што, Валерык? — устрапянуўся, бы ачнуўся ад сну дзядзька Косця.— Пашэнціла?

— А-а-а!..— адмахнуўся я рукою.— Каму-каму, а камарам дык точна пашэнціла.

— Ага, нешта і ў мяне не бярэцца... Злавіў мо са тры жыўчыка, ды і тыя выкінуў. Мелкія надта ж былі, мо па мезінцу.

Я недаверліва паглядзеў на дзядзьку, але прамаўчаў. Чамусьці расхацелася гаварыць пра неразабраныя вуды каля рукзака. А раптам ён сапраўды лавіў, ды клявала гэтаксама, як і ў мяне?

— А са спінінгам ты хадзіў?

— Хадзіў...— скрывіўся, бы ад горкага я. Тут зусім не хацелася гаварыць, а пра рыбалку — тым больш. І ўсё-такі не вытрымаў, дадаў, як мага шы-

рэй расставіўшы рукі.— Во-о такога... карча выцягнуў!

Дзядзька адкінуў назад галаву і засмяяўся. Ды не проста засмяяўся, а добра, аж зубы глянулі на свет, зарагатаў. Здзіўлены, я ўперыўся на яго вачыма. Побач са мною сядзеў як бы другі, незнаёмы дагэтуль чалавек — памаладзелы, упэўнены ў сабе, вясёлы. Неяк вальней, свабадней дыхнулася мне, і я таксама засмяяўся — лёгка, нязмушана.

— Слухай, Валерык,— выцер слёзы з вачэй дзядзька Косця.— Скажы, а ты дабег туды, дзе ў раку невялічкая рэчка ўваходзіць?

— Не-е...

— Э-э!.. Дык ты гультаіска, браток! Пэўна, таптаўся на адным месцы, муціў ваду адно. Ладна, бяры начынне. Трэба ўсё-такі скочыць туды.

Не, я ніколі не верыў у цуд. Таму праз хвілін дваццаць пасля таго як прыйшлі на новае месца, зноўку абыякава шпурляў блясну — абы шпурляць. І не заўважыў, як за маёю спіною з'явіўся дзядзька.

— Дай мне свой спінінг...— папрасіў ён паціху як бы пакрыўджаным голасам.

Я падпарадкаваўся. Потым, непрыкметна пасміхаючыся, глядзеў, як дзядзька з мудрым тварам чараваў над звычайнаю жалезкаю блясны. Што ён толькі не рабіў: і на свет глядзеў яе, і кусаў зубамі... Нарэшце зусім адвязаў. Палез у кішэню і дастаў новую. Відаць, нейкую незвычайную, дарагую, бо была загорнута ў белую паперчыну.

— Паглядзі...— нечакана працягнуў мне.— Сам рабіў.

Нічога асаблівага ў той блясне не было. Звычайны белы брусок, нават не адпаліраваны як след. Крыху цяжэйшы, чым гэткі ж кавалак жалеза.

— З чыстага срэбра...— у дзядзькавым голасе чулася несхаваная гордасць.— Колькі разоў мне прыносіла шчасце!

Ён доўга і старанна прыладжваў потым тую блясну да майго спінінга. Кожную чырвоную нітачку, прывязаную невядома дзеля чаго да трайніка, мо па дзесяць разоў перагледзеў.

Прыладжваў — і дрыготкім ад хвалявання голасам усё гаварыў да мяне, вучыў, як быццам і сапраўды недзе каля супрацьлеглага берага ўжо стаіць мая вялікая рыбіна і чакае, пакуль я закіну срэбную блясну.

— Адно не спяшы... Паціху вядзі. Ага, і давай блясне абавязкова чыркнуць па дне. Калена такое рабі... Вядзеш, вядзеш — і пусціў... Вядзеш, вядзеш — і пусціў... Падняў вудзільна, падматаў жылку,— быстрыя і маладыя дзядзькавы вочы аж, здаецца, свідравалі мяне. І я адчуў, як па маёй спіне прайшлі мурашкі, як гайданулася ў грудзях хваляванне.— А калі раптам пачуеш, што нешта тузанула — жылку не аслабляй, хутчэй круці барабан.

Асцярожна, як не сваімі рукамі, я ўзяў спінінг. Доўга прымерваўся, каб як мага далей шпурнуць блясну, і не вытрымаў, папрасіў:

— А мо лепш закіньце вы...

Дзядзька Косця ўсміхнуўся, падміргнуў мне:

— Давай, давай, вучыся... Добра было б, каб пацэліў ву-у-нь пад тую вярбу!

Я якраз пацэліў туды, куды параіў дзядзька, няўмела пачаў рабіць «калена». І раптам пачуў лёгкі рывок. Паспрабаваў падняць вудзільна — яно выгнулася. Шырока тахнула сэрца, задрыжалі рукі. Неяк злавіў ручку барабана і, спяшаючыся, пачаў круціць яго. Жылка аж зазвінела. Я спалохаўся, адпусціў барабан.

— Што ты робіш! — горача дыхнуў мне ў вуха дзядзька Косця.— Цягні, паднімай яго з дна! Тады ён як міленькі пойдзе.

Я міжволі прыплюшчыў вочы і непаслухмянаю рукою зноўку пачаў круціць барабан.

Не ведаю, як хутка, але нарэшце каля берага мільганула прыгожая вялікая рыбіна.

— Давай сюды спінінг! — закамандаваў дзядзька Косця.— А сам скоч да вады. Ды за вочы бяры яго, за вочы! Бо гэта сам цар, а не судак!

О, як выгіналася, як танцавала ў маіх руках тая прыгожая дужая рыбіна! І разам з ёю, аж дурэючы ад радасці, танцаваў і я. Рачная вада, мяккая і цёплая, бы жывая, лашчылася да маіх ног, а нада мною на высокім абрывістым беразе ў блакіце радаснага раптоўна распагоджанага неба стаяў шчаслівы дзядзька Косця.

* * *

...Да аэрапорта я імчаў на таксі, быццам хацеў дагнаць учарашні дзень. Білеты, вядома, былі распрададзены. Кінуўся на чыгуначны вакзал і жахнуўся: мора людзей, да касаў не падступіцца, хто як можа ціснецца ўперад.

Толькі назаўтра ў дванаццаць гадзін я быў у горадзе, дзе жылі сваякі. Ізноў — таксі, і ўсё тое ж непераможнае адчуванне вінаватасці. Нечакана ўспомніў, што не купіў падарункаў, хоць раней амаль заўсёды прыязджаў з пустымі рукамі. Спыніў таксі каля гастранома і ўзяў бутэльку каньяку, найдаражэйшых цукерак. Разлічыўся, выбег на вуліцу і надумаў: не на свята ж еду!

Не даязджаючы да знаёмай шматпавярховай будыніны, папрасіў шафёра спыніцца.

Дзень выдаўся сонечны, цёплы. З захаду дыхаў

свежы тугі ветрык. Горад жыў сваім звычайным мітуслівым жыццём: манатонна гулі машыны, беглі некуды людзі. І толькі маладыя мамы з прыгожымі рознакаляровымі каляскамі плылі не спяшаючыся.

Я завярнуў за рог шматпавярховага дома і каля патрэбнага мне пад'езда ўбачыў некалькі легкавых машын і аўтобус ■ чорнай строгай намаляванай стужкай ніжэй вокан. Пярэднія дзверы аўтобуса былі адчынены. У салоне чарнелі жалобныя вянкі.

Я спыніўся. Я баяўся ісці далей. Калючы халадок прадчування прайшоў праз сэрца...

На другі дзень пасля хаўтураў у вялікай, светлай, вокнамі да сонца, двухпакаёвай кватэры цёткі Ніны засталіся мы ўдваіх — я і сама гаспадыня. У астатніх сваякоў была работа, нейкія свае, няхай сабе і будзённыя клопаты, справы. Я ж быў у адпачынку. І ў мяне, халасцяка, дзеці дома не плакалі і жонка таксама не чакала...

— Ну вось, Валерык,— нарэшце заўважыла мяне цётка Ніна,— і пайшоў ад нас дзядзька Косця... Пасля таго як з'ездзіў з табою на раку, пабыў яшчэ тры дні дома і папрасіўся ў бальніцу. А то ўсё ўгаворваў мяне: Ніна, не плач, Ніна, мне палепшала... І я, дурніца, усё верыла, усё спадзявалася...

— А чаму вы мне не напісалі? — ледзьве выдавіў з сябе я і адчуў, як заказытала ў горле. Хутчэй адвярнуўся, пачаў глядзець у акно, за якім стаяў празрысты жнівеньскі дзень.

— А што было пісаць? Хіба ты сам не бачыў, які ўжо быў ён? — цётка ўсхліпнула, закалацілася ўся, паднесла да вачэй мокрую блакітную хусцінку і доўга стаяла гэтак па сярэдзіне пакоя, шчодра залітага сонцам. І я ўбачыў: перада мною стары бездапаможны чалавек, якога нельга пакідаць аднаго, пакуль ён хоць крыху не супакоіцца, не ўзаб'ецца на сілы. Ніяк

не скаўтнуць было гарачы ком, што ўсё стаяў, пёк у горле.

— Ой, Валерык!..— нечакана ўстрапянулася цётка.— Зусім памяць адбіла. Гэта ж ён, як я ўжо «хуткую дапамогу» выклікала, прасіў нешта перадаць табе. Куды ж я падзела той пакуначак?

Трымаючыся абедзвюма рукамі за галаву, цётка Ніна пахадзіла па зале і выйшла ў спальню. Балюча-балюча кальнула мне ў сэрца: я здагадваўся, я ведаў, што хацеў перадаць мне дзядзька Косця!

Нарэшце з'явілася цётка Ніна.

— Вось, вазьмі...— і працягнула мне срэбную блясну.

Ах, дзядзька, дзядзька!

## Танец дажджу

Ён стаяў пад маладым танклявым каштанам, у невялічкай ды густой кроне якога дружна ўсхапіліся белыя ёлачкі цвету. Непадалёку ад каштана, каля шэрага цэментовага слупа, густа абклеенага пашкамутанымі паперкамі аб'яў, быў пазначаны пагнутаю ржаваю шыльдаю з раскладам аўтобусны прыпынак. Цяпер на прыпынку было малалюдна. І, напэўна, таму ён здаваўся такі няўтульны, непрыемна пусты. Пасажыры стаялі на пляцоўцы сцяўшыся, унурыўшыся кожны ў свае думкі. Часам хтосьці адзін нецярпліва выбягаў на сярэдзіну вулачкі, выглядаў аўтобуса, што вось-вось павінен быў выруліць з-за трохпавярховай старой будыніны нейкага тэхнікума ці вучылішча.

Як і ўсюды, па ўсім вялікім горадзе, на гэтай нешырокай брукаванай вулачцы, што таропка збягала ўніз да ракі, часта кідаючыся то ў адзін, то ў другі бок, панавалі непрывычная глухая сцішанасць, ранняя радкаватыя яшчэ прыцемкі. З захаду насоўвалася навальніца. Яна цяжка і гулка ўздыхала частым погрымам, гразілася трапяткімі сінявата-калючымі маланкамі. Шырокім свабодным подыхам абдымала горад густая духмяная цяплынь. Аж не верылася, што зусім нядаўна валіў снег, галёстрылі паўночна-ўсходнія нізкія скразнякі.

Нечакана гаспадаром аб'явіўся вецер. Шырокі і дужы. Ліха, проста на вачах, уздыбіў цэлы слуп пылу і, падбіраючы на сваім шляху ўсялякае смецце, шпарка пагнаў яго ўверх па вулачцы. Людзі, што ну-

дзіліся на прыпынку, хіснуліся да сцяны паштовага аддзялення. Сёй-той паспеў нават заскочыць у тэлефонную будку.

Ён стрымаўся, не рынуўся ратавацца ад пылу, толькі заступіў за камель каштана і прыціснуўся да яго плячом.

Вецер як наляцеў, так і супакоіўся — раптоўна. Зноўку асела глухая сцішанасць. Ён паглядзеў на гадзіннік. Не, апошні аўтобус з прыгарада, дзе жыве яна, яшчэ не прайшоў, яшчэ ёсць надзея...

* * * Горад тады таксама ахіналі раннія прыцемкі. Як ніколі шэрыя, глухія, бо ад самага ранку, ні на мінуту не сціхаючы, сыпаў і сыпаў дробны, уедлівы восеньскі дождж. Варвашэвіч стаяў на задняй пляцоўцы трамвая, глядзеў, прыціснуўшыся лобам да халоднага мутнага шкла, на шырокую няўтульную вуліцу, на шматпавярховыя будыніны новых дамоў, абыякава слухаў дрынклівую старэчую жальбу растрэсенага вагона. І хацеў таго ці не — усё роўна зноў і зноў прыгадваў нядаўнюю аўдыенцыю з начальнікам упраўлення Лабовічам.

Наўздзіў, той сустрэў як заўсёды: выйшаў насустрач з-за свайго чорнага аграмаднага стала, што, здаецца, займаў палову кабінета; моўчкі крэпка паціснуў руку. І адразу, без усялякай дыпламатыі, гледзячы проста ў вочы, паціху сказаў:

— Значыць, вырваў кватэру — і ў ногі...

Нічога не заставалася рабіць, як прамармытаць штосьці невыразна ў адказ, ніякавата паціснуць плячыма.

— Давай, валяй...— пасля нядоўгага, ды цяжкага

маўчання стомлена выдыхнуў Лабовіч і, угнуўшыся, пасунуўся да свайго стала.

Вось і ўсё. Ніякай валтузні, выцягвання жыл. «Малайчына дзядзька Лоб! Апраўдаў сваё разумнае прозвішча...— як толькі выскачыў з кабінета, распірала дурная радасць.— Няхай другія панюхаюць хлеб будачага прараба. Аднакурснікі вунь даўно ў архітэктарах ходзяць, а нават кельмы ў руках не трымалі. А ён жа, Варвашэвіч, ішоў на размеркаванні ў першай пяцёрцы...»

Хутка, аднак, замест тае радасці скразняком прайшоў неспакой, а потым — варухнулася тупая злосць. І на самога сябе, і на Лабовіча... Ну, вядома, чакаў, што будзе прасіць застацца, карміць абяцаннямі, бамбіць пагрозамі. Як-ніяк — адзін з лепшых майстраў ва ўпраўленні. «Значыць, вырваў...» Ну вырваў, вырваў! Чатыры гады на яе ўбіў. І ўвесь гэты час не галавою — горлам будаваў. Хопіць быць коркам для ўсіх дзірак. Варвашэвіч туды, Варвашэвіч сюды... Тыя самыя грошы можна зарабіць і лягчэй, напрыклад, перакладваючы паперкі. І у пакойчыку, за прыгожанькім столікам...

...— Ваш білецік, малады чалавек! — зусім нечакана аб'явілася высокая, з мужчынскім скуластым тварам кантралёрка.

Паглядзеў доўгім абыякавым позіркам на жанчыну, павярнуўся назад да акна і няспешна пачаў трасці ўсе свае кішэні. Спачатку праваю рукою, затым — леваю. Кантралёрка цярпліва чакала. Нарэшце не вытрымала, спытала з недаверам:

— Вы хутка знойдзеце свой білет?

— Хутка, хутка...— не адварочваючыся нават, упэўнена кінуў ён праз плячо, і раптам дало ў галаву: грошы і праязны білет засталіся дома ў плашчы, ва ўнутранай кішэні, а цяпер на ім куртка! Заскочыў на кватэру і пераапрануўся, бо вечарам цягацца ў плашчы — ужо халаднавата.

— Плаціце штраф! — знарок моцна, каб пачулі ўсе пасажыры, выгукнула кантралёрка. І праўда — прыкмеціў адным вокам — сёй-той адтапырыў грэбліва губы, гідліва глядзіць у ягоны бок. І кантралёрка проста на вачах акрыяла, шчыра ўзялася выхоўваць на ўвесь трамвай.

— Як вам не сорамна! Вы думаеце, мяне абіраеце? Дзяржаву, народ вы абманваеце, а не мяне. А паглядзіш — салідны чалавек. Напэўна, з дыпломам...

— Няма ў мяне чым заплаціць штраф,— вычакаў момант, калі кантралёрка сціхла на імгненне, паціху сказаў Варзашэвіч.— Грошы разам з праязным білетам дома забыўся...

— Што-о?! Вы чулі?.. А ў міліцыю не хочаш? Вадзіцель!.. Заднія дзверы не адчыняй! — здагадалася, што дарэмна крычыць. Смешна матляючы доўгімі, як вяроўкі, рукамі, кінулася па салоне, заскочыла ў кабіну да дзяўчыны-вадзіцелькі і папярэдзіла яе. Зараз жа вярнулася назад, стала каля Варвашэвіча, нават учапілася ў ягоны рукаў.

— Ды не буду я ўцякаць,— усміхаючыся, сказаў Варвашэвіч.— Пусціце, а то рукаў яшчэ адарвеце.

— Ведаю такіх чэсненькіх... Мяне на мякіне не правядзеш,— упэўнена, з выглядам пераможцы сказала кантралёрка і не падумала забраць сваю руку.— У міліцыі разбяруцца быстра... І рубель памогуць знайсці, і яшчэ харошую паперку на работу напішуць...

«От дзе ўліп! І каб жа папраўдзе быў заядлы заяц... Напэўна, міліцыі сапраўды не мінаваць...»

Раптам пачуў: нехта асцярожна, далікатна гэтак кратае за плячо. І малады спеўны дзявочы голас.

— Вазьміце рубель і заплаціце штраф...

За плячыма пырхнулі рэдзенькім смехам і адразу ж падавіліся. Твар кантралёркі як скамянеў, адны скулы і засталіся. Сунуў ёй, бы жабрачцы, цёплую ма-

нету, і хутчэй адвярнуўся. І толькі пасля, як мага аддаляючы гэтае імгненне, паглядзеў туды, адкуль прыйшоў выратавальны спеўны голас.

На наступным прыпынку, якраз недалёка каля праспекта, выскачыў услед за ёю з трамвая. Адразу ж «пашанцавала»: абое трапілі проста ў лужыну. Няхай сабе невялікую і плыткую, але ўсё роўна — у лужыну. У трамваі засмяяліся. Тады ён, не доўга думаючы, падхапіў лёгкае, як пярынка, дзяўчо на рукі і перанёс праз тыя паўтара метра вады.

Трамвай скрыгатнуў дзвярыма, памалу пасунуўся далей.

Колькі хвілін яны стаялі моўчкі адзін супроць аднаго. Ён — як хлапчук з прыкушанай ніжняй губою, і яна — ціхая, разгубленая. Сыпаў дождж. Міма ляцелі, падымаючы пыркі, легкавушкі. І не заўважыў, як на яе вуснах — крамяных, прыгожых, нарадзілася завязь нясмелай усмешкі.

О, як яны нязмушана, светла смяяліся потым! І кожны адчуваў сябе сапраўдным дзіваком. Няхай сабе душацца над горадам шэрыя хмары, няхай сабе сыпле халодны восеньскі дождж. Яна выхапіла з сумачкі і распусціла блакітны вясёлы парасон.

— Хаваймася хутчэй!

І толькі цяпер ён блізка добра ўбачыў яе твар. Малады, з ледзь прыкметным ластаўчыннем пад вялікімі, нібыта здзіўленымі вачыма.

Канечне, здагадалася, што падумаў менавіта пра ластаўчынне. Вінавата, як усё роўна апраўдваючыся, сказала:

— Зімою зусім прападзе...

— А яно вам да твару.

— Праўда?

— Праўда.

Аж засвяцілася ўся, падрасла. І тут жа, як школь-

ніца, тузанула плечыкам, адвярнулася: «Знайшлі пра што гаварыць!..»

Перабеглі нарэшце праз вуліцу, выйшлі на праспект. Нейкі час ішлі моўчкі. Лужыны не абміналі — пераскоквалі праз іх. Чыталі ўсялякія аб'явы, афішы, разглядвалі вітрыны магазінаў. Аж нечакана яна спынілася, спытала з трывогаю ў голасе:

— А куды мы ідзем?

— І праўда: куды мы ідзем? — знарок весела, стараючыся перакінуць мосцік да тае нядаўняе лёгкасці, што была паміж імі, паўтарыў Варвашэвіч яе пытанне. Вычакаў крыху і горача прапанаваў: — Давайце заскочым да мяне! Высушымся, пазнаёмімся... Дарэчы, мяне завуць Валянцін... Павінен жа я аддзячыць.

— Надзя...— хуценька дадала: — Надзея...— і доўга, не міргаючы, глядзела яму ў вочы, нібыта хацела зазірнуць праз іх у саму душу. Пасля паціху сказала: — Дзякуй за запрашэнне, але я не магу пайсці да вас, Валянцін.

— ?!

— Мне трэба дамоў. А гэта няблізка,— усміхнулася слаба.— Сустрэнемся як-небудзь зноў у трамваі — тады і аддзячыце.

Доўга стаялі на сярэдзіне тратуара, замінаючы людскому натоўпу, які тут, на праспекце, не мялеў нават і ў непагадзь. Маўчалі. За абодвух гаварыў з парасонам дождж, што ўсё сыпаў і сыпаў.

Варвашэвіч, не хаваючыся, разглядваў дзяўчыну. Просценькі круглы тварык, вялікія, нібы азярыны, шэрыя вочы, каля даўгаватага, крыху задзёртага ўверх, як у Бураціна, носа — спелае зярнятка радзімкі. Дзяўчаты, з якімі сустракаўся раней, дый цяпер сустракаецца, як адна прыгажэй за яе, ярчэй. І — падатлівыя, ручныя, не такія дзікункі... Ну колькі ёй гадочкаў? Ад сілы дваццаць. Першакурсніца якога-небудзь тэхнікума ці інстытута. А мо нават школьніца. Яшчэ

па-дзіцячы даверлівая, добрая, і ўжо маленькі звярок, які, праўда, не навучыўся кусацца. Нічога, навучыцца... Высахне альбо абаб'юць расу наіву і ўсё вернецца «на кругі свая»...

Наперадзе быў бясконцы нудны вецер, і Варвашэвіч не спяшаўся развітвацца са сваёю новаю знаёмай. Чамусьці ўспомнілася, як, выскачыўшы з трамвая, падхапіў яе на рукі. Ажно не верыцца, што яшчэ здольны на гэткія штучкі. Даўно, даўно пара пераламаць сябе, пачаць сыпаць вясёлымі жартамі і камплімэнтамі. Інакш вузельчык не завяжацца, птушка ўздымецца на крыло. Выцягваць жа зашмальцаваную яшчэ студэнцкую запісную кніжку з тэлефоннымі нумарамі і, як «хуткую дапамогу», выклікаць якую-небудзь Люду ці Ларысу — не хацелася. Усё яшчэ спадзяваўся прабавіць гэты вечар з ёю, Надзеяй...

Абыякава міргалі, адбіваліся на мокрым асфальце праспекта халодна-блакітныя агні рэкламы, імчалі легкавушкі і аўтобусы, грукацеў непадалёку трамвай, можа, іхні трамвай. Нарэшце, гледзячы кудысьці ўбок, выдыхнуў:

— Ладна... Пачакайце мяне ў кнігарні. Я злётаю дамоў. Туды і назад — дзесяць мінут. Адно дайце слова, што будзеце чакаць. Сапраўды, павінен жа я аддаць вам рубель.

Вольна, свабодна павяла плячыма, паглядзела з хітрынкаю ў вачах.

— Трэба было кантралёрку запрасіць. Хоць не аштрафавала б...

— А манета, што ты дала мне,— перайшоў ён на «ты»,— была аж гарачая... Пэўна, не адразу адважылася памагчы?

— Ага, не адразу...

Ах, Надзея, Надзея! Няхай не аціхае халодны нудны дождж. Мне светла, добра пад блакітным тваім парасонам!

Потым, ідучы далей побач з Надзеяй, Варвашэвіч асцярожна, нібыта ў далонях, нёс у сабе, баючыся расплёскаць, дзіўнае, незнаёмае дагэтуль пачуццё незвычайнасці і гэтага шэрага будзённага вечара, і іхняга трамвайнага знаёмства. Даўно не чуў сябе так лёгка, добра, як цяпер во, побач з зялёным дзяўчом. І куды падзеліся, згінулі стомленасць, адзіноцтва, што яшчэ нядаўна каменем ляжалі на душы? Гаварыў, гаварыў, як усё роўна спавядаўся. Пра свой чырвоны дыплом і адсталага старога Лабовіча, пра аднакурснікаў, якія цяпер ходзяць у архітэктарах, і пра сваю шыкоўную, лічы, у цэнтры горада, двухпакаёвую кватэру.

— Лабовіч, канечне, спадзяваўся, што я з-за гэтай пячоры да самай ягонай пенсіі душыцца буду ў майстрах. А дудкі! Я сваё ўзяў. Прытым узяў чэсна. Няхай другі хто паспрабуе падняць на ногі любы самы цяжкі аб'ект. І не тры гады пасля размеркавання, а цэлую пяцігодку адбухаў. Так што ніякіх маральных путаў на сабе — таксама не чую. Я вольны. Болей мне няма чаго там рабіць.

— Скажы...— прыцішыла яна хаду і таксама перайшла на «ты»,— а бываючы пасля каля сваіх будынкаў, ты хвалюешся?

— А як жа! Падняць аб'ект — не гайку скляпаць. Гэта... Гэта як усё роўна помнік сабе паставіць. Што ні кажы, а ўсё-такі прыемна пры выпадку кінуць сябру ці каму знаёмаму — мая работа.

— А я зайздрошчу табе, Валянцін,— нясмела сказала яна.

— Разумееш, Надзя...— глыбакадумна ўздыхнуў Варвашэвіч.— Чалавеку, каб ён працаваў сапраўды творча, актыўна — патрэбен нейкі стымул. Ну, скажам, новая прыступка па кар'ернай лесвіцы або павышэнне заробку... Мне ж ва ўпраўленні, дзе я працаваў, нічога салíднага не прапанавалі. Хату далі, а ў

прарабскі хамут — сам не палез. Усё-такі я па сваёй натуры чалавек творчы, а не практык, таму больш карысці прынясу ў трэсце ці праектным інстытуце.

Потым быў цёмны гулкі пад'езд дванаццаціпавярховага дома, дзе жыў Варвашэвіч. Падымаючыся па няўдалых, плыткіх лесвічных прыступках, яна спатыкнулася і ненарокам схапілася за Варвашэвічаву руку. І — яму падалося — абы не маўчаць, сказала:

— Ты падумай яшчэ, Валянцін... Мне здаецца, неяк не па-людску ў цябе атрымліваецца, як быццам ты ўцякаеш. А людзі ж, напэўна, на цябе спадзяваліся...

«Зялёнка... Ну, канечне, зялёнка! — штосьці тугое, трапяткое варухнулася ў Варвашэвічавых грудзях.— Не петрыць у жыцці. Нічога, абатрэцца. Мы — таксама дапаможам...» — і, не адпускаючы руку дзяўчыны, ён нечакана прыгарнуў яе ўсю да сябе і, задыхаючыся, пачаў цалаваць у халодныя жаданыя вусны.

* * *

...Раптам праняло частымі непрыемнымі дрыжыкамі. Міжволі сцяўся ўвесь, звёў плечы. Рука сама пацягнулася дастаць цыгарэту. Доўга камячыў пальцамі «арбіціну», але так і не прыкурыў. А над горадам, над гэтаю старою, забытаю часам і людзьмі вулачкаю — ужо ўладарыла сапраўдная непраглядная цемень. І было такое трывожнае адчуванне, нібыта сядзіш у завязаным над галавою мяшку. Нічога не было відаць: ні каштана над галавою, ні аўтобуснага прыпынку, ні будынкаў. І не запальваліся ліхтары.

Непрыкметна апусціўся дождж. Нясмелы і цёплыцёплы. Спачатку яго было амаль не чуваць. Потым хтосьці нябачны не вытрымаў, пачаў таямніча нашэптваць. І разышоўся, перайшоў на аднастайную гаворку. Над галавою дружна азвалася каштанавае лісце.

А дождж усё спарнеў, дужэў. Недзе блізка ачнулася вадасцёчная труба і зайшлася — няхай чуюць усе! — у вясёлай балбатні. Першая буйная дажджынка скацілася па Варвашэвічавай шчацэ. Парасон з каштанавага лісця аказаўся не такі надзейны, як здавалася. Бегчы хавацца ў другое, больш надзейнае месца, было позна, дый не хацелася — усё роўна змокнеш да ніткі. Варвашэвіч прыціснуўся спінаю да каштана і, зажмурыўшыся, чакаў, жадаў таго імгнення, калі аслепіць блізкая маланка і сцёбне над галавою малады пярун.

Нарэшце, як заўсёды нечакана, мільганула трапяткое калючае святло і адразу ж услед за ім ляснуў, аж зазвінела ў вушах, сухі кароткі гром. Здаецца, яшчэ больш пацямнела. Зноўку жахнула, выхапіла з цемені пусты аўтобусны прыпынак маланка.

Сапраўды, чаго, каб хто спытаўся, ён тут стаіць? Усё ж добра, так як самому хацелася, як марылася. Ужо не трэба швэндацца ў стопудовых кірзачах па гразкіх аб'ектах, спрачацца да хрыпаты ў горле. Паседжвай сабе ў трэсце ва ўтульным цёплым кабінеце, варушы паперы, стагні, як усе астатнія супрацоўнікі (работы — не разагнуцца!), і будуй, будуй на паперы. Для натхнення якраз насупраць аж танцуе за сталом «джынсавая» Светачка-лабарантка. Плечыкі — вузкія, талія — з палец, а клубы — не адарваць вачэй. Фігура! І такая сціплая, гаспадарлівая, сама ездзіць на татавых «Жыгулях». А галоўнае — ні пра што лішняе не спытаецца, усё разумее без слоў. Дык чаго ён тут, чаго?!

«Галоўны» выклікаў нечакана. «Паедзеш з праверкаю да Лабовіча... Там табе кожная дзірка знаёмая. І пажадана без папераджальных званкоў...»

«От як усё мяняецца на свеце! — падумаў, выхо-

дзячы ад начальства.— Трымайся, дзядзька Лоб! Паскачаш ты пад маю дудку».

Назаўтра, роўна ў дзевяць нуль-нуль, шырока расчыніў дзверы, ступіў у знаёмы, да апошняй драпінкі на падлозе, кабінет. Лабовіч няспешна падняўся з-за свайго чорнага аграмаднага стала, пільна, запытальна ўзіраючыся, пайшоў насустрач. Сустрэліся ледзь не пасярэдзіне кабінета, парукаваліся. І не паспеў ён, Варвашэвіч, нат аказацца пра мэту свайго прыходу, як Лабовіч, не адпускаючы ягоную руку, радасна заўсміхаўся:

— Ну што, мо перадумаў?! Ты ж будаўнік, майстар, а не крэсла! Я верыў у цябе, спадзяваўся.

Чаго-чаго, а гэтага — Варвашэвіч не чакаў. «Ну і дае старыкан! Няўжо хто шапнуў пра праверку?» Пасля кароткай разгубленасці паспрабаваў аджартавацца, ды атрымалася няўдала, посна. Бачыў, як у момант з'абыякавелі Лабовічавы вочы, як няўклюдна павярнуўся ён і, быццам сляпы, пасунуўся назад да стала. Балюча-балюча кальнула ў сэрца. Стаяў пасярэдзіне кабінета і адчуваў, як гарэць вушы і шчокі.

Не правяраў, а пакутаваў. Ледзьве дачакаўся вечара.

Адразу, нікуды не заходзячы, паехаў дамоў. Ускочыў у трамвай, змучана ўсміхнуўся сам сабе і не стаў кампасціраваць білет. А раптам вернецца той далёкі кастрычніцкі вечар? Прад вачамі ўсплыў яе твар з дробненькім ледзь прыкметным ластаўчыннем каля носіка. «...Зімою зусім прападзе...» І добрыя шэрыя вочы, ад якіх так светла, так лёгка было тады! Дзе яна цяпер, Надзея? Як ёй жывецца?

Тады яна засталася ў яго. Шампанскае, далёкі тужлівы голас Дэміса Русаса з японскага магнітафона, абдымкі ў танцы пры свечцы. Толькі дзесьці пад раніцу, ■ мо і пасярод ночы, яна спахапілася, кінулася апранацца. Ён не стаў затрымліваць, адно папра-

сіў: «Напішы нумар свайго тэлефона. Заўтра сустрэнемся.— І дадаў: — Я вельмі хачу гэтага...»

Спынілася, апусціла рукі. І шэптам, дрыжачым голасам: «Вельмі-вельмі хочаш?..»

«Вельмі...— прытуліў да сябе, пацалаваў у прынадныя дзіцячыя вусны.— Вер мне...»

Аднак ні заўтра, ні паслязаўтра — не пазваніў. Так атрымалася... Закруціўся, забегаўся, а потым неяк і няёмка было званіць. Мо і добра зрабіў. Колькі іх бывае ў жыцці, выпадковых сустрэч?! Яшчэ нядаўна, гартаючы настольны перакідны каляндар за мінулы год, спатыкнуўся вачамі аб нейкі, ці не яе, нумар. Можа, і цяпер ёсцека, калі не вырваў той лісточак...

Нарэшце прыехаў дамоў. Не ўключаючы святла, як быў — у плашчы, прылёг на канапу. Думаў — усяго на хвілінку...

...Здаецца, яны кудысьці ішлі. Як дзеці, трымаючыся за рукі. Ён, Варвашэвіч, і яна, Надзея. Ішлі сучаснай, быстрай, што страла, але цяжкай для хады, шашою. І раптам, няведама адкуль, проста пасярэдзіне гладкага шэрага асфальту — зялёны лапік балотца. Самага сапраўднага, з блішчастымі стракозамі. Грэх не адпачыць! Хутчэй кінуў руку дзяўчыны і, знямоглы, упаў у траву. Цуд, а не балотца! Дзіця прагрэсу! Добра, вылежна. Адпачывай сабе на здароўе. Не вытрымаў, прыдрамаў. А калі прадраў вочы, здзівіўся: як высока, як далёка ад яго Надзея! Хацеў падняць руку, паклікаць да сябе яе. Балотца бы пачула ягонае жаданне: мякка гайданулася пад спінаю і паднесла да самай дзяўчыны. Навошта турботы! Хацеў схапіцца за працягнутую руку — не дацягнуўся, адчуў, як правальваецца некуды ўніз. «Нічога,— супакоіў сам сябе,— другім разам абавязкова дацягнуся». І — нема закрычаў, засмактаны па шыю чорнаю маўклівою багнай.

Прачнуўся ад настойлівага, несціхаючага тэле-

фоннага званка. Адразу пазнаў: Светка турбуецца. Толькі яна адна ўмее так неадчэпна дабівацца свайго. Нехаця падняўся, хіснуўся, быццам хворы, да акна, за якім уладарыла неспакойная веснавая ноч. Закурыў. Яшчэ мінуту ці дзве скуголіў тэлефон. Нарэшце падавіўся, замоўк. Тады ён уключыў таршэр, прысеў каля часопіснага століка, на якім горбілася цэлая куча старых газет і часопісаў, усялякіх папераў. Выкапаў сярод гэтага пыльнага багацця мінулагодні каляндар, пачаў паціху гартаць яго, вывучаючы кожны лісточак. З мноства ўсялякіх лічбаў, непазначаных прозвішчамі і імёнамі тэлефонных нумароў, адразу пазнаў — гэты. Не раздумваючы, падцягнуў да сябе тэлефон...

Доўгія, як вечнасць, гудкі — і трубку паднялі.

— Алё, алё!.. Паклічце, калі ласка, Надзю.

У адказ — маўчанне. Трубку, аднак, не палажылі. Мо дрэнна чуваць?

— Алё, мне трэба Надзея. Яна...— і сам замаўчаў: не ведаў, што гаварыць далей, бо акрамя імя ды тое, што яна жыве ў прыгарадзе, нічога больш не ведаў пра дзяўчыну.

Раптам на тым канцы, стрымліваючы сябе, хтосьці цяжка, перарывіста ўздыхнуў. Аж горача стала ад здагадкі.

— Надзея!.. Гэта я, Валянцін...— здаўлена, шэптам, загаварыў ён.— Ты помніш: вечар, дождж, трамвай... Ты помніш?

Ізноўку — у адказ ні слова.

— Прашу цябе: не маўчы! Я сёння быў у Лабовіча. Я табе расказваў пра яго, расказваў?.. Ён чакае мяне, чуеш?! Што я балбачу! Слухай: заўтра, у дзевяць гадзін вечара, каля пошты. Я хачу цябе бачыць. Я люблю цябе.

Да заўтра, Надзея!

* * * Раптам немагчыма стала глядзець, вочы засляпіла рэзкім непрыемным святлом. Не адразу здагадаўся, што гэта з-за чорнай прыземістай будыніны вырулiў прыгарадны аўтобус. Аўтобус, на якім павінна прыехаць Яна. Скаланула ўсяго, быццам ад холаду, і доўга не мог суняць праклятыя дрыжыкі. Сашчаміў намёртва зубы, нягледзячы на вострую рэзь у вачах, пачаў углядацца ўбок прыпынку.

Аўтобус сунуўся памалу, быццам навобмацак. Выкрадваў з цемені маладыя галавастыя каштаны, вялізныя цэментавыя слупы, шарыў, гайдаючыся на выбоінах, па сценах змрочных нежылых дамоў. Нарэшце насупраць пошты спыніўся. Варвашэвіч наструніўся, затым падаўся на дождж. Ён бачыў, як стоўпіліся каля сярэдніх расчыненых дзвярэй нядаўнія ягоныя кампаньёны — запозненыя пасажыры, як цяжка ўлазяць яны ў перапоўнены салон. Затым, проста па іхніх галовах, з аўтобуса вырваўся адзін мужчына, следам за ім — другі. І — нічога не стала відаць, з новаю сілай абрынуўся дождж. Спачатку ён стаяў сапраўднай непрагляднай сцяною. Хутка, аднак, стаміўся, пусціўся скакаць, танцаваць па вулачцы высокімі вадзянымі слупамі. Як зачараваны Варвашэвіч глядзеў на гэтыя незвычайныя танцы і не адважваўся рынуцца праз іх да прыпынку. «Паспею,— думалася яму,— няхай адно кранецца аўтобус...» А дождж усё не аціхаў, танцаваў. Ягоныя перарывістыя, але частыя хвалі то ішлі ўверх па вулачцы, то раптам праносіліся ўніз.

І нечаканы, як усё роўна аднекуль здалёку-здалёку, глухі працяглы сігнал. Варвашэвіч страпянуўся, падняў вочы. Якраз насупраць каштана, да камля якога ён ціснуўся спінаю, спыніўся аўтобус. Адна палавіна сярэдніх дзвярэй была крыху прачынена. Для яго прачынена. Пры жаданні — можна ўціснуцца бокам. А ён усё марудзіў, стаяў, як быццам прырос, не

мог адарвацца ад каштана. Нарэшце ў салоне не вытрымалі, са шчыліны вытыркнулася галава. «Чаго целішся? Хутчэй! Чакаюць жа цябе!..» Варвашэвіч кінуўся бегчы і, як спатыкнуўся, спыніўся за тры крокі ад аўтобуса, махнуў рукою: «Едзьце!.. Я застаюся!» Мужчына, які клікаў яго, вытарашчыў ад здзіўлення вочы, пасля пастукаў пальцам у скроню: «Ты што, звіхнуўся?!»

Аўтобус, перабіваючы шум дажджу, узвыў, рэзка рвануў з месца.

Праз імгненне навалілася такая глухая цемень, ажно стала вусцішна, гатоў быў пусціцца наўздагон аўтобусу. «Не прыехала... Не прыехала,— пульсавала ў галаве адна і тая думка,— не прыехала...» Стаяў, прамоклы да апошняй ніткі, і не ведаў, што рабіць, куды падацца. Затым на памяць прыйшоў нумар яе тэлефона. «Пазваніць! Зараз жа, не адкладваючы! Як яна так магла?!» Рашуча ступіў з-пад каштана: дождж — не дождж, калі кашуля на спіне прыліпла да цела, а ў туфлях ажно хлюпае. Толькі адышоўся крыху, з аднаго краю неба ў другі палахліва перакінулася маланка, на імгненне падарыла вулачцы дзённую віднату. Падалося: на прыпынку хтосьці стаіць. «Няўжо Надзея?!» Не паверыў, не адважваўся паверыць. Запаволіў хаду, чакаючы новага мігу. Як здоўжылася, якім было нясцерпным тое чаканне! Нарэшце,— калючы трапяткі бляск. Сапраўды: на прыпынку — жанчына, апранутая ў белую сукенку ці плашч. Здаецца, стаіць пад парасонам, бо не хаваецца ад дажджу, кагось чакае... Яна, Надзея!

Кінуўся бегчы. Проста пасярэдзіне вулачкі, каб раптам не зачапіцца за што, не ўзбіцца на дрэва ці які слуп. Бег усляпую. Далей выцягнутай рукі нічога не было відаць. Толькі б не праскочыць прыпынак, толькі б не размінуцца.

— Надзея-а!..

У адказ — проста ў вочы — яркае сліпучае святло. І ўсё-такі ён не адвярнуўся, выхапіў паглядам: на прыпынку ўжо нікога няма, яна бяжыць, танцуючы разам з дажджом, уверх па вулачцы.

«Не дачакалася!... Трэ было ляцець адразу, як толькі прысунуўся аўтобус!»

І — ён пабег яшчэ хутчэй, бо ў кожным новым маланкавым бляску бачыў перад сабою сваю Надзею, якая то аддалялася, то зноў набліжалася да яго.

# Калі адцвітаюць кветкі

Прыпаў жадліва, нагбом, да сонечнага драўлянага вядра калодзежнага жураўля і доўга не мог адарвацца, пакуль не пачуў над самаю галавою:

— Здарожыўся, сынок?

Як быццам ён з-пад зямлі аб'явіўся — гэты згорблены, высахлы ўшчэнт, падобны да абпаленага дрэва стары.

— Ага, стаміўся крыху... Спякота стаіць — дыхнуць няма чым. Што гэта будзе з агародамі?

Але ён нічога не сказаў на мае апошнія словы. Паглядзеў на мяне пільна выцвілымі да яснаты вачыма, спытаў нечакана:

— Скажы, а ці далёка, ці паўсюды на нашым гасцінцы асфальт пасцялілі?

— Не вельмі я прыглядаўся... Лячу во на гэтай,— кіўнуў на легкавушку,— ракеце, ажно ў вачах мільгаціць.— І дадаў, каб нейк падтрымаць гаворку: — Але там, дзе добра насыпалі на брук пясчаную падушку, асфальт — хоць яйка каці. І вы можаце махнуць у госці ці ў які санаторый.

— Не-е, сынок, мяне ўжо чакае другі санаторый...— ён павярнуўся, каб ісці, але прыпыніўся, сказаў паціху, нібыта пытаючыся ў самога сябе: — І праўда, відаць, сляпыя яны, калі не пашкадавалі, не пакінулі маіх кветак...

— Пра якія кветкі вы гаворыце? — пацікавіўся я.

— Як пра якія? — убачыў на ягоным твары нясхаваную крыўду.— Ды некалі пра іх уся ваколіца ведала! Усе ведалі! Усе!..

— От не слухайце вы лепш яго,— прысунулася да калодзежа, дзынкнула восілкамі паўнагрудая пажылая кабета ў старой зацёганай хустцы на галаве,— зусім пад старасць здзяцінеў... Колісь даўно, як мы яшчэ маладыя былі, ён гасцінец наш брукаваў. Дык от, нешта стукнула ў галаву і там, дзе канец кіламетру — гэткія вялікія, з нейкага белага чэсанага каменя, кветкі-рамонкі павыштукоўваў. А цяпер от ваюе, жаліцца ўсім, каб пакінулі іх, не замазвалі асфальтам, быццам без ягоных кветак людзі ездзіць не будуць па нашым гасцінцы...

— Сціхні! Сціхні, лебяда паганая! — бязладна замахаў доўгімі рукамі стары брукар, спыніўшыся ў веснічках свайго недалёкага панадворка.— Не для цябе яны цвілі, мае рамонкі! Не для цябе, як бы ты гэтага ні хацела!..

— А ўсё роўна, як бачыш, адцвілі,— кінула з'едліва кабета і схапілася за восілкі паўнюткіх вёдзер.— А Настуся твая сарочыла па сяле — вечна будуць цвісці!..

Перавальваючыся з нагі на нагу, мінула з ганарыста задзёртаю галавою суседа-брукара і схавалася ў панадворку насупраць, адкуль на ўсю вуліцу раўла прыгнатая на палудзень карова.

## Максімавы слёзы

...Цвяток радзімы васілька.
Максім Багдановіч

Позняю раніцаю, калі сонца злізала апошнюю расу, надумаў скочыць з чатырохгадоваю пляменніцаю ў блізкі малады хвойнічак, паглядзець казякі, як у нас гавораць. Кінуў у кішэню сцізорык з вышчэрбленым, з'едзеным за доўгія гады службы лязом, яна прыхапіла свой кошычак, велічынёю з мае дзве далоні — падаліся паўз агароды лёгкаю веласіпеднаю сцежкаю.

Неўзабаве былі на месцы. Пакруціліся крыху на рэдкім засмечаным узлессі і пашыліся ў самы гушчар. Я — паперадзе, пляменніца следам за мною, спатыкаючыся аб сухое ламачча, баронячы рукамі твар ад калючых хваёвых іголак.

— А ты прыгінайся часцей,— параіў я ёй,— лес любіць, калі яму кланяюцца.

— А чаму?

— Бо ён шэптам кажа, дзе грыбы растуць...

Пацерабіліся далей. Праз якую хвіліну ўбачыў праз плячо: дзяўчатка маё прысядае ледзь не перад кожнаю хваінкаю. І нарэшце доўгачаканы, ажно спалохана азваліся сарокі, радасны крык:

— Дзядзя Валера, лісічкі!..

Прысеў побач на кукішкі, даў у рукі пасля кароткай навукі сцізорык — пачала шчыраваць над дружнай сямейкай. А сама ад радасці, нібыта сарока тая, ні на імгненне не змаўкае.

— Дзядзя Валера, праўда, гэта лісіца-хітрыца грыбы пасадзіла?

— Праўда.

— Мама казала, што яна ў фартушку грыбы носіць...

— Ага, у фартушку... А знаходзяць лісічкі — толькі паслухмяныя добрыя дзеткі.

— Дзядзя Валера, праўда, я твая памочніца?

— Праўда-праўда, Таццянка.

Вярталіся дамоў паўз высокай, у чалавечы рост, жытнёвай сцяны, хораша аздобленай васількамі. Добрае блакітнае неба ажно звінела ад жаўруковай песні, і жыта пад лёгкімі павевамі ветру нахілялася, слухала натхнёнага спевака. Памочніца мая, як матылёк, весела пырхала далёка наперадзе. І здаваўся мне блакітным крылом вялікі букет васількоў у яе руцэ. А потым яна нечакана спынілася, дачакалася мяне, спытала, прыціскаючы васількі да сябе:

— Скажы, а хто васількі пасадзіў?

— Максім...— само зляцела імя з маіх губ.— Гэта ягоныя слёзы...

— Слёзы?! — страпянулася, нібы птушаня, жаласліва паглядзела на букет.— А чаму ён плакаў?

Доўга і горача штосьці расказваў ёй, чытаў на памяць Максімавы вершы, адчуваючы агонь слязы на вачах...

# Плыві, караблік!

I

Той студзеньскі дзянёк надоўга застанецца ў маёй памяці. Высокім, шкляным аж да звону купалам неба, чырвоным, крамяным яблыкам сонца, што нібыта з восені вісела на галіне пакручанай вятрамі чорнай старой яблыні і, вядома ж, вясёлым крактаннем снегу пад нагамі. Мы з таварышам спяшаліся берагам затокі Мухаўца на першыя агледзіны старажытнага Бярэсця — «горада пад дахам», як яшчэ трапна назвалі журналісты гэты надзвычай цікавы археалагічны музей у вялізным павільёне са шкла і бетону. У папярэдняй размове па тэлефоне супрацоўніца музея паведаміла нам, што да афіцыйнага адкрыцця комплексу — яшчэ некалькі месяцаў. Вядзецца парадкаванне верхніх нішаў-залаў. І таму не дзіва, што настрой наш, як, напэўна, кожнага з першых наведвальнікаў незвычайнага збудавання, быў святочна-прыўзняты. А тут яшчэ, каб да спрыту ды макавае зернятка ўдачы — можна выхапіць перыну з хваста фазана (чым не жар-птушка?!), які зноў перамахнуў сцежку перад самымі нашымі нагамі. Далей — яшчэ цікавей: у вялікім незамерзлым акне затокі каля нашага берага мы нечакана згледзелі цэлы качыны вывадак. Думалі, што качкі адразу возьмуцца на крыло, а яны наадварот збіліся ў купку да самага краю палонкі, чакаюць гасцінца. Пашкадавалі, што няма з сабою ні кавалачка хлеба, хоць ты бяжы назад праз мост да буфета турыстаў, дзе прадаюцца ўсялякія прысмакі. Што ж, дзякуй за давер, птушкі! Паклон і табе, доб-

рас чалавечае сэрца, што, прыручыўшы іх, не пакідаеш у бядзе.

А пасля... Пасля здарылася тое, [redacted] чаго, відаць, і трэба было пачынаць. А ці ў вас хапіла б адвагі адразу павесці гаворку пра сваё падарожжа ў... XIII стагоддзе? А менавіта там, нават без «машыны часу», апынуліся мы праз паўгадзіны.

## II

...Я стаяў пасярэдзіне вузенькай, як прасунуцца аднаму возу, вулачкі, вымашчанай няроўнымі колатымі дошкамі. Па абедзве рукі цесна ляпіліся адна да адной драўляныя хаціны з вокнамі, падобнымі да байніц. І ні душы навокала. «Дзе ж падзеліся гаспадары?» — думаў, не адважваючыся ісці далей. Раптам убачыў: з аднае хаціны, што ў самым канцы вулкі, на рагу, праз шчыліну акенца сыплюцца на насціл нейкія шчэпкі і стружкі. Хутчэй падаўся ў той бок, і за маёю спінаю чалавечымі галасамі глуха азваліся дошкі і лагі пад імі. Нарэшце ступіў на парог, шырока расчыніў дзверы — і застыў ад здзіўлення: у куту хаціны сярод раскіданых на гліняным таку дошак, сярод абручоў, развешаных па ўсіх сценах, стаяў чалавек у доўгім масцеравым фартуху. Перад ім, расхінаючы, як сонца, чорныя курныя сцены, прыгожа яснела новая, толькі што зробленая і пасаджаная ў абручы бочачка. Майстра аднак зусім не дзівіўся на гэтае хараство. Усміхаючыся сам сабе, ён шчыраваў долатам над кавалачкам дрэва, што хаваўся ў ягонай шырокай далоні.

— Добры дзень! — нарэшце адважыўся парушыць маўчанне я.

Але ён нават не падняў вачэй у мой бок. Я не пакрыўдзіўся, усё гэтак жа, з парога, зноўку спытаў:

— А дзе ўсе людзі?

— На сцяне...— нібыта пачулася мне.

— На сцяне?

— Ага, ізноў татарва стрэламі сыпле, падкоп пад нашыя вежы робіць...

— А вы чым такім пільным заняты цяпер?

— От, цацку дзіцячую раблю...

— А чаму разам з усімі не на сцяне?! — крыкнуў я праз пранізлівы свіст стрэлаў і звон мячоў.— Чаму не на сцяне!!

Моўчкі апусціў рукі і падняў уверх фартух.

Бязногі, ён, здавалася, вырастаў з магутнага сасновага камля, на якім сядзеў. Хіснуўся падбегчы да яго, але зачапіўся за парог, пачуў, як пякуча праняло далоню.

— Асцярожна! — пачуў за спінаю малады ўсмешлівы голас супрацоўніцы музея, якая згадзілася быць нашым экскурсаводам.— Гэтак вы ўсю нашу гісторыю зломіце...

— Няўжо яна такая крохкая? — адгукнуўся аднекуль з другой хаціны мой таварыш.— Вунь колькі стагоддзяў стаяла, вытрымае і далей.

— Гэта дзякуючы спецыяльнай хімічнай апрацоўцы,— растлумачыла дзяўчына і зноўку ўсміхнулася мне: — Праўда, ву-у-нь тое бервяно, што стаіць у куце, падобна нечым да чалавека? Асабліва з галавы...

— Вельмі падобнае...— пагадзіўся я, выціскаючы з далоні стрэмку і кропельку крыві...

III Яна зусім раздобрылася, нашая мілая праважатая.

— А цяпер давайце забяжым у адміністрацыйны будынак, пакажу вам вельмі цікавыя рэчы, якія знайшлі тут пры раскопках.

Праз некалькі хвілін таварыш мой лёгка разрэзаў нажніцамі XIII стагоддзя паперу XX, а я тым часам

расчасаўся, вядома, таксама з дазволу, грэбенем прашчураў. Кемлівыя ўсё-такі былі яны, нашыя продкі: расчэсваўся, а перад вачамі мільгалі ў руцэ надрапаныя на грэбені літары з азбукі-кірыліцы. Аз, букі, ведзі...

Чаго толькі не ўбачылі мы тады! Сярпы, косы, драўлянае рала, сашнік, некалькі лёнамялак, жаночыя ўпрыгожванні, якім пазайздросцілі б самыя-самыя модніцы. Але больш за ўсё было вайсковага рыштунку — наканечнікаў ад стрэлаў і дзідаў.

— Навошта гэтулькі было збіраць? — паціснуў плячыма мой таварыш.— Яны ж падобныя ўсе, як дзве кроплі вады.

— Ну што вы...— запярэчыла дзяўчына.— Гэта надзвычай каштоўны археалагічны матэрыял.

Затым маё вока зачапілася за нейкі чорны, быццам абвуглены, кавалачак дрэва. Я асцярожна ўзяў яго ў рукі і доўга, здзіўлены, трымаў перад сабою.

— Так, так... Гэта дзіцячы караблік з кары,— сказала, зразумеўшы мяне, дзяўчына. І дадала ўсміхаючыся: — Буслы і тады не гультайнічалі, спраўна прыносілі дзяцей... А яны не менш любілі цацкі, чым нашыя...

Дык вось, аказваецца, чаму ўсміхалася тое бервяно-бондар у хаціне!

Стаяў, трымаючы ў руках сапраўдны цуд, і думаў: «Як добра, што ты з'явіўся, караблік!»

Потым вяртаўся назад у казачны, ружова-заснежаны горад, любаваўся неабдымнаю светлаю прасторах палеткаў, бачыў добрыя спагадлівыя вочы сябра і, хмялеючы ад шчасця, гаварыў сам сабе: «Які ты прыгожы, наш караблік!»

І цяпер, схіляючыся над чыстым аркушам паперы, бы замову шапчу:

— Шчаслівай дарогі, караблік!

# Змест

**Ягоўдзік У.**

**Я 30** Стронга: Аповесць і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 182 с.— (Першая кніга празаіка).

50 к.

Героі першага зборніка прозы маладога аўтара — яго равеснікі, моладзь. У кожнага з іх свой лёс, свае клопаты, але ўсе яны сваімі ўчынкамі і ўзаемаадносінамі сцвярджаюць дабрату і чалавечнасць, маральную чысціню, характэрныя для нашага сучасніка.

Я $\frac{4702120200-082}{М\ 302(05)-84}$ 43—84

ББК84Бел7
Бел2

Первая книга прозаика

Владимир Иванович
Яговдик

СТРОНГА

Повесть
и рассказы

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Е. А. Пяршай. Мастак У. М. Жук. Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. М. Собалева.

ІБ № 2023

Здадзена ў набор 07.09.83. Падп. да друку 05.04.84. АТ 06547. Фармат 70×100$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,42. Ум. фарб.-адб. 7,74. Ул.-выд. арк. 7,59. Тыраж 9000 экз. Зак. 4035. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Уладзімір Ягоўдзік нарадзіўся ў 1956 годзе ў вёсцы Кастровічы Слонімскага раёна. Вучыўся ў школе на Гродзеншчыне, затым скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна.



Працаваў у рэдакцыях газет і тэлебачання, цяпер — супрацоўнік штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Неман», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», а таксама ў іншых рэспубліканскіх выданнях. Брэсцкі абласны тэатр лялек паставіў п'есу Ул. Ягоўдзіка «Залатое зярнятка».

50 к.